БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

# ЗЬ БІЯГРАФІІ

***Дрэвы мае вырасьлі хвойныя, зялёныя,***

***з хаты мяне вынесьлі — ў неба пазіраў,***

***вочы мае плакалі — сьлёзанькі салёныя,***

***ручкі мяне краталі, каб не паміраў.***

***Не рабіў вялікага — лаяўся для вечнасьці***

***словамі на літару маленечкую «бэ»,***

***я, паэт мясцовай беларускай нацменшасьці***

***з пашпартам сіненькім рэспублікі эРБэ.***

*26 сьнежня 1997 году*



# Weißrußland

*Беларусь у павучыньні таемных змоваў*

Увесь мінулы год самыя розныя ўстановы ў краіне, ад Савету Бясьпекі да Інстытуту заалёгіі АН Беларусі, займаліся распрацоўкай праекту стварэньня агульнанацыянальнай кропкавай свабоднай эканамічнай зоны на тэрыторыі ўсіх абласьцей. Гэты праект мае назву «Залатое кальцо Беларусі» (адзін з рабочых варыянтаў — Weißrußland) і быў запачаткаваны ў межах Праграмы Разьвіцьця ААН. Першапачаткова размова йшла пра рацыянальнае й эфэктыўнае выкарыстаньне культурнае спадчыны і каштоўных прыродных комплексаў. Але паступова ў калідорах Адміністрацыі праект ператварыўся ў пачварную канцэпцыю адчужэньня нацыянальных скарбаў ад беларускага народа. Цішком рэжым стварае дзяржаву ў дзяржаве — са сваімі землямі, электрастанцыямі, аэрадромамі й чыгункамі. Употай ад грамадзтва рыхтуецца чарговае беспрэцэдэнтнае злачынства...

*Падрабязна пра гэта чытайце ў наступным нумары «НН».*


# НАША НІВА

**№ 1 (98) 12 студзеня 1998 г.**




# НАДАКУЧЛІВЫ АНЭКДОТ

Калі над Беларусяй зноў узышоў савецкі герб і па-над усімі канторамі былі вывешаныя бальшавіцкія сьцягі, адзін мой знаёмец цынічна радаваўся. «Уяўляеш, як лёгка цяпер будзе нам здабыць палітычны прытулак за мяжой? Грамадзянам з краіны з такімі сымбалямі. Для гэтага нам нават не спатрэбіцца шмат пакутаваць. На іх камэдыю мы адкажам сваёй. Выйдзем пад нашымі сьцягамі ці раскажам анэкдот пра Лукашэнку. Сапраўдныя тэрміны ды катаваньні нас наўрад ці чакаюць. А вось візы, пашпарты і ўсё астатняе будзе сапраўдным». Казалася гэта ўсё ў невясёлым траўні 95-га. Але літаральна праз год ягоная балбатня пачала ўвасабляцца ў жыцьцё. Камэдыі, праўда, было малавата. Але пашпарты й візы некаторыя камэдыянты здабылі насамрэч бязь лішняй затрымкі. З тае пары ў беларускім мастацтве ўсё часьцей стаў зьяўляцца адзін і той пэрсанаж. Ён зьяўляўся на старонках літаратурных газэт. Ценем у апавяданьнях ЛІМа й чырвонай ніткай у нашаніўскім «Грамафоне», дзе ў большасьці твораў маладыя аўтары заганялі таго пэрсанажа ў дамавіну. Ён стаў надзвычай папулярным героем андэграўндавага мастацтва. Колькі песень было адсьпявана яму. Матыў, праўда, пераважаў адзін і той самы — разьвітаньня. Ад шчырага «Go home» «Новага Неба» да патэтычнага «Тав振рыш маёр, вядзі нас на Ўсход» Андрэя Мельнікава. Асабліва часта той пэрсанаж пазнаваўся на тэатральных падмостках сталіцы. Дзе ён выступаў пад рознымі імёнамі, часта размаўляў словамі, напісанымі зусім не пра яго й задоўга ад ягонага нараджэньня. Але чым большым і трапным было пазнаваньне, тым гучнейшымі былі авацыі. Такой папулярнасьці можна пазайздросьціць. Тым больш немагчыма абысьці яе ўвагаю, калі адна толькі наяўнасьць таго пэрсанажу гарантуе скандал, а значыць і посьпех.

Гэткі да непрыстойнасьці часты зварот дзеячоў мастацтва да аднаго й таго ж героя, на маю думку, тлумачыцца не адной толькі злосьцю. Ёсьць і пэўны разьлік. Разам з учорашнімі сымбалямі жартаўніца-гісторыя дала нам шанец выкарыстаць тое, што не было выкарыстана нашай культурай учора. Як ні круці, а комплекс адсутнасьці культурнага дысыдэнцтва ў некаторых з нас маецца. Асабліва ў тых, хто нічога не напісаў «у стол» ці «для вывазу за мяжу» тады, калі, у горшым выпадку, за гэта можна было атрымаць сібірскую візу. У даўгавечнасьці чырвонага рэжыму, здаецца, ня ўпэўненыя і самі чырвоныя. Таму трэба сьпяшацца. А то рэжым рухне, і тады прыйдзецца даваць адказ, гледзячы ў суворыя вочы таварышаў па пяру, — чым ты займаўся, калі нашай краіне й культуры было так цяжка? І чым больш гучным быў твой анэкдот, тым большымі будуць дывідэнды. Анэкдатычнасьць сытуацыі ўзмацнялася яшчэ й немагчымасьцю ўсур'ёз апяваць таго пэрсанажа з процілеглага боку. Калі газэтныя артыкулы пра вялікага й мудрага кіраўніка выглядаюць вартым жалю рэліктам з 40-х гадоў, то песьня «Товарищ президент» Эдуарда Ханка ўспрымаецца як тонкі зьдзек.

Якімі яны выглядалі сьмешнымі ды забаўнымі ў першых карыкатурах — Ленін у Аверчанкі, Гітлер у Чапліна. Аднак тыранам нічога не перашкодзіла стаць тыранамі, карыкатуры ж вялікіх майстроў наўрад ці хто з шырокай публікі памятае. Адзіны верш Восіпа Мандэльштама пра «крамлёўскага горца» пераважае пазьнейшыя рыфмаваныя тамы пра «ката» й «людажэра». І справа тут ня толькі ў страшнай даце напісаньня й дэманічнасьці асобы, але, перш наперш, у самым тво-

*Працяг на старонцы 3.*

***Рэдакцыя «НН» дзякуе ўсім чытачам, якія павіншавалі нас з Калядамі і Новым годам.***

# Не аддамо Беларусь злодзеям!

Самы гаротны на зямлі народ беларускі, бо суседзі ўкралі ў яго душу і падмянілі іншай, а са сваёй прыгожай беларускай душой засталося ня вельмі шмат. Ніяк ня могуць зразумець, хто не беражэ гонару, што беларусам не патрэбны ніхто, акрамя іх самых, а іншыя — толькі зь вялікім абмежаваньнем для звычайнага сяброўства і ня больш таго. Бо шавіністы выкарыстоўваюць сяброўства ў якасьці прыманкі для асыміляцыі. І калі хто зь беларусаў захоча, ня дай Бог, аб'яднацца з суседняй дзяржавай і страціць сваю дзяржаўнасьць і нацыю, то гэта стане трагедыяй для яго самога і ўсяго астатняга народу, якому ён здрадзіў. Толькі дурань шкодзіць сам сабе, і такія, на жаль, ёсьць.

Навошта станавіцца палякамі або расейцамі, калі гісторыяй і нашымі продкамі наканавана заставацца беларусамі — ліцьвінамі, як раней мы называліся паводле свайго этнічнага паходжаньня.

Але нейкае шавіністычнае мурло, зневажаючы нас і імкнучыся падмануць, гаворыць:

— Якія беларусы? Такога слова і дзяржавы пад назваю «Беларусь» не было, бо ў летапісах нідзе не запісанае.

А ці ведае гэтае мурло, што калі яшчэ Масквы як дзяржавы і сучаснай расейскай нацыі не існавала, на ўсім абшары ад Беластока да Смаленска, ад Полацка да Пінска нашы продкі гаварылі па-беларуску, нават ня ведаючы, што іх пазьней назавуць беларусамі, бо самі раней так сябе не называлі. Назавуць для таго, каб падмануць, што іх не было, назавуць, каб пазбавіць назвы «ліцьвіны» і прыцягнуць штучна да Расеі, якая раней яшчэ не існавала, калі беларусы пад іншаю назвай — Літва, ужо жылі на сваёй зямлі. Нават трус або заяц, калі яго гіпнатызуе удаў, каб праглынуць, супраціўляецца і пішчыць, не жадаючы лезьці ў пашчу. Удаў робіць выгляд, што любіць зайца, але ў сапраўднасьці любіць не яго, а зайчаціну. Вось чаму «братэрскія» абдымкі ўдава сьмяротныя для зайца. Дурань ты, братка-беларус, калі гэтага не разумееш, што ўдаў ня можа стаць тваім сапраўдным братам, бо ён драпежнік і небясьпечны здольнасьцю гіпнатызаваць сваіх ахвяраў. А ты, братка-беларус, сам небясьпечны сваёй радзіме здольнасьцю паддавацца гіпнозу і самаашуканству. У затурканых рабоў вытраўленае пачуцьцё радзімы.

Неяк аднойчы выпадкова давялося пачуць, як вучні па сваёй дзіцячай наіўнасьці гаварылі паміж сабою, што яны ня любяць беларускай мовы, якую ім даводзіцца вучыць, а вось расейская мова ім больш падабаецца. Уражвае тое, што большасьць гэтых дзяцей напэўна беларусы, але ў малым узросьце чалавек яшчэ ня мае ўласных поглядаў: ён іх пераймае ад бацькоў і выкладчыкаў. Такім чынам, русыфікацыя і асыміляцыя беларусаў працягваецца, і ад нас перш-наперш імкнуцца адняць будучыню — нашых дзяцей. А мы іх не баронім і іхныя бацькі, на жаль, застаюцца абыякавымі, а некаторыя нават дапамагаюць супраць сябе. Нацыянальнае адраджэньне Беларусі — гэта ратаваньне нацыі і дзяржавы ад гістарычнай і этнічнай згубы. І ня толькі таму, што ёсьць замежныя сілы, якія хочуць пазбавіць нас незалежнасьці і адметнасьці і ўніфікаваць з сабою, але й таму, што сярод нас самых ёсьць гатовыя аддаць сваю незалежнасьць за нішто. Гэта ўнутраныя акупанты і калябаранты. Але свабода перашкаджае толькі рабам. Беларусь, як украдзенага каня, цягнуць да сябе злодзеі, а ім яшчэ дапамагаюць свае ж «памяркоўныя» здраднікі, падштурхоўваючы каня ззаду і дапамагаючы злодзеям сабе на шкоду. Злодзеі Беларусі — гэта замежныя шавіністы, унутраныя акупанты і нашы калябаранты.

А той гаротны белы конь, сымбалізуючы Беларусь, зь якога злодзеі ўжо сьцягнулі вершніка зь мячом і шчытом, з апошніх сіл супраціўляецца і ня хоча ісьці да чужынцаў. Няўжо аддамо гэтага каня чужынцам?

Не аддамо Беларусь злодзеям! Жыве Беларусь!

**Марат Гірко, Менск**

# Закон аб каталанскай мове

Акурат напрыканцы 1997 году Каталунья (альбо на лацінскі манер, Каталонія — гэтак яе чамусьці называюць у нас), паднесла сюрпрыз гішпанскаму ўраду: аўтаномны ўрад Каталуны прыняў закон аб каталанскай мове, згодна зь якім усё навучаньне ў школе адбываецца на каталанскай мове. Кастыльская — інакш гішпанская — мова зьяўляецца факультатыўнай і вывучаецца па жаданьню бацькоў альбо вучняў. У ВНУ мова зносінаў выкладчыкаў і студэнтаў не рэглямэнтуецца. Усе шыльды мусяць мець каталанскі тэкст, хто ня выканае гэтай умовы, будзе пакараны. Спагнаньні чакаюць і службоўцаў, якія паспрабуюць грэбаваць каталанскай моваю ў афіцыйных зносінах.

От закон, дык закон!

Вядома, вядома, гэты законны акт абароны нацыянальнай годнасьці каталанцаў выклікаў абурэньне гішпанскіх імпэрыялістаў. Намесьнік гішпанскага прэм'ера выказаўся так: «Закон пярэчыць духу свабоды і сужыцьця». Лідэр каталанскіх нацыяналістаў Джордзі Пуджоль, які ўжо шмат гадоў узначальвае мясцовы кіроўны орган «Джэнэраліітат» даў годны адказ першым наскокам на новы закон.

Калі ўлічваць, што Каталуньня мае сур'ёзныя намеры быць прадстаўленай у эўрапейскіх структурах самастойна — а гэта б азначала незалежнасьць дэ факто, дык новы закон — лягічная прыступка да такой незалежнасьці.

Беларускія нацыяналісты вітаюць патрыётаў Каталуны і жадаюць ім посьпехаў.

Каталанская буржуазія заўжды вызначалася файным патрыятызмам і амбітным нацыяналізмам і мае чыстае бруха, бо ніколі ня поўзала перад «старшым братам».

Мы прагнем больш дэталёвага камэнтару сп... (даруйце, кампаньера) Лёліка Ушкіна, а таксама хочам пачытаць тэкст закону на бачынах «НН».

Шчасьлівага Новага году!

**Мікола Бусел, Дуброва**

# «Беларускі калегіюм»

У сувязі з інфармацыяй, што прайшла ў нашых mass-media, пра ўтварэньне адукацыйнага праекту «Беларускі калегіюм» хачу прадставіць сваё бачаньне гэтай справы.

Літаральна ўчора прачытаў «Rzeczpospolitę», і там была вельмі цікавая інфармацыя пра тое, як наладзіць палянійную адукацыю ў глыбіньі «Крэсаў». Каб ня толькі палякі Горадні ці Вільні маглі вучыцца мове і гісторыі, але і з самай аддаленай вёскі чалавек мог бы браць удзел у гэтай працы. Пасярэднік у гэтым працэсе — пошта. Праз пасярэдніцтва пошты праект «Беларускі калегіюм» можа стаць агульнабеларускім. Для гэтага, мне падаецца, трэба правесьці рэкляму ў сродках масавай інфармацыі. Ахвотныя маглі б зьвярнуцца на адрас рэдакцыі і падаць свой адрас, на які былі б высланыя пытаньні і заданьні, а таксама сьпіс літаратуры, якой можна карыстацца для разьвязаньня гэтых заданьняў. Пасьля ліставаньня такому ахвотніку можна выслаць заўвагі і тлумачэньні. Раз на паўгады сэмэстар можна ладзіць у Менску, а таксама ў вялікіх гарадах Беларусі. Сэмінары і сустрэчы вучняў з выдачай пасьведчаньня аб заканчэньні калегіюму, якое давала б сатысфакцыю ўдзелу ў агульнанацыянальнай справе, бо сымболіка ў жыцьці чалавека шмат што значыць. Калі ж праект «Беларускі калегіюм» застанецца толькі «Менскай справай» і не ахопіць усіх ахвотных нават з малых вёсак і мястэчак, ён вялікага посьпеху, на мой погляд, мець ня будзе, а стане справай «эліты» для эліты.

З павагаю,

**А.Моргун, Баранавічы**

P.S. Яшчэ раз апэлюю да вас, не забывайцеся на правінцыю, там шмат цікавых, ахвотных да дзейнасьці людзей, паважыце іх агульнадаступнай працай са сталіцай эліты Менскам.

# Мы ня ведаем сваёй мовы

Зь нядаўняга часу прыахвоцілася да чытаньня незалежных газэтаў, такіх як «Народная воля», «Свабода» (праўда, яе ўжо закрылі) і вашай газэты. Чытаю не рэгулярна (не дазваляюць грошы), але дастаткова часта. І вось вырашыла і я напісаць ліст, выказаць свае меркаваньні. Вядома, прывабна ў газэтах напісана пра пабудову ў нас у Беларусі дэмакратычнай дзяржавы, але гэта нязбытная ваша мара (на маю думку). Чаму? Па-першае, вы зусім малая колькасна арганізацыя, якая разьлічаная на элітарнае кола людзей (да вас жа не далучаюцца масава), падругое, вас увесь час душыць адміністрацыя прэзыдэнта: разганяе дэманстрацыі, спаганяе велізарныя штрафы (грошы, якія пайшлі б на добрыя мерапрыемствы), па-трэцяе, калі б вы нават і прыйшлі да ўлады, вас наш народ не зразумеў бы, ён бы ў хуткім часе скінуў вашую ўладу. Ужо шмат магчымасьцяў страчана, ды й зараз наўрад ці можна прыйсьці да ўлады мірнымі сродкамі. Вось перад самым закрыцьцём «Свабоды» там быў артыкул Зянона Пазьняка (забылася яго назву), у якім даводзілася, што неабходна неадкладна адхіліць ад улады прэзыдэнта і ягоную адміністрацыю. Але ЯК гэта зрабіць? І ХТО будзе гэта рабіць? Ён жа яе так проста не аддасьць. Гэта выкліча крывапраліцьце. Толькі нашто такія ахвяры, тым больш чалавечыя жыцьці, гэта ж жахліва.

Але, вядома, ніхто гэтага ня будзе рабіць. Калі й Зянон Станіслававіч нічога ня мог зрабіць і яму давялося тэрмінова паехаць адсюль, то й ніхто ня зможа гэтага зрабіць. Ды й народу гэта не патрэбна. Іх задавальняе такі прэзыдэнт, які зараз ёсьць, інакш яны б на прэзыдэнцкіх дэмакратычных выбарах у 1994 годзе яго не абіралі. І вось што атрымліваецца: на словах наш Лукашэнка абяцае рай на зямлі ў хуткім часе, а на справе ўсё вельмі марудна рухаецца ў процілеглы бок. Тавараў на зарплату можна купіць усё менш і менш, дый увесь заробак урэшце ідзе на прадукты (але ўсё адно не на тыя, якія хочацца купіць, а на такія, каб проста ня быць галодным). І народ у большасьці задаволены такім жыцьцём. Яны вераць словам прэзыдэнта, які кажа, што хутка надыдзе дастатак, а вас лічаць за ворагаў, выходзіць, што менавіта вы замінаеце прэзыдэнту наладзіць добрае жыцьцё.

Увогуле, я прыходжу да высновы, што хутка ваша арганізацыя разваліцца (яе задушаць улады), а Беларусь рана ці позна станецца часткаю Расеі. Народ прагне далучэньня да Расеі, у гэтым ён бачыць свой будучы росквіт, пра гэта яму ўвесь час даводзяць з экранаў тэлевізараў.

І яшчэ, мне здаецца, што самая галоўная хіба палягае ў тым, што мы ня ведаем сваёй мовы. Мы ня нацыя. Мы не беларусы, мы ўсе да аднаго расейцы, толькі лічымся па пашпарту беларусамі. Мы ж самі кідаем брудам у сваю мову, самі са сваёй мовы сьмяемся, нам сорамна размаўляць на ёй, сьмяемся самі зь сябе, так выходзіць. І ў гэтым наша вялікая трагедыя. Магчыма, і выбары прэзыдэнта ў 1994-м годзе прайшлі б інакш, калі б мы ведалі мову. Мне спадабалася, калі ў нас адным часам на аўтавакзале, гады два таму, пачалі аб'яўляць расклад аўтобусаў на беларускай мове. Я адчула раптам, што я не расейка, а менавіта беларуска, у мяне зьявілася нават нейкая гордасьць, што мы адрозьніваемся ад расейцаў. Але пасьля па радыё, тэлебачаньню нам пачалі ўводзіць у вушы, што беларуская мова — гэта калгасная мова. І калі б усе гаварылі на роднай мове, то, можа, і не карцела б асноўнай масе далучацца да Расеі?

На гэтым заканчваю ліст. Выбачайце, калі надакучыла вам, і вы дачыталі яго да канца (а ня кінулі ў кошык). Папросту напісала, адчуваючы безвыходнасьць, таму што ніколі ўжо ня буду жыць добра, нават калі і дажыву да глыбокай старасьці (мне 28 гадоў), ад змрочнага жыцьця.

З павагаю,

**Ксенія Паўленка, Ворша**

# Наміналісты, злучайцеся!

Як прыемна ўсё ж даведацца, што думкі нейкага старонняга, зусім невядомага чалавека супадаюць з тваімі. Я маю на ўвазе «Вырачэньне чужога імя» Ўладзімера Лобача (№97). Сапраўды, Імя (Nome) асобы фізычнае або калектыўнае (этнас) нейкім магутным чынам прадвызначае ўсё ейнае жыцьцё. Імя адлюстроўвае сутнасьць. Гэта відавочна для мяне, Ул.Лобача, іншых. Такім чынам, наміналісты ўсяго краю, злучайцеся!

Але колькі людзей не згаджаюцца з гэтым.

— А якая розьніца, як называцца, — кажуць яны. — Абы была дэмакратыя й «нармальная» эканоміка. (Гэта ў лепшым выпадку, у горшым — абы чарка ды скварка.)

Чаго зьдзіўляцца, атрутаю вульгарнага «практыцызму» й матэрыялізму засьмечаныя мазгі ня толькі паспалітых, але й інтэлігенцыі, нац. адраджэнцаў (былых?) ды «просто людей демократических убеждений, которые понимают необходимость возрождения национального белорусского языка».

Дык вось жа, часы матэрыялізму, рацыяналізму мінулі. Шэрагі наміналістаў папаўняюцца з кожным месяцам. Наданьне імя самім сабе — гэткая дзея нас злучыць у нацыю канчаткова.

Але што за імя прапануе шаноўны маніфэстант — «Крыўя». Тое памылка, і я гэтак уважаю не таму, што зь

Чытайце СВАБОДУ ў Інтэрнэце!
СВАБОДА
http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/

зямлі Радзімічаў. Хоць і ў такім аргумэнце ёсьць пэўная рацыя — не адныя Крывічы спрычыніліся да нашага этнагенэзу, ды й існавалі да таго ж Крывічы пскоўскія. Такая прапанова ня проста радыкальная, а звышнатуральная. Краю з такім назовам ніколі не існавала. Час жа існаваньня Полацкага княства непераадольна далёкі ад цяперашняга з гледзішча якое-кольвек цывілізацыйнае пераемнасьці, бо ў такой справе патрэбны такі-сякі працяг традыцыяў.

І яшчэ — вельмі не пасуе, на маю (і ня толькі) думку, апэляцыя да «вярхоўных жрацоў» і т. п. паганскіх элемэнтаў. Выкарыстаньне паганства надае ўсёй ідэі ненатуральны, несапраўдны, гульневы падтэкст. А ідэя ж зусім не падобная на гульню, тое трэба ўсьвядоміць усім, хто ўзьняў яе на свае штандары. Новы край пад новым небам з новым Імем мусіць быць хрысьціянскім — такі адзіны шлях да Эўропы, да будучыні, да цывілізацыі, да «нармальнага жыцьця» ўрэшце. Хто не разумее гэтую простую праўду, для каго яна нудная, той павінны адступіцца ад Ідэі Імя й працягваць гуляць са сваімі лялькамі — Ярыламі, Сварогамі і г. д. Гэта, можа, рэзкія словы для сымпатызантаў паганства, але неабходныя.

Якое ж Імя, калі ня Крыўя? Ул.Лобач рытарычна пытаецца, што было раней за XVII ст. — прыкладны час зьяўленьня абразьлівых «беларусцаў» — «калі ўжо стагодзьдзямі існавалі летувісы і палякі, французы ды ангельцы»? А былі ж, і тое не таямніца, а агульнавядомы факт, Ліцьвіны, вось менавіта стагодзьдзямі як існавалі! Дарэчы, што датычыць «стагодзьдзямі існавалі летувісы», дык за гэта дакладна Вітаўт з Астроскім натаўклі б у бакі. Бо хоць і нельга, паводле знакамітага барда, «тутэйшых параўноўваць з гордым Ліцьвінам», дык Жмудзін яму тым болей ня роўня.

Так што мы маем ня «вартыя жалю выцемкі» з гісторыі (гэта праблемы абэцэдарскіх & С°, але ня нас), а Гісторыю тысячагодзьдзя нашага існаваньня, у якой Навагародак, пазьней — Вільня, ёсьць натуральнымі пераемнікамі Полацка, Турава, Смаленска. І гэта ня ганьба нашая, што не ўтрымалі мы Літву, бо так сталася празь мільёны закатаваных, тысячы зруйнаваных паселішчаў, бажніцаў і сьвятыняў. Тыя Ліцьвіны зрабілі, пэўна, усё, што было мажлівым. І да нас усё ж дайшла праўда пра вялікасьць Літвы, пра ейную сьвятую сілу — праз жахлівыя часы Мікалая І ды Аляксандра ІІ, часы ўсеэўразійскага сатаністычнага бальшавіцкага карагоду ды катастрофу дзьвюх сусьветных войнаў.

Ці ёсьць у нас права не скарыстаць шанец сёньня? Чаго баяцца? Раней за Літву вешалі, гналі ў Сібір, пазбаўлялі шляхецтва. Цяпер шляхецтва пазбаўляем сябе самі бязьдзеяньнем, баязьлівасьцю, пакораю.

Наш народ мае цэлае суквецьце Імёнаў. Крыўя-кроў, Літва-малітва-літасьць, БелаРусь — сьветлая...?... — сьвятая...?... Прысьпеў час зрабіць правільны выбар Імя, якое дадзенае Богам, а не накінутае «братам». Іначай, як пяе той самы бард: «Россія туть будеть навечно».

**Макс Кірэйчык, Гомель**

# Кантрасты гарадзкіх вуліц

Лістападаўская нядзеля перад чорнай датай сучаснай гісторыі. Па вуліцы Філімонава рухаецца армада грузавікоў з ахоўнікамі парадку, таго самага, што ў жахлівым сьне ня ўбачыш. Сытыя, нахабныя, задаволеныя крывавымі перамогамі над бяззбройнымі людзьмі, міліцыянты вяртаюцца ў гарнізон, адкуль часта робяць налёты на сумленных беларусаў. Яны весела бавяць час, жартуючы з пакутаў нязломнага народа, добра ведаючы, што калі-небудзь прыйдзе момант адказваць за свае ўчынкі.

А дзесьці далёка, на ўскрайку сталіцы, бацькі з трывогай чакаюць дзяцей, з хваляваньнем разважаючы, каб іх малыя выхаванцы пазьбеглі непрадказальнага і нечаканага хапуна. Моладзь разумее, што радасьць жыцьця заключаецца ў інтэлектуальнай перавазе над жорсткай рэальнасьцю, таму імкнецца авалодаць неабходнымі ведамі: вывучае родную і замежныя мовы, цікавіцца Internetам... Гэта ня дзіўна, улічваючы, што цяпер стала на ногі пакаленьне, загартаванае нацыянальнымі ідэямі Адраджэньня 90-х гадоў XX стагодзьдзя. Таму заканамерныя жаданьні юнакоў і дзяўчат адстойваць ідэалы незалежнасьці, свабоднай ад усялякага прыгнёту краіны, марыць пра шчасьце і больш спакойную будучыню. Шлях да сапраўднай волі ляжыць праз шэраг выпрабаваньняў, няма сумневу — няўдачы і цяжкасьці прыгадаем, як успамін. Маладых людзей не запалохаюць асобныя чыноўнікі турмамі, рэпрэсіямі, забаронай друкаванага слова, думак, бо гады юнацтва — гэта непаўторны росквіт натхненьня, змаганьня за права «людзьмі звацца».

Не губляю надзеі, што культурная, гістарычная, літаратурная спадчына беларускай зямлі застанецца сабранай у Пантэон мастацтваў з усяго сьвету, што вернуцца сьвяты бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня», зазьзяе сонечны промнямі сьвядомасьць і годнасьць. А кантрасты гарадзкіх вуліц зь незаконнымі арыштамі і зьбіцьцём дэманстрантаў будуць толькі нашай памяцьцю і спрадвечным болем за лёс Айчыны.

**Сяргей Званар, Менск**

# Хартыя 97

# Беларуская дэкларацыя свабоды

У выніку двух стагодзьдзяў «каляніяльнага разьвіцьця» Беларусь амаль што згубіла смак свабоды і страціла сваё месца ў супольнасьці вольных эўрапейскіх народаў.

На працягу трох апошніх гадоў незалежная Беларусь набывала вядомасьць у сьвеце як краіна з дыктатарскім рэжымам у цэнтры Эўропы.

На сёньня беларускае грамадзтва дасягнула моманту, калі канфармізм, калектыўнае рабства, таталітарная ідэалёгія й несвабода навязваюцца большасьці ў якасьці ўсьвядомленага выбару дзеля выжываньня.

«Скуты розум» спрабуе паставіць пад кантроль усе свабодныя інтэлектуальныя, культурныя й сацыяльна-эканамічныя ініцыятывы, «аднамерны чалавек» у Беларусі пагражае каштоўнасьцям эўрапейскай дэмакратыі і культуры.

Агульнавядома, што Беларусь ператварылася ў краіну-выклік для шэрагу эўрапейскіх структураў, палітычных пастаяў і ўсіх праваабарончых арганізацыяў.

У гэтых абставінах мы, група беларускіх інтэлектуалаў, людзей мастацтва і культуры, заяўляем пра свой фундамэнтальны выбар на карысьць:

— свабоднай крэатыўнасьці і вольнага мысьленьня

— інтэлектуальнага й культурнага нонканфармізму

— абароны асноўных каштоўнасьцяў эўрапейскай культуры й цывілізацыі зь іхным вызначальным пасланьнем:

СВАБОДА

У цяперашняй сытуацыі мы ня маем іншых сродкаў у абароне й сьцьвярджэньні гэтых прынцыпаў, апрача нашай рашучасьці, прагі свабоды й веры ў вольную маніфэстацыю і выражэньне чалавечае стваральнасьці.

У нашым змаганьні за свабоду ў Беларусі мы глыбока верым у стваральную й дэмакратычную будучыню нашай краіны ў супольнай Эўропе.

Мы зьвяртаемся да інтэлектуалаў і людзей культуры й мастацтва ўсіх эўрапейскіх краінаў з заклікам заманіфэставаць сваю падтрымку Дэкларацыі і паставіць свае подпісы за — і ў імя — беларускай і эўрапейскай свабоды.

*Менск, сьнежань 1997*

Беларускую Дэкларацыю Свабоды падпісалі:

**БЕЛАРУСЬ**

Славамір Адамовіч, паэт
Валянцін Акудовіч, культуроляг
Міхал Анемпадыстаў, мастак
Алесь Анціпенка, філёзаф і паэт
Уладзімер Арлоў, пісьменьнік
Вацлаў Арэшка, гісторык культуры
Ігар Бабкоў, філёзаф і паэт
Рыгор Барадулін, паэт
Міхась Баразна, фатограф і мастацтвазнаўца
Зьміцер Бартосік, бард
Міхась Баярын, паэт
Валеры Булгакаў, літаратурны перакладчык
Васіль Быкаў, пісьменьнік
Пётра Васючэнка, літаратурны крытык
Лявон Вольскі, рок-музыка
Адам Глёбус, літаратар
Алег Дашкевіч, журналіст
Віктар Дашук, кінарэжысэр
Алег Дзярновіч, гісторык
Сяргей Дубавец, літаратурны крытык
Андрэй Дынько, перакладчык
Сяргей Законьнікаў, паэт
Вячаслаў Іваноўскі, тэатральны крытык
Віктар Капыцько, кампазытар
Артур Клінаў, мастак
Зьміцер Колас, літаратурны перакладчык
Кася Камоцкая, сьпявачка
Уладзімер Конан, філёзаф, літаратурны крытык
Мікалай Крукоўскі, філёзаф
Валеры Мазынскі, тэатральны рэжысэр
Зіновi Марголін, тэатральны мастак
Уладзімер Мацкевіч, культуроляг
Ігар Мацохоў, дырыжор
Мікалай Пінігін, тэатральны рэжысэр
Алесь Разанаў, паэт
Вячаслаў Ракіцкі, тэатральны крытык
Дзяніс Раманюк, мастак
Іван Саверчанка, гісторык літаратуры
Генадзь Сагановіч, гісторык
Васіль Сёмуха, літаратурны перакладчык
Сяргей Харэўскі, мастацтвазнаўца
Віктар Шалкевіч, актор і бард
Карлас Шэрман, паэт і перакладчык

**ПОЛЬШЧА**

Багуміла Бэрдыхоўска, журналіст
Ганна Дулангова, гісторык
Станіслаў Запасьнік, філёзаф
Антоні Каміньскі, сацыёляг
Ян Маліцкі, гісторык
Антоні Подраза, гісторык
Кшыштаф Рэнік, журналіст
Рэстыфт Сманевіч, гісторык
Павал Чартарыйскі, гісторык
Багдан Чывіньскі, гісторык
Кшыштаф Чыжэўскі, культуроляг і актор
Ганна Энгелькінг, этнограф

**УКРАІНА**

Наталка Белацэрківец, паэтка
Аксана Забужка, філёзаф і літаратар
Яраслаў Ісаевіч, гісторык
Раман Кісь, культуроляг
Віталі Панамароў, пісьменьнік
Максім Стрыха, пісьменьнік
Уладзімер Цыбулька, паэт

*Беларуская Дэкларацыя Свабоды — ініцыятыва беларускіх гуманітарыяў, людзей культуры й мастацтва, што паўстала ў межах Хартыі-97.*

*Сёньня, калі ў Беларусі зноў набірае сілу канфармізм, калі «большасьць» выбірае рабства, калі таталітарызм пачынае запаноўваць у штодзённым жыцьці, беларуская культура робіць свой выбар на карысьць Свабоды.*

*Дэкларацыя адкрытая для падпісаньня як беларускімі гуманітарыямі, так і дзеячамі зь іншых краінаў. Гэта ініцыятыва, за якой стаіць праграма дзеяньняў — кансалідацыі і разьвіцьця беларускай культуры на грунце эўрапейскіх каштоўнасьцяў і ў эўрапейскім кантэксьце.*

***Адрас для кантактаў: 220036, Менск, а/с 31.***

# Надакучлівы анэкдот

Працяг са старонкі 1.

ры, дзе што ні склад, то нібы нетаропкі й жахлівы крок падкаваных ботаў па начных сходах. Шмат што забудзецца, шмат чаго ўжо забылася з напісанага пра найвялікшага з дыктатараў. Хто цяпер сьпявае песьні Галіча, хто апошнім часам чытаў Салжаніцына? Ці ёсьць увогуле сэнс у змаганьні словам? І ці ня служыць слова спусківым курком?

Якая ўсё ж непрыгожая роля выпала нашаму «тырану». Яшчэ не пасьпеў нікога толкам замардаваць, яшчэ ў лексыкон не вярнулася слова «лягер», яшчэ Сібір з Калымою застаюцца за мяжою, а яго ўжо ставяць на адну дошку з самымі сапраўднымі сатрапамі ўсіх часоў ды народаў. Але ж у той час, калі ва ўсіх тых народаў усе сатрапы засталіся ў назаўжды мінулых часах, ягоныя вусы, вочы ды прамовы, яшчэ як толькі ён узышоў на трон, не маглі не выклікаць пэўных асацыяцыяў і поклічаў да стварэньня анэкдотаў. А ён мог сабе дазволіць не зважаць. Ён сам стаў узорам народнай творчасьці, любімым героем бясконцага тэлесэрыялу, акторам, які ня мае патрэбы ў партнэрах. Ён меў шанец пакінуць нам нецікавую ролю парадыстаў. Але пасьля таго «калядната віншаваньня» рэжысэру Хашчавацкаму (якое асабіста мяне ўразіла сваёю мярзотнасьцю) стала ясна, што анэкдоты застаюцца ў мінулым. І ня важна, ці мае непасрэднае дачыненьне да таго акту А.Г.Лукашэнка. Важна, што творца мае вядомае ў Эўропе стаўленьне да пэрсанажа.

Анэкдоту не атрымаецца. Бальшавіцкія сьцягі не зьяўляюцца як нонсэнс ці недарэчнасьць. Іх вывешвае бальшыня. Тая, што абірае сабе важака, а разам зь ім і нашую будучыню. Тым больш, усе магчымыя змрокі сюжэтаў той будучыні намі расьпісаныя. Прататыпу засталося толькі ўвасобіцца ў плоць. Але пакуль усе яшчэ жывыя, і ня ўсе яшчэ зьехалі. Весялей толькі ад гэтага не становіцца.

**Зьміцер Бартосік**

ВІЛЕНСКІ

# ПАРА СКОНЧЫЦЬ ЛІТОЎСКА-

Альгімантас

**1. ДЫЯЛЁГ З СУСЕДЗЯМІ.**

З суседзямі трэба размаўляць. Гэта карысна абодвум бакам — дапамагае пазьбегчы канфліктаў, а калі тыя ўзьнікнуць — дапамагае спакойна іх палагодзіць. Толькі пры размове завязваюцца сяброўскія дачыненьні, разьвіваецца культурнае, эканамічнае, палітычнае супрацоўніцтва. Цяпер адбываецца інтэнсыўны літоўска-польскі дыялёг, які ўжо прынес каштоўны плён. Значна вузейшы дыялёг зь немцамі, а дыялёг з гэбраямі ўвесь часператвараецца ў сярдзітыя маналёгі абодвух бакоў. Зусім ніякай сапраўднай размовы няма з калінінградзкімі расейцамі. Мала гаворыцца зь беларусамі, і яшчэ меней з латышамі й эстонцамі. Можна сказаць, што з латышамі й эстонцамі ў нас няма ніякіх праблемаў, аднак ёсьць сапраўды пра што пагаварыць і зь імі, толькі між намі й імі праблемы зусім іншага характару, чым зь іншымі — яны не пагражаюць ператварыцца ў вострыя й небясьпечныя канфлікты, а таму, магчыма, яны так лёгка забываюцца або адсоўваюцца ўбок.

Інакш зь беларусамі. Канфлікт зь імі ўзьнік неўзабаве пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе і зацягнуўся аж да сёньня. Таму трэба вітаць даклад Сяргея Шупы на зьезьдзе арганізацыі Santara-Šviesa ў Бірштане 22 чэрвеня 1997 году, надрукаваны пазьней у месячніку Akiračiai (№8, верасень 1997, с. 8-11)*. Гэта сапраўды значны ўклад у летаргічны дагэтуль беларуска-літоўскі дыялёг.

Томас Венцлава прапануе, каб пісьменьнік і наагул інтэлектуал, гаворачы пра дачыненьні народаў, выкрываў памылкі й злачыны толькі свайго народу, ня рупячыся пра выступы суседзяў супраць яго́нага народу. Гэткае мае быць заданьне інтэлектуалаў тых суседніх народаў.

Хоць гэта й вельмі высакародна, усё ж вынікі ажыцьцяўленьня гэткага прынцыпу былі б вельмі сумнеўныя. Пакаяньне ачысьціла б душу, аднак неабавязкова прынесла б рацыянальныя й справядлівыя ці хоць бы прымальныя вырашэньні цяжкіх і складаных праблемаў. Дзеля гэтага лепей прыдаўся б упарты добразычлівы дыялёг разам з сумленнымі намаганьнямі ўважліва вывучаць і аналізаваць праблемы.

Сяргей Шупа ня йдзе шляхам, які прапануе Венцлава. Ён шчыра выказаў усё тое, дзеля чаго беларусы незадаволеныя літоўцамі. І добра. Інакш можа мы б і ня ведалі, чым мы завінаваціліся беларусам.

**2. МІТЫ Й ФОБІІ**

Сяргей Шупа пачынае свой даклад псыхааналізам літоўскага грамадзтва. На ягоную думку, погляды літоўцаў на беларусаў базуюцца на веры ў свае нацыянальныя міты, якія, у тым, што датычыць беларусаў, спараджаюць у літоўцаў пэўныя фобіі. Інакш кажучы, погляды літоўцаў на сваю гісторыю і на дачыненьні зь беларусамі занадта нерацыянальныя. Бясспрэчна, літоўцы стварылі або засвоілі ад іншых пэўныя міты й фобіі, аднак недастаткова іх перацэніць, трэба было б і давесьці, што яны й сапраўды пазбаўленыя рацыянальнай падставы. Бо з тымі мітамі й фобіямі бывае па-рознаму. На пачатку 30-х гадоў гэтага стагодзьдзя літоўскае грамадзтва кпіла зь невыказнай баязьлівасьці літоўскіх гэбраяў. Бо яны, бач ты, напалохаліся й без упыну енчылі й стагналі дзеля таго, што ў Нямеччыне абʼявіўся нейкі ня варты вялікай увагі крыкун Адольф Гітлер.

А калі гаварыць пра міты, дык прыгадваецца хлопчык, які жыў у XIX стагодзьдзі ў Нямеччыне і, нават стаўшы дарослым, ня здолеў вызваліцца з сусьвету казак ды выправіўся шукаць мітычную Трою.

Сяргей Шупа пералічае прычыны, якія ствараюць напружаньне паміж літоўцамі й беларусамі. Іх можна зьвесьці да дзьвюх: няздольнасьць або нежаданьне дзяліцца палітычнай і культурнай спадчынай Вялікага Княства Літоўскага і тэрытарыяльная спрэчка, у цэнтры якой пытаньне — каму мусіць законна належаць Вільня. Тэрытарыяльны канфлікт разьвіўся не дзеля нейкіх там мітаў, а дзеля вельмі рэальных земляў і гарадоў. Нацыянальныя міты абодвух бакоў сапраўды маюць уплыў на спрэчку аб спадчыне па старой дзяржаве, аднак пры добрай волі гэтай спадчынай можна падзяліцца нават не адмаўляючыся ад сваіх мітаў, а толькі прыгладзіўшы іхныя вострыя краі.

**3. СПАДЧЫНА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА**

Найперш трэба прыгадаць, што палітычная й культурная спадчына больш чым два стагодзьдзі таму зьнішчанай дзяржавы — больш сымбалічная, чымся рэальная. Праўда, сымбалі маюць сваю прывабнасьць і сілу, але яны залежаць больш ад нас самых —тых, хто хоча гэтыя сымбалі пераймаць і выкарыстоўваць — чым ад рэаліяў і характару старой дзяржавы. А той характар — не заўсёды ўжо такі прывабны. Бо ж гэта была чыста саслоўная дзяржава, у палітычным жыцьці якой бралі ўдзел толькі шляхта й каталіцкае духавенства, а іншыя ніякага голасу ня мелі. Папраўдзе ж, мабыць, найбольш правоў пераемнасьці на спадчыну той дзяржавы маюць Каралеўскі Зьвяз Літоўскай Шляхты разам з аналягічнай арганізацыяй беларускай шляхты, калі гэткая існуе або ўзьнікла б у будучыні. Нават і гэтак хвалёныя ды сапраўды надзвычай каштоўныя юрыдычныя помнікі — Літоўскія Статуты —не датычылі найбольшага пласту жыхарства ВКЛ — сялянаў, бо вялікі князь, гэта значыць дзяржава, ня меў на сялянаў ніякіх правоў, яны належалі выключна сваім панам.

Спадчына Вялікага Княства Літоўскага ня толькі зьзяе перамогамі. Пасьля гераічна выйгранай вайны супраць нямецкіх рыцараў, пасьля культурнага ўздыму за часы рэнэсансу, рэфармацыі й контррэфармацыі распачалася даўгая эпоха культурнага й палітычнага заняпаду. У літоўскай гістарычнай міталёгіі віна за галоўную прычыну заняпаду — шляхецкую анархію — звычайна закідалася палякам. Аднак цяпер ужо напэўна ніхто не сумняецца, што шляхта ВКЛ літоўскага й беларускага паходжаньня з энтузіязмам цешылася «залатою свабодай», карысталася ёю і зацята працівілася спробам зьвесьці хоць нейкі парадак. Гэта таксама частка спадчыны старой дзяржавы і можа нават самая каштоўная, бо заўсёды важней бывае засвоіць навуку памылак і паразаў, чым слаўных перамогаў, якія часта бываюць вынікам зьбегу рэдкіх акалічнасьцяў.

440 гадоў, ад часоў караля Гедыміна да падзелаў, літоўцы й беларусы жылі ў той самай дзяржаве. Людзі абодвух народаў сваёю працай і творчасьцю прычыніліся да культурнага, палітычнага й эканамічнага жыцьця тае дзяржавы. Яна была агульнай дзяржавай літоўскай і беларускай шляхты, аднолькава адрынутыя ў ёй былі літоўскія й беларускія сяляне.

*Артыкул Сяргея Шупы «Беларуска-літоўскія маніі і фобіі», напісаны на падставе гэтага дакладу, друкаваўся ў 28-м нумары «НН» летась.

АРХЕАЛЯГІЧНЫ

# ЧАЛАВЕК У

Мікола

Рэканструяваны твар мужчыны меў даволі прыемныя рысы. А яшчэ колькі часу таму гэта быў археалягічны матэрыял — чалавечы шкілет з пахаваньня. Вось сотні месца, у якім выпадкова коўш экскаватара зачарпнуў косьці, мела выгляд не магілы, а глыбокай капальні... Капальняў было шмат. Не дзясяткі, і нават ня сотні, а тысячы шахтаў на працягу 3 і 2 тысячагодзьдзяў да н.э. у пошуках высокаякаснага крэменю распрацавалі старажытныя жыхары Панямоньня ў ваколіцах сёньняшніх Карпаўцаў і пасёлка Краснасельскі, што пад Ваўкавыскам...

У тое лета 1962 году экскаватаршчык, які капаў крэйду ў кар'еры, мо й не зьвярнуў бы ўвагі на косьці, якія трапіліся ў коўш ягонай машыны, каб не адна акалічнасьць. Ужо два гады запар крэйдавыя распрацоўкі, якія рупліва асвойваліся мясцовым заводам будаўнічых матэрыялаў, наведвалі археолягі з Санкт-Пецярбургу. Яны шукалі старажытныя шахты, пра што не адзін раз распавядалі рабочым. У разьвернутай экскаватарам крэйдзе, якая шматметровымі пластамі залягае ў гэтых мясьцінах, акрамя чалавечых костак знайшлі гліняны гаршчок. Пасудзіна выглядала надзвычай архаічна: лепленая ад рукі, закураная ўнізе, з высокай гарлавінаю і ўпрыгожаная наразною «ялінкаю» пад верхнім краем. У крэйдавым друзе ляжала таксама вялікая касьцяная іголка з прарэзаным на месцы вострым вушкам.

Міхась Чарняўскі, тады яшчэ асьпірант Інстытуту гісторыі, разам з групай супрацоўнікаў будучага рэспубліканскага музэя апынуўся на месцы здарэньня пазьней, калі ў Акадэмію навук дайшло паведамленьне з Ваўкавыску. Са словаў рабочых, сьведкаў падзеі, пакрысе ўдалося ўзнавіць некаторыя акалічнасьці выяўленьня чалавечага шкілета, гаршчка дый іголкі.

Касьцяк ляжаў паўсагнуты на правым баку, арыентаваны галавою на поўдзень. Каля ног стаяла пасудзіна, а недзе побач ляжала іголка. Поза памерлага ды рэчы, відаць, нekалі наўмысна пакінутыя каля яго, сьведчылі пра зьдзейсьнены тут старажытны абрад пахаваньня. Разьмяшчэньне нябожчыка ў скурчаным стане ды суправаджэньне яго адпаведным гліняным гаршчком — характэрныя адзнакі пахаваньняў позьненэалітычнага часу і эпохі бронзы. Адмысловая форма пасудзіны, яе



арнамэнтацыя дазвалялі аднесьці магілу да культур з шнуравой керамікай і датаваць часам канца 3 — пачатку 2 тыс. да н.э.

Дарэчы, гаршчок той да прыезду Міхася Чарняўскага апынуўся ў мясцовага краязнаўцы і калекцыянэра. Унікальную знаходку археолягу прыйшлося выменьваць на калекцыю экзатычных паштовых марак.

Самая цікавая абставіна, якая вымушала да шматлікіх разважаньняў, тычылася таго, чаму пахаваньне было зьдзейсьненае ў шахце. Памерлы ляжаў на дне невялікага пашырэньня капальні, якая разам з пахаваным у ёй нябожчыкам яшчэ ў старажытнасьці была засыпаная крэйдавым друзам. Гэта была адна з тысяч крэмнедабыўных шахтаў, якія ў часе нэаліту і бронзавага веку распрацоўваліся жыхарамі тутэйшых мясьцінаў. Менавіта пра капальні пад Ваўкавыскам у 1976 г. вядомая санкт-пецярбурская дасьледчыца Ніна Гурына напіша ў сваёй манаграфіі: «Беларускія шахты, узятыя ў сукупнасьці з аналягічнымі замежнымі помнікамі, выходзяць далёка за рамкі вузкай, лякальнай значнасьці; яны служаць важнаю крыніцаю для раскрыцьця працэсу гістарычна-культурнага разьвіцьця ўсяго чалавецтва».

## Вялікае адкрыцьцё Зыгмунда Шміта

Калі ў 1925 годзе трыццацігадовы археоляг Зыгмунд Шміт пачаў абсьледаваць навакольле вёскі Краснае Сяло, што на рацэ Рось пад Ваўкавыскам, у эўрапейскай археалягічнай літаратуры ўжо згадваліся ўнікальныя капальні крэменю пад Сісбуры, Граймз-Грэйвз у Англіі, Мюр-дэ-Барэ і Шампіньёль у Францыі. Уласна ў Польшчы ў 1922 г. Я.Самсонавічам пры складаньні геалягічнай карты былі адкрытыя цяпер, бадай, найлепш вывучаныя і сусьветна вядомыя шахты па здабычы крэменю ў Кшэмёнках Апатоўскіх. У тым жа 1922 годзе Зыгмунд Шміт і Стэфан Крукоўскі пачалі дасьледаваць Кшэмёнкі.

Маючы добры досьвед, Зыгмунд Шміт пасьля раскопак каля вёскі Краснае Сяло ў 1925 годзе канстатаваў адкрыцьцё вялікай колькасьці старажытных крэмнездабыўных шахтаў. Зьвесткі пра незвычайных пустоты-выпрацоўкі каля Краснага Сяла маглі яшчэ раней трапіць да Зыгмунда Шміта ад геолягаў, якія працавалі на мясцовых адорвеньнях крэйды.

На наступны год археоляг заўзята працягваў пошук капальняў. Вынікам ягоных дасьледаваньняў стала адкрыцьцё каля тысячы шахтавых выпрацовак крэменю, а таксама майстэрняў па апрацоўцы здабытай сыравіны. У ягоныя рукі трапілі шматлікія інструмэнты, з дапамогаю якіх старажытныя шахцёры здабывалі крэмень у глыбокіх шахтах.

Аднак ад самага пачатку іх адкрыцьця краснасельскім капальням не шанцавала. У 1929 годзе на 34-м годзе жыцьця памёр Зыгмунд Шміт. Капальні, на месцы якіх няўмольна пашыраліся кар'еры па здабычы крэйды, раз-пораз наведвалі археолягі. І калі краснасельскія шахты мэтадычна бурыліся далакопамі, і да іх нікому не было справы, у Кшэмёнках Апатоўскіх згаданы мною Стэфан Крукоўскі паволі з году ў год выкупляў зямлю, каб выратаваць мясцовы унікальны шахтавы комплекс для навуковых дасьледаваньняў.

Тым часам з краснасельскіх шахтаў у Варшаўскі музэй паступалі сабраныя калекцыі знаходак ці нават унікальныя фотаздымкі. Пазьней каштоўны фотаматэрыял загінуў. Падчас вайны страцілася таксама амаль уся дакумэнтацыя — малюнкі, пляны, накіды, якімі суправаджалі свае раскопкі на Росі археолягі 20-30 гадоў. А матэрыялы раскопак з Краснага Сяла закладваліся ваконныя праёмы ў часы баёў за Варшаву. Ніна Гурына, якая ў 1961 годзе знаёмілася з краснасельскімі калекцыямі ў Варшаўскім археалягічным музэі, знаходзіла ў скрынках разам з крамянёвымі прыладамі пустыя гільзы ад патронаў.

Шахтам ня шчасьціла і ў пасьляваенны час. Мясцовы цэмэнтавы завод працягваў капаць крэйду. Пераштодзіць разбурэньню ўнікальнага комплексу ніхто не спрабаваў, а калі б адважыўся, то ці здолеў бы.

Ашаломленая маштабамі разбурэньня і адначасова захопленая ўражвальнай дэманстрацыяй тагачаснай савецкай кар'ернай тэхнікі, Ніна Гурына пазьней напіша: «Сымбалічна — на гэтым маленькім кавалачку зямлі як бы сутыкнуліся гарнякі дзьвюх эпох, разьдзеленыя некалькімі тысячагодзьдзямі, — першыя ў гісторыі чалавецтва шахцёры, узброеныя толькі прасьцейшымі рагавымі інструмэнтамі, якія затрачвалі вялікую працу і час для таго, каб выкапаць вузкі, усяго толькі ў некалькі мэтраў глыбінёй калодзеж, і сучасныя гарнякі, узброеныя магутнымі машынамі, якія драбілі за некалькі хвілін велічэзныя масы пароды».

Ніне Гурынай і яе калегам-археолягам з Санкт-Пецярбургу, дасьледуючы старажытныя шахты на яшчэ не занятых тэхнікай пустках, прыходзілася ўсё часьцей сачыць за адкрытымі выпрацоўкамі, калі пласты крэйды з дапамогай экскава-

КЛЮБ

# БЕЛАРУСКІ КАНФЛІКТ

Гурэцкас

Пасьля аддзяленьня земляў Украіны й Лівоніі ў 1569 годзе, Вялікае Княства Літоўскае ахапляла толькі літоўскія й беларускія землі. Цяпер на гэтай тэрыторыі — Літоўская й Беларуская дзяржавы, калі не лічыць тых ускраінаў, што дасталіся Польшчы, Украіне й Расеі. На гэтых землях жывуць літоўскі й беларускі народы, сярод якіх ёсьць і невялікая колькасьць нашчадкаў кіруючага стану колішняй дзяржавы —шляхты. Здаецца, мусіла б быць няцяжка падзяліцца спадчынай вялікага княства. Ягоныя традыцыі могуць захоўваць абодва народы, а падзел дзяржаўных сымбаляў быў канчаткова выкананы адразу пасьля распаду Савецкай імпэрыі. Ужо ў 1918 годзе абодва народы стварылі сабе новыя сьцягі. Дзяржаўны герб — Пагоню — абодва народы прынялі зь невялікімі адрозьненьнямі, але дастатковымі, каб можна было адрозьніць Літоўскую Пагоню ад Беларускай[1]. А астатнія праблемы спадчыны па старой дзяржаве можна пакінуць гісторыкам. Хай яны высьвятляюць, які быў уклад аднаго або другога народу ў розных галінах грамадзкага й культурнага жыцьця вялікага княства.

Бо ж нягледзячы на тое, які быў уклад беларусаў або літоўцаў у стварэньне Літоўскага Статуту, шанаваць і вывучаць яго могуць абодва народы (дый любы іншы). Ён важны абодвум, бо дзеіў на тэрыторыі ўсяе дзяржавы, як у славянскай, гэтак і ў літоўскай яе частцы. Ці ж увага аднаго народу да гэтага юрыдычнага помніка можа чым-небудзь шкодзіць або замінаць другому народу?

**4. ВЫПРАЎЛЕНЬНЕ ГІСТОРЫІ**

Вынятак — пытаньні назоваў. Старых назоваў мяняць зусім недапушчальна. Ва ўсіх мовах Вялікае Княства Літоўскае называлася тым самым імем, што і край, заселены літоўскім этнасам. Хай гісторыкі пішуць дасьледаваньні і, калі трэба, спрачаюцца — шмат гэта значыць або не, або й зусім нічога ня значыць, аднак самых назоваў хай не чапаюць. Гэткі назоў як «Grand Duchy Litva» замест Grand Duchy of Lithuania[2] — недапушчальны. Па сутнасьці — гэта выпраўленьне гісторыі, інакш кажучы, фальшаваньне, хоць бы яно й рабілася гісторыкамі высокай кваліфікацыі. Тое самае і з тытуламі паганскіх літоўскіх уладароў, калі тых уладароў, якія ў лістох, дамовах, на пячатках звалі сябе каралямі, гісторыкі пераназвалі вялікімі князьмі.

Гэта, вядома ж, ня значыць, што ўсе назовы й тытулы былі дакладныя. Ня ўсе яны дакладныя й цяпер. Злучаныя Штаты Амэрыкі не ахапляюць ні абодвух амэрыканскіх кантынэнтаў, ні нават усёй Паўночнай Амэрыкі. Канада паводле тэрыторыі нават большая — яна займае большую частку паўночнаамэрыканскага кантынэнту. Калі мы гаворым пра Амэрыку, звычайна з кантэксту бывае ясна што мы маем на ўвазе — кантынэнт або краіну, а калі не — даводзіцца патлумачыць або даць поўны назоў краіны. Тое самае і з старою Літвой, калі тым самым словам звалася і шматэтнічная дзяржава, і насельнікі этнічныя літоўцамі зямлі.

**5. СПРЭЧКА ЗА ВІЛЬНЮ**

Спрэчка за гістарычную спадчыну вострая толькі дзеля таго, што за ёю хаваецца сапраўдная, асноўная спрэчка беларусаў і літоўцаў — за Вільню. Нібыта лічыцца, што каму належыць спадчына па Вялікім Княстве Літоўскім — таму мусіла б належаць і ягоная сталіца. А таму кожны з народаў, што прэтэндуюць на Вільню, імкнецца толькі сабе прыпісаць гісторыю старой дзяржавы.

Насамрэч асаблівасьці віленскага пытаньня не нагэтульні ўжо й розьняцца ад некаторых іншых сталіцаў, каб мы не маглі павучыцца зь іхнага досьведу. Сталіцы шматэтнічных дзяржаваў маюць тэндэнцыю станавіцца шматэтнічнымі гарадамі, гэткая, прыкладам, была сталіца Аўстра-Вугоршчыны Вена. Гэтаксама й не адна Вільня была сталіцаю, дзе большасьць складаў іншы этнас, чымся ў астатняй краіне. Перад Першай сусьветнай вайной гэткаю была нямецкая Прага ў Чэхіі і швэдзкі Хэльсінкі ў Фінляндыі. Хэльсінскія ваколіцы гэткія самыя швэдзкія, як віленскія —польскія. Адрозьненьне ад Вільні толькі тое, што швэды не заслалі ў фінскую сталіцу свайго Жэлігоўскага.

Вільня была ня толькі сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага. Як паказваюць найноўшыя археалягічныя адкрыцьці, яна была важнай мясцовасьцю ўжо за часы Міндоўга, калі ў ягоным каралеўстве вага нядаўна далучаных славянскіх ускраінаў дзяржавы была яшчэ нязначная. Аднак важнейшая нам найноўшая гісторыя Вільні. Галоўныя першыя дзеяньні ў аднаўленьні Літоўскай Дзяржавы ў 1918 годзе адбыліся ў Вільні, тут сканцэнтраваліся і ўсе падзеі вызваленьня Літвы ў 1987-1991 гадох. Вільня сталася літоўцам яшчэ даражэйшаю, чым некалі раней, і проста так яны яе нікому не аддадуць.

**6. ЛЮДЗІ БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ**

Сяргей Шупа кажа праўду, што Віленскі край — зона жыхарства зь няпэўнай этнічнай сьвядомасьцю. Ягоныя жыхары — літоўскага паходжаньня, бо яны каталікі, а падчас хросту Літвы толькі літоўцы-паганцы хрысьціліся ў каталіцтва. Усе ўсходнія славяне ўжо за 400 гадоў перад тым, ад часоў хросту Кіеўскае Русі, былі праваслаўнымі хрысьціянамі і іх не прымушалі пераходзіць у каталіцтва. Такім чынам у Віленскім краі канфэсійная мяжа адпавядае этнічнай літоўска-славянскай мяжы канца XIV стагодзьдзя.

У большай частцы Віленскага краю літоўскія сяляне пазьней перайшлі на беларускую мову і забыліся сваёй мовы літоўскай. Тады яны й страцілі літоўскую самасьвядомасьць, аднак узамен не прынялі ніякай іншай — ні беларускай, ні польскай, застаўшыся людзьмі без нацыянальнасьці.

Мне давялося сутыкнуцца з гэтай зьявай, калі падчас другой нямецкай акупацыі 27 траўня 1942 году ў Літве праводзіўся перапіс насельніцтва і мяне, як і бальшыню віленскіх студэнтаў і службоўцаў, паслалі перапісьнікам у Віленскі край. Мне давялося працаваць у вёсцы Трашчаны Клюшчанскай воласьці Сьвірскай акругі (цяпер Астравецкі раён Гарадзенскай вобласьці ў Беларусі)[3]. Сабраныя падчас таго перапісу зьвесткі пра нацыянальнасьць жыхароў Віленскага краю ня маюць вялікай вартасьці, бо патрабавалася, каб жыхары сказалі, якой яны нацыянальнасьці, а яны, хоць і беларускамоўныя, не адчувалі сябе ні беларусамі, ні палякамі, ні літоўцамі ні яшчэ кім-небудзь іншым. Мы — тутэйшыя, казалі яны. На патрабаваньне выбраць сабе нейкую нацыянальнасьць, бальшыня неахвотна запісалася беларусамі, меншая частка — літоўцамі, хоць на іхную думку беларусы былі праваслаўныя, а самі яны — каталікі. У выніку ў вёсцы Трашчаны беларусамі запісаліся каля 70%, літоўцамі — 20% і палякамі — 10%. Калі б ім дазволілі запісацца людзьмі без нацыянальнасьці, гэткімі б запісалася каля 75%, беларусамі — 12%, палякамі — 12% і літоўцамі — 1% (усе літоўцы былі прыежджыя). З гутарак зь іншымі перапісьнікамі выявілася, што гэтая вёска была даволі тыповая для тагачаснай Сьвірскай акругі.

Жыхары вёскі Трашчаны зусім не былі

Працяг на старонцы 6.

АДКРЫЦЬЦІ СЬВЕТУ

# КАПАЛЬНІ

Крывальцэвіч

тараў рушыліся вэртыкальна на поўную шырыню кар'ера. Тады можна было на глыбіні да 15 мэтраў убачыць разрэз крэйдавай пароды. «... Перад намі на крэйдавай сьцяне, як на гіганцкім палатне шырынёю каля 100 м адкрылася карціна, якая не магла не ўсхваляваць ня толькі любога археоляга, але й кожнага, хто хоць бы ў слабой ступені цікавіцца старажытнай гісторыяй чалавецтва. Як толькі вока, крыху звыкнуўшыся зь бельлю, набыло здольнасьць улаўліваць розьніцу паміж чыстаю крэйдаю сьцяны і крыху больш цямнейшым, іншым па структуры крэйдавым друзам, пачалі зьяўляцца адна за другой плямы розных абрысаў. Выразна выступілі прамыя вэртыкальныя ці выцягнутай формы, апушчаныя з паверхні калодзежы шахтаў, па якіх некалькі тысячагодзьдзяў таму спускаўся чалавек усьлед ланцужкам крамянёвых канкрэцыяў, невялікія плямы акруглых абрысаў, часам пустыя, перарэзаныя кар'ерамі падземныя калідоры — штрэкі, нарэшце, больш шырокія плямы, якія абазначалі камэры».

## Капальні

Жыхары Краснага Сяла і суседніх вёсак яшчэ зь міжваеннага часу, капаючы крэйду для гаспадарчых патрэбаў, ведалі, што ў крэйдавых адорвеньнях трапляюцца ямы, запоўненыя больш мяккім друзам. Эмпірычна яны, мусіць, адчувалі вартасьць зробленых імі назіраньняў. Былі й тыя, хто памятаў раскопкі археолягаў 20-30 гадоў. Людзі нават спрабавалі паказаць месца колішніх выкопаў паваенным дасьледчыкам. Ды дзе там! Ваколіцы, з пашырэньнем тутэйшым заводам кар'ернай працы, моцна зьмяніліся, месцамі ператвараючыся ў «блакітныя азёры».

Актыўнае навуковае дасьледаваньне шахтаў пачалося ў 1960-ыя гады. Вучоным, для таго, аб узнавіць закінутыя і выпрацаваныя ў старажытнасьці шахты, найчасьцей прыходзілася на нейкі час станавіцца шахцёрамі. Заглыбляючыся ў колішнія выпрацоўкі і перабіраючы крэйдавы друз, археолягі апыналіся ў цёмных і сырых падбоях, штрэках і камэрах, дзе чалавек ледзьве мог зьмясьціцца, лежачы ў выпрацоўках. На некалі мяккіх, як сырая гліна, крэйдавых сьценах захоўваліся сьляды капаньня старажытнымі шахцёрскімі інструмэнтамі, бачыліся прыгладжаныя вопраткаю ды закураныя лучынаю сутарэньні...

Крэмень — асноўны і самы надзейны матэрыял, якім людзі карысталіся з глыбокай старажытнасьці на працягу многіх тысяч гадоў. Як мы ня можам уявіць сабе нашае жыцьцё без мэталу, так і чалавек эпохі каменя і пачатку бронзавага веку ня здолеў бы і дня пражыць бяз вырабаў з крэменю. Крамянёвую сыравіну можна было лёгка і амаль паўсюдна знайсьці на размытай паверхні зямлі. Але самым плястычным і падатным пры апрацоўцы быў крэмень, які залягаў на глыбіні ў крэйдавых пластах.

Асабліва вялікая патрэба ў шахтавым крэмені зьявілася ў канцы каменнага веку — нэаліце і пазьней, у эпоху бронзы, калі людзі імкнуліся інтэнсыўна асвойваць лясныя прасторы, займаючыся вырошчваньнем акультураных расьлін і развядзеньнем хатніх жывёлаў. Крамянёвыя сякеры вялікіх памераў, цёслы, сярпы станавіцца абавязковымі атрыбутамі тагачаснага жыцьця.

У нэаліце старажытныя жыхары Эўропы пачынаюць актыўную шахтавую распрацоўку крамянёвых радовішчаў. На думку Міхася Чарняўскага, першыя шахты на Росі, верагодна, заклалі ў другой палове 3 тыс. да н.э. находнікі зь Сярэдняй Эўропы —насельніцтва культуры шарападобных амфар. Пра гэта сьведчаць ня толькі сьляды іх паселішчаў, але й рэшткі могільніка, які летам 1971 г. быў выпадкова адкрыты мясцовым краязнаўцам М.Верацілам недалёка ад краснасельскіх капальняў. У пахаваньнях, дасьледаваных Міхасём Чарняўскім, акрамя парэштак спаленага нябожчыка зьмяшчалася шмат костак ахвярных жывёлаў, у тым ліку быкоў. У грудной клетцы аднаго з быкоў археолягамі адшуканы 2 касьцяныя наканечнікі стрэл, якімі, мусіць, і была забітая жывёліна.

Пазьней, у самым канцы 3 — першай палове 2 тыс. да н.э., здабычаю крэменя на Росі магло займацца насельніцтва мясцовай культуры з шнуравой керамікай. Раскопкі і актыўныя пошукавыя дасьледаваньні на прылеглых пясчаных пагорках дазволілі выявіць сьляды іх паселішчаў. У адной з шахтаў знойдзенае нават пахаваньне, пакінутае шнуравікамі, пра якое я ўжо згадваў вышэй.



Крэмень капалі тут і пазьней, у эпоху бронзы, верагодна, на працягу ўсяго 2 тыс. да н.э. ва ўсялякім разе, большасьць радыёвуглярodных дат, атрыманых па арганічных рэштках зь некаторых шахтаў, прыходзіцца на 1640-1240 г.г. да н.э...

Каля вёскі Карпаўцы і пасёлка Краснасельскі крэмень — у выглядзе доўгіх ланцужкоў асобных канкрэцыяў — фігурных утварэньняў, залягае на рознай глыбіні ў падземных радовішчах крэйды. Яе тоўшча перакрытая зьверху пясчана-жвіровым покрывам. Старажытным шахцёрам, каб натрапіць на крамянёвую «жылу», неабходна было пракопваць жвір, а затым заглыбляцца ў крэйду.

Мяккая крэйда добра капалася. Але ў той жа час сьценкі выпрацаванай шахты пад узьдзеяньнем сонца, вады і ветру давалі трэшчыны, сыпаліся, размываліся, што пагражала абвалам. Таму глыбіня вэртыкальных калодзежаў вельмі рэдка была большая за 3-5 м, а дыямэтар — 1,5-1,6 м. Натрапіўшы на ланцужок крамянёвых канкрэцыяў, людзі пашыралі шахту ў бок прасьціраньня так неабходнага ім каменя, ці інакш рабілі нішу-падбой, вышыня якога рэдка перавышала 1,5 м. Такіх падбояў магло рабіцца ў шахтавым калодзежы некалькі і на рознай вышыні. Бакавыя адгалінаваньні ад вэртыкальнай шахты маглі ператварацца ў вузкія, дыямэтрам каля 60 см, падземныя калідоры — штрэкі, якія цягнуліся 1-2 і болей мэтраў. Штрэкі зьвязвалі ў некаторых выпадках некалькі шахтавых выпрацовак, ператвараючыся ў вялікі разгалінаваны комплекс пад зямлёю.

Але старажытныя шахцёры, разумеючы небясьпечнасьць занадта доўгіх штрэкаў ды глыбокіх падбояў, імкнуліся закладваць побач з выпрацаванаю капальняю яшчэ адзін шахтавы калодзеж, працягваючы, такім чынам, выбіраць ужо знойдзеныя ланцугі крэменю. Дзеля той жа бясьпекі зрэдку людзьмі пакідаліся слупы некранутай крэйды, якія ўтрымлівалі верхнія пласты пароды, не даючы ёй абваліцца.

Працяг на старонцы 6.

# ПАРА СКОНЧЫЦЬ ЛІТОЎСКА-

Працяг са старонкі 5.

цёмныя або адсталыя. Памылкова лічыцца, што страта пачуцьця нацыянальнай прыналежнасьці — азнака нізкай культуры. Бо ж тое самае адбывалася і ў перадавым Клайпедзкім краі, дзе падчас перапісу 1925 году 25,2% жыхароў запісаліся «клайпедцамі», гэта значыць мясцовымі жыхарамі краю — «тутэйшымі». Падобная сытуацыя назіралася і ў Эльзасе — нямецкамоўныя жыхары нямецкага паходжаньня вызначалі сябе то французамі, то немцамі, то эльзасцамі.

Ясна, што безнацыянальнае становішча нетрывалае. Можна прадбачыць, што людзі, якія страцілі нацыянальную сьвядомасьць, раней ці пазьней пачнуць атаясамліваць сябе зь якім-нібудзь этнасам і ўрэшце стануцца яго часткаю. Важны фактар у скіраваньні нацыянальнага самавызначэньня ў той або іншы бок — дзяржаўная ўлада. Яна мае дзейсныя сродкі — ад адукацыйнай сыстэмы да вайсковага прымусу.

За нацыянальна нявызначаны Віленскі край пасьля Першай сусьветнай вайны распачалася ўпартая барацьба трох народаў, і вялася гэтая барацьба ня толькі за немалую тэрыторыю, але й за магчымасьць далучыць да свайго этнасу бальшыню жыхароў гэтага краю. Кожны бок канфлікту быў перакананы ў сваім сьвятым праве на гэты край і ягоных людзей: літоўцы — грунтуючыся на паходжаньні жыхароў краю, беларусы — на іхнай мове, а палякі — на падставе касьцельнай, дворнай і частковa гарадзкой польскай культуры.

### 7. КРЫЎДЫ КАНФЛІКТУ

Сяргей Шупа наракае, што прадстаўнікі літоўскіх уладаў і наагул літоўцы пастараліся дзе толькі маглі закрыць беларусам дарогу на міжнародныя форумы. Ніводзін літоўскі дыплямат або палітык ня мог быць нагэтулькі тупы, каб не зразумець, што Літве на карысьць была моцная й незалежная Беларусь, аднак калі беларусы выказалі прэтэнзіі на Вільню й Віленскі край, канфлікт стаўся непазьбежны. Можа й ня трэба было б дзівіцца, што ён набыў вострыя формы. На могілках Роса ляжаць літоўскія і польскія жаўнеры, якія загінулі ў баёх за Вільню. Гэта была ўжо не навуковая спрэчка. Літоўскія дыпляматы ня выканалі б сваіх абавязкаў, калі б не перашкодзілі беларускай дэлегацыі на міжнароднай канфэрэнцыі заявіць свае прэтэнзіі на Вільню і тым самым аслабіць і гэтак вельмі няпэўную пазыцыю Літвы побач з палітычным уплывам і ваеннай сілай Польшчы.

Дарэчы, намаганьні беларусаў стварыць па Першай сусьветнай вайне сваю незалежную дзяржаву здушыла не Літва, а Польшча й Савецкая Расея, якія падзялілі Беларусь у 1921 годзе паводле Рыскага міру.

Няўдалыя спробы літоўцаў і беларусаў знайсьці аснову для супрацоўніцтва на эміграцыі апісаў у сваіх успамінах Вацлавас Сідзікаўскас[4]. Па Другой сусьветнай вайне беларускія прадстаўнікі ня толькі выказвалі прэтэнзіі на Вільню, але й патрабавалі калідору праз Літву ў Каралевец (Кёнігсбэрг). Пазьней яны крыху зьменшылі свае патрабаваньні, але ўсё адно прапаноўвалі нэўтралізаваць Вільню і частку Віленскага краю, якая дасталася Літве, зрабіўшы зь іх своеасаблівую «нічыйную зямлю» паміж Літвой і Беларусяй[5]. Дык жа ці трэба дзівіцца, што літоўцы пастараліся, каб беларусы ня мелі магчымасьці пашыраць гэткія дамаганьні праз «Голас Амэрыкі»?

Цяпер этнічная сытуацыя ў Віленскім краі адрозьніваецца ад той, якая была па Першай сусьветнай вайне. Нацыянальную барацьбу ў спробах прыцягнуць на свой бок безнацыянальных жыхароў хоць бы ў частцы Віленшчыны, якая дасталася Літве, і літоўцы і беларусы прайгралі. Былыя асобы без нацыянальнасьці вырашылі стацца палякамі, хоць і сёньня ва ўсім Салечніцкім і ў паўдзённай частцы Віленскага раёну яны гавораць не папольску, а па-беларуску. Аднак як толькі яны выказаліся за польскасьць, сярод іх пачала хутка пашырацца польская мова, і сталася ўжо толькі пытаньнем часу — калі яна заменіць беларускую, як гэта яшчэ раней адбылося ў паўночнай частцы Віленскага раёну.



Уладзімер Тоўсьцік, "Вільня"

### 8. МАГЧЫМАСЬЦІ ПАЛАГОДЖАНЬНЯ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ

Калі літоўцы й беларусы прайгралі ў этнічнай барацьбе за нацыянальнае самавызначэньне безнацыянальных жыхароў Віленскага краю, зьнік і аб'ект іхнай спрэчкі ды стварыліся ўмовы скончыць канфлікт гэтых двух народаў і палагодзіць іхныя дачыненьні. Шлях, якім можна вырашыць беларуска-літоўскую спрэчку, паказаны ў вырашэньні нямецка-францускага й літоўска-польскага канфліктаў. Суперныя бакі ў гэтых спрэчках адмовіліся ад усіх тэрытарыяльных прэтэнзіяў і цалкам прынялі цяперашнія межы, а гісторыю пакінулі гісторыкам. У беларуска-літоўскім выпадку гэта значыць, што беларусы мусілі б адмовіцца ад сваіх прэтэнзіяў на Вільню, а літоўцы — на Горадню, Ліду, Ашмяну, Браслаў ды літоўскія ваколіцы Пелясы, Гярвятаў і Опсы ў Беларусі. Абодва народы мусілі б прыняць мяжу Беларусі й Літвы паводле дамовы за 6 лютага 1995 году і мусілі б лічыць гэтую мяжу справядлівай, сталай і нязьменнай.

Бясспрэчна гэта было б крыўдна для абодвух народаў. Беларускі нацыянальны дэмакратычны рух, магчыма, не захацеў бы прызнаць дамовы аб межах, падпісанай Аляксандрам Лукашэнкам, хоць яна была ратыфікаваная і ўвайшла ў дзеяньне яшчэ да Лукашэнкавага перавароту ў лістападзе 1996-га. Літоўцам крыўдна, што цяперашняя мяжа ўзьнікла разам з улучэньнем

# ЧАЛАВЕК У

Працяг са старонкі 5.

На тых эўрапейскіх капальнях, дзе крэмень залягаў у больш цьвёрдых пародах, напрыклад, у вапняках, як гэта было ў Кшэмёнках Апатоўскіх, выпрацоўкі дасягалі значна большых памераў. Шахтавыя калодзежы тут капаліся на глыбіню да 4-10 м. Падземныя галерэі маглі разыходзіцца ад вэртыкальнага ствала да 13-15 м, часам утвараючы вакол яго выпрацоўкі плошчай ў 400 кв.м. Аднак у кшэмёнкаўскіх шахцёраў пры гэтым узьнікалі праблемы з вэнтыляцыяй, што вымушала іх прабіваць дадатковыя адтуліны ў сьценках падземных калідораў.

Шахцёры красносельскіх шахтаў, ня маючы магчымасьці павярнуцца ў вузкім калідоры штрэка галавою да выхаду, звычайна выбіраліся адтуль паўзком і задам. Пустую пароду адгрfavалі, засыпаючы ёю ўжо выпрацаваныя пустоты, ці паднімалі наверх і скідвалі ў старыя шахты. Археолягі, шукаючы вусьці шахтаў, лёгка вылучалі іх па круглай форме і крэйдавым друзе, якім засыпалі ўжо непатрэбныя выпрацоўкі.

Асьцярожна выбіраючы пустую пароду з шахтаў, спэцыялісты маглі бачыць на сьценках сьляды працы шахцёрскімі інструмэнтамі. Месцамі адбіткі былі такімі выразнымі, што перадавалі нават зазубрыны спрацаваных рагавых кайлаў. Гэта значыць, што пустыя выпрацоўкі адразу ж запаўняліся друзам; вецер, сонца і вада не пасьпявалі зьнішчыць сьляды іх інтэнсыўнай працы.

Пры дасьледаваньні красносельскіх шахтаў у наш час было праведзена некалькі экспэрымэнтаў. Адзін зь іх тычыўся падліку колькасьці затрачанай працы на распрацоўку шахты. У 1964 г. з крэменю, здабытага пад Красным Сялом, археолягі падрыхтавалі нажы і сякеры, з дапамогаю якіх, паводле старажытнай тэхналёгіі, змайстравалі рагавыя кайлы, аналягічныя тым, якія трапляліся пры раскопках шахты. Яс капаў дзяцюк пры дакладнай фіксацыі часу і прыёмаў працы. Для распрацоўкі капальні глыбінёю 1,5 м і дыямэтрам 1,2 м затрачана 8 гадзін 15 хвілін, а падбоя даўжынёю 0,78 м — 1 гадзіна 47 хвілін.

Яшчэ ў 19 ст. экспэрымэнтальныя работы па выкопваньню шахт на месцы знакамітага комплексу пад Сісбуры правёдзіў англійскі археоляг Л.Фокс. Працуючы па чарзе са сваім напарнікам інструмэнтамі старажытных шахцёраў, ён адзначыў, што падземную галерэю працягам 7,1 м можна выкапаць за 12 гадзін бесьперапыннай працы.

Экспэрымэнты сьведчаць пра надзвычайныя вялікія фізычныя затраты, неабходныя для распрацоўкі капальняў, што ў першую чаргу залежала ад нізкай эфэктыўнасьці тагачасных гарняцкіх інструмэнтаў. У красносельскіх шахтах крэйду капалі кіркамі-кайламі, а канкрэцыі выкорпвалі тычкамі капачамі. Іх рабілі з адростку і рагулістай вяршыні рагоў аленя. У якасьці рыдлёвак для адграбаньня пустой пароды служылі абрэзаныя лапаткі лася.

У шахтах захаваліся сьляды драўляных памостаў для крэменю, зь якіх яго потым паднімалі ўверх. Старажытныя людзі вылазілі з шахтаў па апушчаным ствале дрэва, зь якога папярэдне абсеквалі гальлё. Знойдзеныя ў выпрацоўках касьцяныя іголкі ды праколкі наводзяць на думку аб неабходнасьці частага рамонту скураных мяшкоў, у якіх паднімалі ўверх здабыты ў шахтах крэмень.

З паглыбленьнем шахтавага калодзежа і распрацоўкі падбояў, штрэкаў пад зямлёю станавілася цёмна. Шахты часта асьвятляліся лучынаю, сьляды ўжываньня якой захаваліся на сьценках і столі выкопаў, дзе можна было ўбачыць закураныя, чорныя пісягі ды дзіркі, зь якіх некалі тырчалі палаючыя трэскі. Для асьвятленьня і праветрываньня шахтаў маглі рабіцца спэцыяльныя адтуліны. Сыстэма такіх асьвятляльных і вэнтыляцыйных дзірак адзначаецца польскімі дасьледчыкамі на шахтах Кшэмёнкаў Апатоўскіх.

Красносельскі комплекс уключае ў сябе ня толькі шахты па здабычы крэменю. У ягоны склад уваходзілі шматлікія майстэрні па першаснай апрацоўцы здабытай сыравіны.

## Майстэрні

Выкапаныя ў крэйдзе крамянёвыя канкрэцыі ўжо ў самой шахце сартаваліся на патрэбныя і непатрэбныя. Адабраны крэмень падніМаўся наверх, дзе яго апрацоўвалі. Здаралася аднак, што зь ім пачыналі працаваць ужо ў самой шахце, каб той не пасьпеў згубіць свае плястычныя якасьці. Заадно — ня трэба было цягнуць наверх лішні цяжар.

На месцы майстэрняў археолягі знаходзяць вялікую колькасьць расшчэпленага крэменю, інструмэнты для яго апрацоўкі, выбракаваныя ды выкінутыя нарыхтоўкі. Майстры маглі ўладкоўвацца ў паглыбленьнях старых засыпаных выпрацовак ці на месцы часовых пасёлкаў. Майстэрніпаселішчы знойдзеныя на пясчаных пагорках уздоўж Росі.

Пасёлкі-майстэрні існавалі на працягу працы шахцёрскай экспэдыцыі. Капаць шахты мела сэнс толькі ў сухія летнія месяцы, што і абумоўлівала сэзоннасьць паселішчаў, у якіх жылі нарыхтоўшчыкі крэменю. Красносельскія майстэрні спэцыялізаваліся на вырабе нарыхтовак сякер. Каб атрымаць паўфабрыкаты высокаякасных сякер, неабходна было выбраць патрэбнай формы канкрэцыю і зьдзейсьніць цэлы шэраг пасьлядоўных апэрацыяў. Тэхналёгія апрацоўкі крэменю, удасканаленая за многія тысячы гадоў, мела адпаведныя культурныя адзнакі і адлюстроўвала пэўныя этнаграфічныя рысы. Таму ёй у археалягічнай літаратуры надаецца надзвычай шмат увагі.

Здаралася, на месцы красносельскіх майстэрняў пасьля надзвычай карпатлівых і скрупулёзных пошукаў сярод многіх тысяч адшчэпаў беларускім археолягам удавалася нават знайсьці адляцелыя сколы і скласьці зь іх канкрэцыі ў тым выглядзе, у якім яны трапілі ў рукі старажытнага майстра.

Нарыхтоўка такой вялікай колькасьці паўфабрыкатаў сякер дазваляла мясцоваму старажытнаму насельніцтву пастаўляць іх на абмен у суседнія раёны, дзе не было такой сыравіны. Ацэньваючы маш-



# БЕЛАРУСКІ КАНФЛІКТ

Літвы ў Савецкі Саюз; яна была абвешчаная і апісаная ў акце анэксіі 3 жніўня 1940 году. Яна была праведзеная як адміністрацыйная разьмежавальная лінія паміж дзьвюма савецкімі рэспублікамі, надзвычай пакручастая, цяжкая для ахоўваньня ды наагул надта нязручная як дзяржаўная мяжа.

Гэтая мяжа не адпавядае ні моўнай, ні гістарычна-этнічнай мяжы, таму і беларусы і літоўцы лічаць яе несправядлівай. Аднак выправіць яе немагчыма, бо немагчыма ўзгадзіць абодва названыя крытэрыі. Ні адзін ні другі бок ня згодзіцца на зьмену мяжы на карысьць суперніка, таму яе даводзіцца прызнаць такою, як яна ёсьць. Інакш беларуска-літоўская спрэчка будзе працягвацца, паступова ўсё вастрэй супрацьпастаўляючы абодва народы, бо з разьвіцьцём канфлікту сапраўдных і ўяўных крыўдаў з абодвух бакоў будзе штораз болей.

Як паказаў літоўска-польскі досьвед, як толькі бакі пагаджаюцца ў справе межаў і сталіцаў, зьнікаюць фобіі і разьвейваюцца міты. Зацятыя спрэчкі аб гістарычных крыўдах перамяшчаюцца ў акадэмічныя сфэры й губляюць сваю вастрыню. Цяжэй вырашаюцца толькі праблемы меншасьцяў, асабліва, калі самі гэтыя меншасьці, баючыся застацца забытымі, імкнуцца да абвастрэньня дачыненьняў. Апрача таго, заўсёды знойдуцца людзі, што будуць упарта трымацца састарэлых стэрэатыпаў, аднак яны ня здолеюць стрымаць пераменаў, прынятых пераважнай большасьцю грамадзтва.

Ня йнакш было б і ў тым выпадку, калі б беларусы й літоўцы дамовіліся цалкам і без паправак прыняць цяперашнюю мяжу Беларусі й Літвы. Гістарычныя спрэчкі ўраз сталіся б акадэмічнымі, а з старой спадчыны Вялікага Княства Літоўскага кожны з гэтых двух народаў мог бы браць што яму бліжэйшае й даражэйшае, ня сварачыся дзеля гэтага з суседам. Хіба ж абодва народы й абедзьве дзяржавы ня могуць мець агульных традыцыяў, радавацца агульным дасягненьням і вучыцца з агульных памылак?

Можна сьмела сьцьвярджаць, што вельмі хутка на падставе сапраўдных інтарэсаў абодвух народаў і дзяржаваў паміж беларусамі й літоўцамі ўсталяваліся б добрыя й шчырыя дачыненьні. Бо ж для Літвы лёс Беларусі, хоць бы ўжо толькі дзеля яе геапалітычнага становішча, бясконца важны. А беларускаму нацыянальнаму дэмакратычнаму руху прыязнасьць і падтрымка літоўцаў можа й таксама былі б карысныя.

Трэба спадзявацца, што пасьля пасьпяховага прымірэньня з палякамі, літоўскае грамадзтва гатовае да гэткай самай нармалізацыі дачыненьняў і зь беларусамі. Аднак ці гатовы на гэтакі крок беларускі нацыянальны дэмакратычны рух?

**Пераклаў зь літоўскай Сяргей Шупа**

[1] На Літоўскай Пагоні — шчыт сіні з залатым падвойным крыжам, а на Беларускай — белы з такім самым залатым крыжам. У геральдыцы колеры — істотны дыфэрэнцыйны элемэнт. Дарэчы, прэзыдэнт РБ Аляксандар Лукашэнка стварыў новы герб Беларусі ў савецкім стылю, аднак яшчэ невядома, ці беларускі народ засвоіць яго як свой.

[2] У заяве беларускага прадстаўніка на Генэральнай Асамблеі ААН фігуравала «Grand Duchy Litva».

[3] У межах акупацыйнага Остлянду немцы далучылі да літоўскай адміністрацыі Ашмянскую й Сьвірскую акругі, Беняконскую й Відзаўскую воласьці. У Літвы былі забраныя і далучаныя да Ўсходняй Прусіі Друскеніцкая й Марцінконская воласьці.

[4] Lictuvos diplomatijos paraštcjė, Vaga, Vilnius, 1994, p. 293-294.

[5] Тамсама.

*Тэкст зь месячніка «Akiračiai» (Chicago) — органу літоўскіх эмігрантаў-лібэралаў (г.зн. несацыялістаў і нехадэкаў). З гэтых колаў, дарэчы, паходзіць новаабраны прэзыдэнт Літвы Валдас Адамкус.*

*Альгімантас Гурэцкас — літоўскі эміграцыйны дзяяч, палітоляг. Адразу па аднаўленьні незалежнасьці ў 1990 годзе працаваў у Літоўскай місіі ў ААН. Цяпер — на пэнсіі, жыве ў ЗША.*

# КАПАЛЬНІ

табы распаўсюджваньня крэменя з Кшэмёнак Апатоўскіх, польскія археолягі пішуць, што вырабы зь яго можна знайсьці ў радыюсе 400-500 км.

## Рэканструкцыя чалавека з шахты

Выпадковае адкрыцьцё чалавечага шкілета ў 1962 г. у адной з краснасельскіх шахтаў — не адзіная знаходка такога кшталту. Людзкія косьці, паводле паведамленьня рабочых кар'ера, сустракаліся тут не адзін раз. Але ў тых выпадках спэцыялістам не прыйшлося іх пабачыць. Таму застаецца толькі здагадвацца, ці былі гэтыя парэшткі яшчэ некалькімі разбуранымі пахаваньнямі ў шахтах, ці знаходжаньне іх — сьведчаньне няшчасных выпадкаў, якія маглі здарацца ў старажытнасьці.

Вядома, напрыклад, што ахвярамі абвалаў ў крэмнездабыўных капальнях сталі старажытныя людзі, рэшткі якіх знайшлі на дне дванаццацімэтровай шахты ў Сьпіене (Бэльгія), а таксама ў шахтах Стрэпі (Францыя) і Обургу (Бэльгія). Пад Маўэрам у Аўстрыі пад пластом друзу ў ніжняй палове адной з крэмнездабыўных шахтаў археолягі адкрылі два людзкія пахаваньні, каля якіх у старажытнасьці былі пакладзеныя тушы казы і аленя.

Шкілет чалавека, які быў пахаваны ў краснасельскай шахце, дасьледаваўся беларускімі антраполягамі. Паводле іх заключэньня гэта быў мужчына 30-40 гадоў даволі аскетычнага выгляду. Выкарыстоўваючы добра распрацаваную Мікалаем Герасімавым і ягонымі вучнямі мэтодыку ўзнаўленьня аблічча старажытных людзей, антраполяг з Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру І.Чаквін і скульптар зьдзейсьнілі плястычную рэканструкцыю галавы памерлага (гл. фотаздымак). Узнавіць аблічча чалавека можна па рэльефу ягонага чэрапа. Існуе пэўная сувязь паміж структурай мяккіх тканак твару і ягонай якаснаю паверхняю. Паводле ацэнкі спэцыялістаў асноўныя парамэтры чэрапа краснасельскага чалавека набліжаюцца да антрапалягічнага тыпу тагачаснага насельніцтва Правабярэжнай Украіны і маюць пры гэтым цэлы шэраг адметнасьцяў.

***

Мяркуецца, што толькі каля Краснага Сяла ў старажытнасьці было выкапана ня менш за 3000 шахтаў. Але многія з крэйдавых радовішчаў так і засталіся неабсьледаванымі археолягамі, бо былі зьнішчаныя кар'ернымі распрацоўкамі. На некаторых крэйдавых радовішчах, якія захоўваюцца некранутымі, маюцца рэальныя пэрспэктывы для адкрыцьця яшчэ многіх сотняў старажытных капальняў. Нягледзячы на калясальныя разбурэньні, шахты на Росі паводле ацэнкі спэцыялістаў — адзін з найбуйнейшых цэнтраў масавай крэменездабычы ў Эўропе. Комплекс паранейшаму мае пэрспэктывы для мэтанакіраванага дасьледаваньня на ўзроўні самых найноўшых мэтодык.

У 1969 годзе ў раёне Краснага Сяла было вырашана стварыць дзяржаўны запаведнік. А адну з пляцовак — месца найбольшай канцэнтрацыі шахтаў — археолягі пакінулі нечапанаю, мяркуючы, што некалі тут будзе музэй.

Тым часам у суседняй Польшчы музэй на месцы крэмнездабыўнага комплексу пад Кшэмёнкамі Апатоўскімі, як і рэканструяванае гарадзішча Біскупін, сталі месцамі сапраўднага паломніцтва турыстаў з усёй Эўропы.

P.S. Цяпер Нацыянальная камісія Беларусі ў справах UNESCO рыхтуе матэрыялы дзеля ўлучэньня капальняў на Росі ў Сьпіс сусьветнае спадчыны.

# Жалуды гісторыі

**Генадзь Сагановіч**

*Найгоршы вораг цяпер — жыцьцё без гістарычнай пэрспэктывы...*
*(Станіслаў Бжазоўскі)*

Нашая гісторыя заўжды бурыць мой спакой.

Помню, гадоў дзесяць таму ў археалягічным раскопе, што зеўраў у двары Старога Замку ў Горадні, на глыбіні якіх васьмі-дзевяці мэтраў ад дзённай паверхні нам трапіліся... жалуды XII стагодзьдзя! Далібог, яны нічым ня розьніліся ад жывых, выглядалі бы леташнія... Сустрэча, ад якой захадзіла ў грудзях. Адчуваў тады, як паміж імі і мною спрасавалася ледзь ня ўся нашая гісторыя. І ажылі раскапаныя зрубы хатаў. У шуме электралябёдкі ўчуў перазвон далёкай Сафійкі. Прыгадваю, мне так хацелася пасадзіць тую знаходку і чакаць узыходу, чакаць, як уваскрошаньня... Гісторыі.

Мінулі часы ўзьнёслага рамантызму, нашай крылатай пэўнасьці... Абязьлюдзелі пляцы. Краіну паціху ахуталі панурыя прыцемкі, і час бы замёр.

Тое, што стала адбывацца ў Беларусі цягам апошніх гадоў, пэўна «прачысьціць мазгі» ня толькі беларускім палітыкам, але й гісторыкам, калі яны яшчэ прагрэсісты. Калі гісторыя для іх —гэткае паступальнае разьвіцьцё, пераход «ад» і «да», спаўненьне нейкага вядомага сцэнару. Самыя тэрміны «эвалюцыя», «прагрэс», «аб'ектыўнасьць» даўным даўно дыскрэдытаваліся, так што ў мове цывілізаванага сьвету ці не з пачатку стагодзьдзя іх асьцярожна ўнікаюць. Практыка сто разоў давяла, што гісторыя можа мінаць і без разьвіцьця, што можа быць многа праўдзівых гісторыяў пра адну падзею, што, урэшце, само разуменьне прагрэсу вельмі імглістае. У Эўропе гэта альфабэт учарашняга дня, бо там у гісторыі вучыліся. Што праўда, калісьці. Цяпер не павучысься. Глыбокі разрыў зьмяніў самое стаўленьне да гісторыі, само ўспрыманьне мінулага. Усё паплыло, паехала, памянялася і адразу «састарэла». Настаў канец заканамернасьцяў, страцілася актуальнасьць агульных тэорыяў разьвіцьця, адышлі ў нябыт усялякія каштоўнасныя арыентацыі, — эпатажна канстатуюць постмадэрністы. Іх аўтарытэты, імем якіх назольна прапаведуюць падобнае бачаньне, кажуць, што новае мысьленьне нясе і «вызваленьне ад гісторыі»... Вось дзе сапраўды «часы агульнай заблутанасьці» (Абдзіраловіч). Ва ўсіх абвешчаных постмадэрністамі «канцах» суцяшаць можа хіба адно — што гэта канец і ўсялякаму абсалютызму, найперш інтэлектуальнаму.

У такім хаосе і татальным нігілізме мне стаў часьцей згадвацца стары немец Ранке зь ягонымі імпэратывамі. «Гісторык тут дзеля таго, каб зразумець сэнс кожнай эпохі самой па сабе і вучыць гэтаму разуменьню іншых», — цьвердзіў бацька так і не пасьпеўшага зрабіцца модным у нас клясычнага гістарызму. Гэта ж праўда. Першы прафэсійны абавязак гісторыка — разумець (усяго толькі! а самае цяжкае) мінуўшчыну. І бачыць у ім, дадам, адметны шлях свайго народу, спасьцігаць яго сэнс.

Паспрабаваў быў шукаць сэнс нашай гісторыі, ды суняўся. Бо, калі не спэкуляваць, сур'ёзнай размовы пра сэнс беларускай гісторыі пакуль і чакаць не выпадае, паколькі бракуе першаснага — грунтоў, сынтэтычных дасьледаваньняў, якія б ахаплялі ўсе бакі гістарычнага жыцьця беларусаў. А ўвогуле, па мне, дык лепей бы сэнс гісторыі выяўляўся сам па сабе, чым яго маюць канструяваць гісторыкі. Як сэнс жыцьця ў самым жыцьці, у выяўленьні творчага духу і розуму, гэтак і сэнс гісторыі ў ёй самой, у рэалізацыі патэнцыі. Гістарычны шлях нясе іманэнтную мэту сам у сабе. Ён — таямнічы лябірынт: ніхто ў ім наперад ня ведае, праз што і куды выйдзе, што страціць і што набудзе.

Аднак гэтым не суцешымся. Калі вакол паняверка, калі на вачах усё бэсьціцца і прадаецца, а цэлы народ марнее, проста даймае зусім нутраная патрэба шукаць хоць якую лёгіку выйсьця, адказы на пытаньне «Чаму так?» Практыка сьведчыць, што пачуцьцё сэнсу свайго існаваньня цэламу народу надае (можа надаць!) акурат гісторыя як рэфлексія. Сам народ, як ведама, шукае ў мінулым сваю праўду — легенду, у якой мусіць быць справядлівасьць (каб кроў была пралітая ня марна! etc. etc. etc.) і павучальнасьць. А прафэсійная этыка гісторыка хутчэй канфліктуе, чым ужываецца зь мітам. Ягоная справай — крытычна, навукова канструяваць хаду падзеяў і вызначаць іх сэнс, а не дагаджаць людзкім гўстам. Тут усё на сумленьні. І асабіста я ня ўзяўся б вызначаць, што ў нашай сытуацыі можа прынесьці болей шкоды — пэсымізм праўды ці аптымізм няпраўды.

Генэралізаваўшы і гіпэрспрасьціўшы, у беларускім мінулым можна заўважыць колькі яўна вызначальных залежнасьцяў. Ня кратаючы глыбокай старажытнасьці, зьвярнуся адразу да часоў відавочнага існаваньня беларусаў як этнасу, да эпохі, што пакінула нам столькі муроў і паданьняў, што выклікае столькі мрояў і дэбатаў — да нашай (і іхнай) сярэднявечнай дзяржавы Вялікага Княства. Трапна сказана клясыкам: у ВКЛ Беларусь была «як зярнятка ў тым гарэху» (Багушэвіч) — ядром, станавіла сарцавіну вялікага гаспадарства. Ды вось жа замоцнай аказалася гарэхава скарлупіна. Патрыятызм дзяржаўны ня даў узысьці нацыянальнаму, проста прыбіў яго. Беларуская эліта ледзь не да XX ст. бачыла сябе ў ВКЛ, пачувалася «ліцьвінамі» etc. і не генэравала беларускай нацыянальнай ідэі. Тады як Украіна, захоўваючы дыстанцыю, жывучы сваім жыцьцём — што ў Княстве, што ў Кароне, таму й змагла ўжо голасам казацкага гетмана задэкляраваць праграму ўласнай дзяржаўнасьці.

Гэта першае фатальнае спазьненьне. А ў эпоху фармаваньня эўрапейскіх нацыяў з намі адбылося самае трагічнае — прыватызацыя нашай гісторыі ня намі. Суседзямі. Гісторыю заўсёды прыватызуюць пераможцы праз называньне і наданьне ёй свайго вобразу. Тое, што па праву належала нам, было забрана нянашымі гісторыкамі. Усё пісанае лацінкай ці каталіцкае зрабілася польскім, азначанае назовам «Русь» і праваслаўнае — расейскім, а цэлая гістарычная «Літва» стала ператварацца ў мона — Летуву. Хоць у Кромэра і Стрыйкоўскага Польшча сканчалася ейнай этнічнай мяжой, Расея тады, як ведама, была далёкай і чужой, а этнічныя летувісы складалі выразную меншыню...

Дасюль Беларусь стаіць перад тымі ж этапнымі патрэбамі —сваёй нацыянальнай дзяржавы і сваёй гісторыі. За стагодзьдзі безьдзяржаўнага існаваньня ў царскай і савецкай імпэрыях гэты край так і не зрабілі арганічнай часткай расейскай цывілізацыі (ці ня доказ самабытнасьці!), у якой зусім іншая матрыца, іншая ерархія каштоўнасьцяў, іншы характар нацыянальнага генатыпу. Матрыцай расейскай цывілізацыі заўсёды была дзяржаўнасьць. Дзяржава як сэнс усіх намаганьняў з часу першых цароў! Або яшчэ адна ўнікальная асаблівасьць сваякоў-суседзяў — няспыннае паглынаньне новых тэрыторыяў. Тым часам тут, як у Эўропе, сцьвярджалася самакаштоўнасьць асобы (грамадзяніна), што акурат станавіла найвыразьнейшую адметнасьць краю (культура права і верацярпімасьць), і пакаленьні за пакаленьнямі жылі «на корані».

Лёсавызначальная для нацыі праблема палягае на тым, як беларусу вярнуць мінулае, якое яму калісьці насамрэч належала. Здабыць сваю гісторыю. Па сутнасьці, нацыянальна-гістарычныя правы беларуса — гэта падставовыя правы чалавека. Тое, чым стаіць і да чаго апэлюе сучасны цывілізаваны сьвет. І хто ведае... Нават Фукуяма ў змрочным прагнозе «канца гісторыі» зрабіў выключэньне для нацыянальных рухаў, уважаючы, што «войны за нацыянальнае вызваленьне» могуць стацца рухавіком гісторыі і ў постгістарычную эпоху.

Пакуль прынамсі адно бясспрэчна, — што ў нас была і ёсьць свая гісторыя, якой ужо не пазбавяць. Хоць якая, ды свая. А мінулая рэчаіснасьць не памірае дазваньня. Утоеная, яна застаецца існаваць у сучаснасьці. Гісторыю вызначаюць ня толькі відавочныя, убачаныя і названыя ўчынкі, але й зусім нябачныя, безаблічныя, ананімныя плыні ўчалавечанага часу. Колішнія нерэалізаваныя магчымасьці не здымаюцца назусім: акумулюючыся, яны ўтвараюць своеасаблівую «мінулую будучыню». У гэтым сэнсе беларуская гісторыя наскрозь, з коптарам «набітая непераваранымі і неперажытым будучым» (Мамардашвілі). Так, нашая гісторыя становіць наш вялікі рэсурс, бо не скарыстаная яшчэ як час, каштоўнасьць і ўласнасьць.

Наогул, усялякая гісторыя ў сьведамасьці паўстае з працы (пісаньня) гісторыка, творыцца ягоным досьведам. Яна вынікае з дыялёгу сучаснага зь мінулым, нас — з далёкімі прашчурамі. Тут і вызначаецца пэрспэктыва, якая залежыць ад мяне, яго і вас як суб'екту гэтага дыялёгу.

Не, мы не ў такой безнадзейнасьці, як часам можа падацца. Сапраўды, «усё яшчэ магчыма»!

А старажытныя беларускія жалуды з глыбіні вякоў — гэта патэнцыя дуба цяпер, сёньня, узаўтра, пасьлязаўтра. Калі толькі пра гэта думаць, што значыць, калі жыць у гістарычнай пэрспэктыве.

«... Хоць зернейкі засохшымі былі...»

ВЫСТАВА

# «Сховішча сьвятла»



Блажко С., Хоцімск, 1889 г. З прыватнага збору М.Раманюка

Як я ні напружваў сваю памяць, так і не прыгадаў ніводнага вартага ўвагі старога беларускага фота ў савецкіх кнігах, альбо на выставах. Усё дзяцінства «Беларусь да 17-га году» асацыявалася ў мяне са страшнымі здымкамі менскіх ускраінаў, паводкі на Нямізе ды шпалернай фабрыкай... Адным словам —куток цемнаты. Ані табе выбітнае архітэктуры, ані пастаральных краявідаў, ані людзкага нармальнага жыцьця. Залішне нагадваць, што і якасьць гэтых рэпрадукцыяў была, як наўмысна, вусьцішнай... Мала таго, што за часамі СэСэСэРу была фізычна зьнішчаная большая частка нашае спадчыны, улады ймкнуліся вытруціць нават успамін пра яе. Што казаць, калі й да сёньня ў Нацыянальным музэі гісторыі й культуры Беларусі налічваецца толькі пару сотняў «адзінак захоўваньня» здымкаў, сярод якіх галоўная — фотаальбом жыдоўскае жаночае гімназіі зь Менску.

Але ва ўсе гэтыя дарэвалюцыйныя жахі (пахіленыя хаты, мурзатыя лапцюжнікі, бруд і нішчымнасьць) зь цягам часу верылася ўсё меней. Недавер стаў прынцыповым, калі я натрапіў на сямейны бабцін архіў. Сярод пажоўклых дакумэнтаў, абразкоў і выцінак са старых газэтаў было пару сотняў старасьвецкіх фота. Зь іх на мяне глядзелі мае прадзеды, дзяды, крэўныя й далёкія сваякі. Ахайна апранёныя й пастрыжаныя, з пачуцьцём упэўненасьці ў сабе і ў сваіх блізкіх. Вучоба, праца, сьвяты... Годнае чалавечае жыцьцё, дзе ёсьць месца й песьні й жальбе, але няма месца адчаю. Перадусім, для мяне гэта азначала, што наша гісторыя мае нашмат болей фарбаў, а значыць мусяць існаваць яе праўдзівыя сьведчаньні.

У сярэдзіне 80-х адбыўся нечаканы прарыў. Высьветлілася, што безьліч старых здымкаў і паштовак да сёньня блукаюць па руках людзей і ашчадна перахоўваюцца ў сямейных архівах. У 83-м годзе выйшла кніга Вячкі Целеша «Менск на старых паштоўках», якая адразу стала бэстсэлерам у Беларусі. Гэтую кнігу й цяпер прыемна ўзяць у рукі: густоўная аздоба, зграбна расстаўленыя здымкі і, бадай самае галоўнае, яна выклікае чыста чалавечую цікаўнасьць — дэталі краявідаў, поры году, і людзі... дзеці і старыя, паны і паненкі, службоўцы і гандляры, сяляне й шляхцюкі. Усе папярэднія камуністычныя ўяўленьні пра нашую мінуўшчыну адразу сплываюць... Пасьля былі кнігі Пазьняка, Каляды, Дзянісава, Шыбекі. Істотная дэталь — усе гэтыя кнігі былі ілюстраваныя фотаздымкамі з прыватных збораў. А на пачатку 90-х зьявіліся наборы старых здымкаў Полацка, Горадні, Віцебска, Гомеля... Але ніхто яшчэ не зважаў на здымкі прыватнага, людзкага йснаваньня на адлегласьці працягнутае насустрач рукі, сьвятло ад якога даходзіць да нас праз усе завірухі, пажары, доўгія ночы дзесяцігодзьдзяў...

«Вырваныя намі зь бясконцае Вечнасьці і ўзятыя фатаграфіяй у палон бясцэнныя прамяні здольныя вяртаць сваё магічнае сьвятло да невераемнасьці доўга — прынамсі да тае пары, пакуль існуе здымак, пакуль ён Сьведама Захоўваецца намі», — гэткімі словамі раскрывае канцэпцыю выставы «Сховішча сьвятла» Уладзімер Парфянок. Гэтая выстава, што адбылася ў апошнія тыдні мінулага году ў менскай бібліятэцы імя Янкі Купалы, раскрыла нарэшце перад гледачамі той, роўны подзьвігу, пляст беларускае культуры, які завецца калекцыянаваньнем фота. Выстава, нібы своеасаблівы дыптых, складалася зь дзьвюх прыватных калекцыяў — Міхася Раманюка і Ўладзімера Парфянка. Міхась Раманюк зьбіраў старыя здымкі чвэрць стагодзьдзя, інтуітыўна, а часам цалкам усьведамляючы, які бясцэнны скарб трапляе да яго. «Дагарэлая давыд-гарадоцкая царква Сьвятога Юр'я. 6 траўня 1936 году» — першы дакладна датаваны здымак фотамастака Зубея. Дзясяткі гадоў гэты майстар з Давыд-Гарадка нястомна фіксаваў побыт і пачуцьці сваіх землякоў. Некалькі ягоных здымкаў на выставе ўводзяць нас у далёкі сусьвет, па якім можна падарожнічаць бясконца, прынамсі пакуль будзе каму яго берагчы.

Шэдэўр калекцыі Раманюка — здымак фатографа Блажко з Хоцімскага раёну, датаваны 1889 годам. Гэта першы зь вядомых сёньня ўласна мастацкі беларускі здымак. Сьвяточна ўбраныя дзеці ў цёмным пакоі, куды ўрываецца сноп ваконнага сьвятла. Контражур. Не разгледзець дзіцячых вачэй. Таму ймгненьню без малога 110 гадоў...

Уладзімер Парфянок калекцыянуе сучаснае фота. Здавалася мне, што гэта ня зьдзівіць. Але падыходзіш да здымкаў ужо далёкіх 80-х, і цяжка адвесьці вочы ад вачэй тых, хто ўжо ніколі ня будзе гэткім, як быў.

Гэтай выставаю галерэя «NOVA» адзначыла першы год свайго йснаваньня. Першая беларуская галерэя фотамастацтва, дзеля таго, каб зазірнуць наперад, зазірнула ў мінуўшчыну, вярнуўшы першародны сэнс «самага праўдзівага й трывожнага» мастацтва.

Сяргей Харэўскі

БЕЛАРУСКІ КАМПУТАР

# Апэрацыя «Бясьпечны мір»




Я ваяваў за Беларусь. Не аднаго разу гарэў у танку — пад Баранавічамі, пад Горадняй, пад Мазыром. «Калі?» —запытаецеся. — У якіх войсках?» — «Вядома, ж не ў маскоўскіх. У войсках NATO. А калі...»

Ледзь не штовечар забіраюся я ў свой верны ABRAMS (гэта —каму незразумела — танк, ABRAMS MIA-2, шыкоўная баявая машына амэрыканскай вытворчасьці), які ў мяне мае такое гучнае імя — ELIMINATOR (значыць «Зьнішчальнік»), даю газ і на чале тузіна сталёвых крэпасьцяў вырываюся на вольны, родны наш прастор... Вось ужо другі тыдзень, як прабавецца наша каманда «Рэха» да авіябазы пад Баранавічамі. Гэта мае мясьціны. Зь дзяцінства знаёмыя. Можа сто разоў праяжджаў я паблізу гэтага праклятага вайсковага аэрадрому — і на аўтабусе, і на роварах, і на дзядзькавым матацыкле. Калі было мне гадоў адзінаццаць, спрабаваў лічыць самалёты, хвасты якіх бачна было з дарогі на Ляхавічы. Вось жа ня думаў, што вярнуся туды праз столькі гадоў і такім чынам... Шкада, ня памятаю ўжо колькі ж тады налічыў... Але, выбачайце, трасца ім у бок, — насустрач, з-за пагорка выскокваюць адзін за адным бээмпэшкі і Т-80. Шалёны агонь. Амаль палова машынаў з маіх трох узводаў ужо палае... Зараджай! Хутчэй!.. Крыжык прыцэлу даганяе вёрткую сылвэтку танка. Агонь! Агонь!.. Гатоў. Наперад! Яшчэ крыху, за тыя дрэўцы — і мы на месцы. Гідка шыпіць варожая ракета. Убок! Выдатна. Зараджай! Агонь! Трапна — гарыць гад!.. Тр-р-р-ах! Вежа майго танка адскоквае, як накрыўка ад рандэлі, чорны дым дзярэ вочы... Можа пасьпею пераскочыць на «Экскалібур»? Не, запозна, усе машыны загінулі. На экране высьвечваецца сумны надпіс: «Mission Failed»... Па лбе маім сьцякае пот. Ізноў ня шэнцыць мне пад Баранавічамі — што рабіць, паспрабую заўтра. Ды ўвогуле, трэба джойстык набываць — безь яго аніякіх шанцаў на канчатковае вызваленьне Беларусі ў мяне няма...

А далі нам такую шыкоўную магчымасьць пазмагацца за родны край адмысloўцы зь фірмы NOVALOGIC, якія стварылі ARMORED FIST-2 — «Браняны кулак-2», лепшы, на маю думку, гульнявы сымулятар баявога танка на сёньняшні дзень. На гэтым CD можна знайсьці амаль пяцьдзясят баявых місіяў рознага кшталту і з захапляльнымі сцэнарамі, шыкоўную графіку (у вёсках і на фэрмах, праз якія ймчаўся мой «Эліміnатар», мне трапляліся нават каровы на пашы), а самае галоўнае — магчымасьць амаль «насамрэч» адчуць сябе ў кабіне баявой машыны, магутнай і паслухмянай. Усё, што адбываецца з вамі і навокал, адбываецца тут і зараз. Аніякага адчуваньня запіленай кружэлкі, калі адна й тая ж сытуацыя ў той жа самай карціцы паўтараецца бясконца, як у кашмарным сьне. Амаль поўная свабода — рабіце, што хочаце. Можаце, калі закарціць, зьнішчыць сваю ўласную базу, пастраляць сваю каманду, толькі варта не забывацца, што вораг, за якога гуляе кампутар, таксама мае свабоду дзеяньняў і ў шапку ня сьпіць. Пры жаданьні ды наяўнасьці мадэма можна гуляць па сетцы і нават у Інтэрнэце. Праўда, ня кожны карыстальнік PC здолее пагуляць у сваю асалоду. Цацка патрабуе, апроч наяўнасьці CD-ROM-а, яшчэ моцнага Pentium-а (ня менш за 120) і вялікай апэратыўнай памяці — 16, а лепш нават 32 Mb.

Беларуская апэрацыя «Бясьпечны мір» складаецца з васьмі місіяў, якія маюць гучныя шматзначныя назвы: «Даліна сьмерці», «Бліцкрыг», «Кароль на гары»... Сцэнар у скарочаным выглядзе прыкладна такі: «Дзьве канкурэнцыйныя фракцыі намагаюцца ўзяць пад свой кантроль Беларусь. Адбываюцца шматлікія парушэньні абодвума бакамі польскай мяжы. Каманда «Рэха» ўдзельнічае ў захадах прымусіць абодва бакі падпісаць пагадненьне аб спыненьні агню». Што гэта за дзьве «фракцыі» — не тлумачыцца, адна зь іх умоўна названая «чырвоныя», другая — «шэрыя», але наша фантазія бязь цяжкасьці дадае гэтай умоўнасьці больш жыцьця... «Шэрыя» лаяльна ставяцца да ААН і падтрымліваюць пагадненьне аб бясьпечным праходзе сілаў NATO ў Беларусь. Такім чынам, «не страляйце ў шэрыя атрады». Першая база міратворчых сілаў усталёўваецца пад Горадняй, яе задача —ахоўваць рух войскаў ад нападаў «чырвоных». Затым — слаўтая авіябаза пад Баранавічамі. «Аб'ект моцна абаронены як ад паветраных, гэтак і ад наземных атак». Далей «чырвоныя» працягваюць умацоўваць свае пазыцыі на ўсход ад сталіцы краіны Менску. Наступны сюжэцік падаўся мне асабліва цікавым: «Чырвоныя» апракінулі нацiск міратворчых сілаў на паўднёва-усходнім накірунку Беларусі. Сілы NATO перайшлі да абароны, у выніку — «чырвоныя» маюць ініцыятыву. Вораг, здаецца, атрымлівае моцнае пасіленьне, значна вышэйшае за даступныя яму патэнцыйныя магчымасьці. Калі ўзьнімаецца пытаньне адносна павялічэньня сілаў «чырвоных», расейскія афіцыйныя асобы сьцьвярджаюць, што ня маюць ніякай інфармацыі аб крыніцах іх рэзкага ўзмацненьня». Зьвярніце ўвагу на апошнія радкі. Дарэчы, пад час югаслаўскага канфлікту расейскія афіцыйныя асобы таксама сьцьвярджалі, што ня ведаюць, адкуль у сэрбаў, нягледзячы на эмбарга, бярэцца столькі зброі й рэсурсаў. А ёсьць інфармацыя, што менавіта Беларусь і была адной з тых «крыніцаў», праз якія «славянскія браты» атрымлівалі пасіленьні, што давалі ім магчымасьць гэтак доўга рэзаць адзін аднаго на балканскай паўвысьпе... Урэшце войскі NATO спынілі наступ «чырвоных», і сутычкі паміж «чырвонымі» і «шэрымі» істотна аслаблі. Камандзе «Рэха» загадваецца зьнішчыць базу пад Магілёвам, якая і ёсьць апорны цэнтар «чырвоных»(!).

На жаль, сцэнарысты NOVALOGIC не чакаюць ад нас, беларусаў, «хэпі-энду» і, напэўна, натхнёныя югаслаўскім варыянтам, у фінале прагназуюць у Беларусі поўны хаос, калі ўжо абедзьве фракцыі бачаць у ААН пагрозу, а каманда «Рэха» адчайна абараняе апорны пункт ААН, размешчаны на ўсход ад Менску.

Ці варта падрабязна камэнтаваць увесь сцэнар? Гэта ўсё ж гульня, папулярная ў вялікім прыгожым сьвеце. Для мяне асабіста няма лішніх пытаньняў — Беларусь — у NATO, а некаторым, вядома, — за краты. Таму я йзноў і зноў вяртаюся з гэтае «віртуальнай» Беларусі ў тую, таксама віртуальную, але ў якой я магу з дапамогаю ўласнага ELIMINATORа выказаць сваё праўдзівае стаўленьне да тых — на другім баку лініі фронту.

Вацлаў Арэшка

КНІГА

# Беларускі дудар

*Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч. Жыцьцё і творчасьць. Аўтар-складальнік Уладзімер Содаль. — Менск: Народная Асьвета, 1997*




Што мы выносілі са школы пра Дуніна-Марцінкевіча? Твар немаладога грузнага чалавека, нешта пра «пінскую шляхту», пра тэатральны гурток. Што ведаюць цяперашнія студэнты? Літаральна днямі ў мяне на лекцыі адгадвалі — у якім стагодзьдзі жыў Міцкевіч, а ў якім Дунін-Марцінкевіч і хто зь іх напісаў «Шляхціца Завальню» — і гэта былі ня горшыя... Невуцтва —яно заўжды невуцтва, хоць часам яго бывае больш ці менш —сёньня, на жаль, яно на вачах вырастае ў свайго роду «стандарт». Але сапраўды — ці многа можна даведацца з падручніка альбо хрэстаматыі не пра канву жыцьця нават славутых нашых пісьменнікаў — а пра вобраз, рэчаіснасьць, эпоху, навакольле?..

Альбом, падрыхтаваны Ўладзімерам Содалем, дапамагае «апрануць» лічбы і радкі падручніка ў шаты й фарбы жыцьця. Дзясяткі фотаздымкаў, рэпрадукцыяў, факсыміле, шматлікія цытаты робяць такое быццам бы недалёкае, але цяпер ужо фантастычна-загадкавае дзевятнаццатае стагодзьдзе больш зразумелым, а лёс «беларускага дудара» — лёсам праўдзівага чалавека. Складальнік пабудаваў альбом на прынцыпе храналагічна-геаграфічных лёкусаў-кропак, дзе пульсавала жыцьцё і творчасьць паэта. Гэта — «Зямля бацькоў» —Панюшкавічы, «Пецярбург, Вільня», «Менск», вядома, «Люцінка». Асобна вылучаны разьдзел пра марцінкевічаў тэатар. У канцы дададзеца «Кароткі жыцьцяпіс».

Не хапае, бадай, густоўнасьці мастацкаму афармленьню кнігі, ілюстрацыям — якасьці, а часам і арыгінальнасьці. Часам надакучвае і, гэтак мовячы, «вульгарнае адраджэнства» агульнага аўтарскага тону — цалкам прымальнае ў сярэдзіне васьмідзясятых і крыху архаічнае ў канцы дзевяностых. Замест пэўнай узьнёсласьці я б параіў дадаць больш фактаў, рэаліяў тагачаснага побыту, традыцыяў ды й грамадзкага жыцьця, паралеляў да сытуацыі на сярэднеэўрапейскіх абшарах. Жыцьцяпіс, на маю думку, мог быць больш падрабязным, нягледзячы на «белыя плямы» ў біяграфіі пісьменьніка. Прыдалася б і бібліяграфія прысьвечаных Марцінкевічу працаў.

Вацлаў Арэшка

СЭМІНАР

# Годны падарунак

19 сьнежня 1997 году ў Менску адбыўся сэмінар «Карныя органы Беларусі: гісторыя й сучаснасьць (да 80-х угодкаў ВЧК)». Арганізатарамі імпрэзы былі Беларускі Хельсынскі Камітэт і Беларуская Асацыяцыя Ахвяраў Палітычных Рэпрэсіяў. Такім чынам грамадзкія інстытуцыі Беларусі адзначылі ўгодкі рэпрэсіўнай машыны, якая столькі зрабіла для зьнішчэньня гэтага самага грамадзтва.

Віталь Скалабан прапанаваў разглядаць функцыянаваньне рэпрэсіўнай сыстэмы з самых першых дзён бальшавіцкае ўлады ў Беларусі і ў сваім дакладзе прааналізаваў удзел ва Ўсебеларускім зьездзе 1917 году як падставу для рэпрэсіяў. Тацяна Процька паказала непасрэдную ролю ВЧК ва ўсталяваньні савецкай улады ў Беларусі. Ігар Кузьняцоў, чый зборнік дакумэнтаў падрыхтаваны ў Архіве Найноўшае Гісторыі, свой даклад прысьвяціў тэхналёгіі функцыянаваньня карных органаў у 1920-50-я гады. Тэма адной з дыскусіяў, якія разгарэліся на сэмінары — колькасьць ахвяраў. Пакуль архівы КГБ закрытыя, пра гэта можна толькі меркаваць. Ігар Кузьняцоў таксама заявіў, што падае ў суд на Адама Залескага, чыю публіцыстыку ўлады актыўна пачалі выкарыстоўваць для апраўданьня камуністычнага тэрору. Адам Залескі дазволіў сабе ня проста некарэктныя выказваньні, а нават і абразу сваіх апанэнтаў.

Што кінулася ў вочы, дык гэта раскол у асяродзьдзі былых рэпрэсаваных. Розныя групы ў Беларускай Асацыяцыі Ахвяраў Палітычных Рэпрэсіяў па-рознаму бачаць тактыку дзеяньня сваёй арганізацыі ў адстойваньні правоў ахвяраў таталітарнага рэжыму. Зрэшты, сытуацыя ў Беларусі не ўнікальная — грамадзкі рух былых рэпрэсаваных расколаты практычна ва ўсіх постсавецкіх краінах.

На менскім сэмінары адбылася прэзэнтацыя кнігі Аляксандра Лукашука «За кіпучай чэкісцкай работай: З жыцьця катаў». Першыя 50 асобнікаў кнігі даставілі на сэмінар адразу з друкарні. Сам аўтар ня змог прыехаць у Менск, але даслаў свой прывітальны тэкст, дзе адзначыў, што «ўчорашніх катаў ушаноўвае той, каму патрэбныя каты сёньня». Сэмінар і кніга сталіся годным падарункам у дзень 80-х угодкаў ВЧК.

Сэмінар «Карныя органы Беларусі» быў першай з акцыяў вялікай гістарычнай антытаталітарнай праграмы, якую зьбіраюцца ажыцьцяўляць грамадзкія арганізацыі Беларусі. У лютым 1998 году Беларускі Хельсынскі Камітэт мае намер правесьці канфэрэнцыю «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў ХХ стагодзьдзі».

Алег Дзярновіч

# Эўрапейская Сацыяльная

## Сацыяльная спадчына Эўропы

*Эўрапейская сацыяльная хартыя, падпісаная ў Турыне 18 кастрычніка 1961 году, якая ўступіла ў сілу 26 лютага 1965 году, была задуманая як аналяг Эўрапейскай канвэнцыі правоў чалавека ў сацыяльнай сфэры. Мэта Хартыі — забясьпечыць эфэктыўнае выкананьне 19 асноўных сацыяльных правоў эўрапейцаў.*

*Сярод гэтых асноўных правоў — права на працу й на належныя яе ўмовы, права на справядлівае ўзнагароджаньне, права мужчынаў і жанчынаў на роўную аплату працы, права на аб'яднаньне ў арганізацыі й права на заключэньне калектыўных дамоваў (уключна права на страйк), права на сацыяльнае забесьпячэньне й г.д.*

*Дзеля выкананьня сацыяльных правоў Хартыя й Рада Эўропы заахвочваюць стварэньне арганізацыяў працоўных і працадаўцаў, а таксама заключэньне працоўных дамоваў — утварэньне балянсу паміж інтарэсамі працоўных і працадаўцаў. Хартыя стварыла мэханізм кантролю за выкананьнем сацыяльных правоў. Адную з галоўных роляў у гэтым кантрольным мэханізме выконвае Камітэт незалежных экспэртаў.*

*Цяпер зразумела, чаму беларускі ўрад сёньня ня ў стане падпісаць Эўрапейскую сацыяльную хартыю, чаму Беларусь ня ў Радзе Эўропы. Бо выконваць Хартыю — гэта значыць заахвочваць узьнікненьне незалежных прафсаюзаў і пагадзіцца на незалежны кантроль збоку. Недалучэньне да Эўрапейскай сацыяльнай хартыі — гэта ўскосная юрыдычная фіксацыя парушэньня сацыяльных правоў у Беларусі.*

*Агульнакультурная значнасьць Хартыі ў тым, што яна замацавала за сацыяльнымі правамі статус эўрапейскай спадчыны. Прыналежнасьць да эўрапейскай цывілізацыі прадугледжвае таксама выкананьне сацыяльных правоў.*

**Алег Дзярновіч**

Урады, што падпісалі гэтую Хартыю, якія зьяўляюцца чальцамі Рады Эўропы,

мяркуючы, што мэтаю Рады Эўропы зьяўляецца дасягненьне яшчэ больш цеснага адзінства паміж еймымі чальцамі дзеля абароны і ажыцьцяўленьня ідэалаў і прынцыпаў, якія ёсьць іхнай агульнай спадчынай, і садзеяньне іхнаму эканамічнаму й сацыяльнаму прагрэсу, у прыватнасьці, шляхам забесьпячэньня й далейшага разьвіцьця правоў чалавека й асноўных свабодаў;

мяркуючы, што ў Эўрапейскай канвэнцыі аб абароне правоў чалавека й асноўных свабодаў, падпісанай у Рыме 4 лістапада 1950 году, і ў Пратаколе да яе, падпісаным ў Парыжы 20 сакавіка 1952 году, дзяржавы-чальцы Рады Эўропы дамовіліся забясьпечыць сваім народам грамадзянскія і палітычныя правы й свабоды, названыя ў гэтых дакумэнтах;

мяркуючы, што ажыцьцяўленьне сацыяльных правоў мусіць забясьпечвацца без дыскрымінацыі паводле прыкмету расы, колеру скуры, плоці, веравызнаньня, палітычных перакананьняў, нацыянальнай прыналежнасьці альбо сацыяльнага паходжаньня;

напоўненыя рашучасьцю сумесна рабіць любыя захады дзеля падвышэньня ўзроўню жыцьця і ўздыму дастатку ўсіх пластоў насельніцтва, як гарадзкога, так і сельскага, праз дапамогу адпаведных установаў і дзеяньняў,

дамовіліся пра наступнае:

**Частка I**

Дамоўныя бакі бяруць за мэту сваёй палітыкі, якую яны будуць ажыцьцяўляць праз дапамогу ўсіх належных сродкаў як нацыянальнага, так і міжнароднага характару, стварэньне ўмоваў, якія забясьпечваюць эфэктыўнае ажыцьцяўленьне наступных правоў і прынцыпаў:

1. Кожны чалавек мусіць мець магчымасьць зарабляць сабе на жыцьцё праз вольна абраную ім працу.

2. Усе працоўныя маюць права на справядлівыя ўмовы працы.

3. Усе працоўныя маюць права на ўмовы працы, якія адпавядаюць патрабаваньням бясьпекі й гігіены.

4. Усе працоўныя маюць права на справядлівую плату, дастатковую для падтрыманьня нармальнага ўзроўню жыцьця іх самых і іхных сем'яў.

5. Усе працоўныя й працадаўцы маюць права на вольнае аб'яднаньне ў нацыянальныя або міжнародныя арганізацыі дзеля абароны сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў.

6. Усе працоўныя й працадаўцы маюць права заключаць калектыўныя дамовы.

7. Дзеці й падлеткі маюць права на адмысловую абарону ад фізычных і маральных стратаў, якія яны могуць зазнаць.

8. Жанчыны, якія працуюць пад час цяжарнасьці, і іншыя жанчыны, якія працуюць, маюць права, калі гэта неабходна, на спэцыяльную абарону іх працы.

9. Кожны чалавек мае права на адпаведныя ўмовы для прафэсійнай арыентацыі дзеля дапамогі яму ў выбары прафэсіі, якая адпавядала б ягоным асабістым здольнасьцям і інтарэсам.

10. Кожны чалавек мае права на адпаведныя ўмовы для прафэсійнай падрыхтоўкі.

11. Кожны чалавек мае права на карыстаньне ўсімі сродкамі, якія садзейнічаюць дасягненьню ім найлепшага магчымага для яго стану здароўя.

12. Усе працоўныя й іхнія ўтрыманцы маюць права на сацыяльнае забесьпячэньне.

13. Кожны чалавек, які ня мае дастатковых сродкаў на пражыцьцё, мае права на сацыяльную і мэдыцынскую дапамогу.

14. Кожны чалавек мае права на атрыманьне паслугаў з боку сацыяльных службаў.

15. Працоўныя-інваліды маюць права на прафэсійную падрыхтоўку, прафэсійную і сацыяльную рэадаптацыю, незалежна ад прычыны й характару інваліднасьці.

16. Сям'я, якая зьяўляецца асноўнай ячэйкай грамадзтва, мае права на адпаведную сацыяльную, прававую і эканамічную абарону дзеля забесьпячэньня еймага ўсебаковага разьвіцьця.

17. Маці й дзеці, незалежна ад іхняга сямейнага становішча й сямейных сувязяў, маюць права на адпаведную сацыяльную й эканамічную абарону.

18. Грамадзяне любога з Дамоўных бакоў маюць права займацца на тэрыторыі любога іншага Дамоўнага боку якой заўгодна дзейнасьцю, якая дае прыбытак, на роўных правах з грамадзянамі гэтага боку за выключэньнем абмежаваньняў, якія выкліканы важкімі эканамічнымі або сацыяльнымі прычынамі.

19. Працоўныя-мігранты, што зьяўляюцца грамадзянамі аднаго з Дамоўных бакоў, а таксама іхнія сем'і маюць права на абарону і дапамогу любога іншага Дамоўнага боку.

**Частка II**

Дамоўныя бакі абяцаюць, як гэта прадугледжана ў Частцы III, лічыць сябе зьвязанымі абавязкамі, якія выкладзеныя ў наступных артыкулах і пунктах.

Артыкул 1

Права на працу

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на працу Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Прызнаць за адну з асноўных мэтаў і абавязкаў дасягненьне й падтрымку як мага болей высокага й стабільнага ўзроўню занятасьці, маючы за мэту дасягненьне поўнай занятасьці;

2. Забясьпечыць эфэктыўную абарону права працоўных зарабляць сабе на жыцьцё праз вольна абраную імі працу;

3. Стварыць альбо падтрымліваць для ўсіх працоўных бясплатныя службы па працаўладкаваньню;

4. Забясьпечыць альбо садзейнічаць адпаведнай прафэсійнай арыентацыі, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы.

Артыкул 2

Права на справядлівыя ўмовы працы

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на справядлівыя ўмовы працы Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Вызначыць разумную працягласьць працоўнага дня й працоўнага тыдня й паступова скарачаць працягласьць працоўнага тыдня ў такой ступені, як гэтага дазваляе рост прадуктыўнасьці працы й іншыя, зьвязаныя з гэтым фактары;

2. Вызначыць аплочаныя сьвяточныя дні;

3. Забясьпечыць як найменш двухтыднёвы штогодны аплочаны адпачынак;

4. Забясьпечыць працоўным, якія занятыя ў небясьпечнай альбо шкоднай для здароўя вытворчасьці, альбо скарачэньне працоўнага дня, альбо даваньне дадатковага аплочваемага адпачынку;

5. Забясьпечыць штотыднёвы адпачынак, які па магчымасьці мусіць супадаць з днём тыдня, які традыцыйна альбо па звычаю адпаведнай краіны ці рэгіёну прызнаецца за дзень адпачынку.

Артыкул 3

Права на ўмовы працы, якія адпавядаюць патрабаваньням бясьпекі й гігіены

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на ўмовы працы, якія адпавядаюць патрабаваньням бясьпекі й гігіены, Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Апублікаваць правілы бясьпекі й гігіены працы;

2. Зрабіць захады па кантролю за прымяненьнем такіх правілаў;

3. Па меры неабходнасьці кансультавацца з арганізацыямі працадаўцаў і працоўных адносна захадаў, накіраваных на паляпшэньне бясьпекі й гігіены працы.

Артыкул 4

Права на справядлівае ўзнагароджаньне

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на справядлівае ўзнагароджаньне Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Прызнаць права працоўных на ўзнагароджаньне, якое дазволіць забясьпечыць ім і іхным сем'ям належны ўзровень жыцьця;

2. Прызнаць права працоўных на павышаную аплату за працу звыш звычайнага тэрміну, за выключэньнем некаторых асобых выпадкаў;

3. Прызнаць права працоўных мужчынаў і жанчын на роўную аплату за роўную працу;

4. Прызнаць за ўсімі працоўнымі права на атрыманьне ў належныя тэрміны паведамленьня пра спыненьне працы па найму;

5. Дазваляць вылічэньні з заработнай платы толькі з выкананьнем умоваў і ў тых памерах, якія прадугледжаныя нацыянальным заканадаўствам альбо правіламі, што ўстаноўленыя ў калектыўных дамовах ці рашэньнях арбітражу.

Ажыцьцяўленьне гэтых правоў забясьпечваецца праз калектыўныя дамовы, якія свабодна заключаюцца, або праз створаны ў адпаведнасьці з законам мэханізм рэгуляваньня заработнай платы або іншых сродкаў, якія адпавядаюць нацыянальным умовам.

Артыкул 5

Права на аб'яднаньне

Дзеля забесьпячэньня або заахвочваньня свабоды працоўных і працадаўцаў у стварэньні мясцовых, нацыянальных або міжнародных арганізацыяў для абароны сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў і дзеля ўступаньня ў гэтыя арганізацыі, Дамоўныя бакі абавязваюцца забясьпечыць, каб нацыянальнае заканадаўства ня ўтрымлівала нормы, якія абмяжоўваюць гэтую свабоду, або каб такія нормы ня ўжываліся такім чынам, які б абмяжоўваў гэтую свабоду. Ступень, у якой гаранты, прадугледжаныя ў гэтым артыкуле, тычацца паліцыі, вызначаецца нацыянальнымі законамі або нарматыўнымі актамі. Прынцып, які рэгулюе дзеяньне гэтых гарантыяў у дачыненьні да вайскоўцаў, і ступень, у якой яны выкарыстоўваюць у дачыненьні да асобаў гэтай катэгорыі, таксама вызначаецца нацыянальнымі законамі альбо нарматыўнымі актамі.

Артыкул 6

Права на заключэньне калектыўных дамоваў

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на заключэньне калектыўных дамоваў Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Садзейнічаць правядзеньню сумесных кансультацыяў паміж працоўнымі і працадаўцамі;

2. Садзейнічаць, калі гэта неабходна і мэтазгодна, стварэньню мэханізмаў для правядзеньня дабраахвотных перамоваў паміж працадаўцамі або арганізацыямі працадаўцаў, з аднаго боку, і арганізацыямі працоўных — зь іншага, з мэтай рэгуляваньня калектыўнымі дамовамі умоваў занятасьці;

3. Садзейнічаць стварэньню й выкарыстаньню адпаведнага мэханізму прымірэньня і дабраахвотнага арбітражу дзеля ўрэгуляваньня працоўных спрэчак;

і прызнаюць:

4. Права працоўных і працадаўцаў на калектыўныя дзеяньні ў выпадках канфліктаў інтарэсаў, уключна права на страйк пры ўмове выконваньня абавязкаў, якія могуць вынікаць з заключаных раней калектыўных дамоваў.

Артыкул 7

Права дзяцей і падлеткаў на абарону

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права дзяцей і падлеткаў на абарону Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Вызначыць, што мінімальны ўзрост прыёма на працу складае 15 гадоў, за выключэньнем выпадкаў, калі дзеці занятыя на лёгкіх работах пэўнага віду, якія ня могуць нанесьці шкоду іхняму здароўю або адукацыі;

2. Вызначыць больш высокі мінімальны ўзрост для прыёма на працу ў дачыненьні да пэўных відаў заняткаў, якія лічацца шкоднымі й небясьпечнымі для здароўя;

3. Забараніць, каб асобы, на якіх яшчэ распаўсюджваецца палажэньне пра абавязковае навучаньне, выкарыстоўваліся для такіх работаў, якія пазбаўляюць іх магчымасьці скарыстаць у поўным аб'ёме гэтае навучаньне;

4. Абмежаваць працягласьць працоўнага дня для асобаў ва ўзросьце да 16 гадоў у адпаведнасьці з патрэбамі іхняга разьвіцьця і, у прыватнасьці, зь іх патрэбамі ў прафэсійнай падрыхтоўцы;

5. Прызнаць за маладымі працоўнымі й вучнямі права на справядлівую аплату працы або на адпаведную дапамогу;

6. Вызначыць, каб час, выдаткаваны падлеткамі на прафэсійную падрыхтоўку пад час звычайнага працоўнага дня са згоды працадаўцы, разглядаўся як частка працоўнага дня;

7. Вызначыць для працуючых асобаў ва ўзросьце да 18 гадоў як найменш трохтыднёвы штогодны аплочаны адпачынак;

8. Забараніць выкарыстаньне працоўных асобаў ва ўзросьце да 18 гадоў на начных работах, за выключэньнем некаторых відаў работаў, прадугледжаных у нацыянальных законах або нарматыўных актах;

9. Устанавіць, што асобы ва ўзросьце да 18 гадоў, занятыя на некаторых відах работаў, прадугледжаных нацыянальнымі законамі або нарматыўнымі актамі, мусяць праходзіць рэгулярны мэдыцынскі агляд;

10. Забясьпечыць спэцыяльную абарону ад небясьпекі фізычных ці маральных стратаў, якім падвяргаюцца дзеці і падлеткі, і, у прыватнасьці, ад небясьпекі, якая проста ці ўскосна зьвязаная зь іхняй працай.

Артыкул 8

Права жанчын, якія працуюць, на абарону

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на абарону жанчын, якія працуюць, Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Даваць жанчынам да- і пасьляродавы водпуск агульнай працягласьцю ня менш за 12 тыдняў альбо ў выглядзе аплочванага водпуску, альбо праз выплату адпаведных дапамо-

*Публікацыя зробленая паводле замовы Рады Эўропы.*

# Хартыя



гаў па сацыяльным забесьпячэньні ці з грамадзкіх фондаў;

2. Лічыць незаконным, калі працадаўца паведамляе якой-небудзь жанчыне пра звальненьне пад час яе адсутнасьці ў сувязі з водпускам па цяжарнасьці, альбо паведамляе ёй пра звальненьне ў такі час, калі тэрмін паведамленьня пра звальненьне сканчаецца ў пэрыяд гэтай адсутнасьці;

3. Забясьпечыць, каб маці, якія кормяць сваіх немаўлятаў, мелі для гэтага дастатковыя перапынкі ў працы;

4. а) увесьці заканадаўчае рэгуляваньне выкарыстаньня жаночай працы на начных работах у прамысловасьці;

b)забараніць любое выкарыстаньне жаночай працы на падземных горнарудных работах і адпаведна на ўсіх іншых работах, якія не падыходзяць ім з прычыны небясьпекі, шкоднасьці для здароўя або цяжкасьці.

Артыкул 9

Права на прафэсійную арыентацыю

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на прафэсійную арыентацыю Дамоўныя бакі абавязваюцца даваць альбо заахвочваць, па меры неабходнасьці, аказаньне паслугаў, якія дапамогуць усім асобам, у тым ліку й інвалідам, вырашаць праблемы, зьвязаныя з выбарам прафэсіі, альбо з павышэньнем прафэсійнага ўзроўню з улікам індывідуальных асаблівасьцяў і сытуацыі на рынку працы. Гэтая дапамога мусіць давацца бясплатна як маладым людзям, уключна з асобамі школьнага ўзросту, так і дарослым.

Артыкул 10

Права на прафэсійную падрыхтоўку

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на прафэсійную падрыхтоўку Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Забясьпечыць альбо садзейнічаць, па меры неабходнасьці й у кансультацыі з арганізацыямі працадаўцаў і працоўных, тэхнічнай і прафэсійнай падрыхтоўцы ўсіх асобаў, уключна з інвалідамі, а таксама даваць сродкі дзеля забесьпячэньня доступа да вышэйшай тэхнічнай і ўнівэрсытэцкай адукацыі выключна на падставе крытэра асабістых здольнасьцяў;

2. Стварыць або садзейнічаць разьвіцьцю сыстэмы вучнёўства і іншых сыстэмаў падрыхтоўкі юнакоў і дзяўчат па разнастайных спэцыяльнасьцях;

3. Забясьпечыць або разьвіваць па меры неабходнасьці:

а) адпаведныя і лёгка даступныя сродкі для падрыхтоўкі дарослых працоўных;

b) спэцыяльныя сродкі для прафэсійнай перападрыхтоўкі дарослых працоўных, якіх вымагаюць тэхнічны прагрэс і новыя тэндэнцыі ў сфэры занятасьці;

4. Заахвочваць максымальнае выкарыстаньне такіх сродкаў, як:

а) памяншэньне альбо скасаваньне любых адлічэньняў і збораў;

b) даваньне ў адпаведных выпадках фінансавай дапамогі;

c) уключэньне ў нармальныя працоўныя гадзіны часу, выдаткаванага працоўнымі на дадатковую прафэсійную падрыхтоўку, якую яны атрымліваюць паводле просьбы свайго працадаўцы пад час працоўнага дня;

d) гарантаваньне празь неабходны кантроль, які ажыцьцяўляецца ў кансультацыі з арганізацыямі працадаўцаў і працоўных, эфэктыўнай сыстэмы вучнёўства й любой іншай сыстэмы падрыхтоўкі маладых працоўных, а ў агульным пляне —адпаведнай абароны маладых працоўных.

Артыкул 11

Права на абарону здароўя

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага права на абарону здароўя Дамоўныя бакі абавязваюцца прыняць — непасрэдна, альбо ў супрацоўніцтве зь дзяржаўнымі або прыватнымі арганізацыямі, адпаведныя захады, накіраваныя, у прыватнасьці, на:

1. Ліквідацыю, па магчымасьці, прычынаў пагаршэньня здароўя;

2. Даваньне паслугаў кансультацыйнага і адукацыйнага характару, накіраваных на ўмацаваньня здароўя і разьвіцьцё пачуцьця асабістай адказнасьці за сваё здароўе;

3. Прадухіленьне, па магчымасьці, эпідэмічных, эндэмічных і іншых захворваньняў.

Артыкул 12

Права на сацыяльнае забесьпячэньне

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на сацыяльнае забесьпячэньне Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Стварыць альбо падтрымліваць сыстэму сацыяльнага забесьпячэньня;

2. Падтрымліваць такую сыстэму сацыяльнага забесьпячэньня на дастаткова задавальняючым узроўні, найменш роўным таму, які патрабуецца для ратыфікацыі Канвэнцыі № 102 Міжнароднай арганізацыяй працы аб мінімальных нормах сацыяльнага забесьпячэньня;

3. Дамагацца паступовага вывядзеньня сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньня на больш высокі ўзровень;

4. Рабіць захады праз заключэньне адпаведных двухбаковых і шматбаковых пагадненьняў або іншымі сродкамі і праз захаваньне ўмоваў, прадугледжаных ў гэтых пагадненьнях, з тым каб забясьпечыць:

а) аднолькавы рэжым для сваіх грамадзянаў і грамадзянаў іншых краінаў Дамоўных бакоў у тым, што тычыцца правоў на сацыяльнае забесьпячэньне, уключаючы захаваньне перавагаў, якія прадастаўленыя заканадаўствам па сацыяльным забесьпячэньні, незалежна ад любога перамяшчэньня абараняемай асобы паміж тэрыторыямі Дамоўных бакоў;

b) даваньне, захаваньне й аднаўленьне правоў на сацыяльнае забесьпячэньне такімі сродкамі, як сумаваньне пэрыядаў страхаваньня альбо працоўнага стажа, ажыцьцяўляемых у адпаведнасьці з заканадаўствам кожнага з Дамоўных бакоў.

Артыкул 13

Права на сацыяльную і мэдыцынскую дапамогу

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на сацыяльную і мэдыцынскую дапамогу Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Забясьпечыць, каб кожнай асобе, якая ня мае дастатковых сродкаў на пражыцьцё й якая ня можа ні здабыць іх праз свае ўласныя намаганьні, ні атрымаць іх зь іншых крыніцаў, у прыватнасьці, праз выплаты ў межах сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньня, была б прадстаўленая адпаведная дапамога, а ў выпадку хваробы — неабходны ў яе стане догляд;

2. Клапаціцца пра тое, каб асобы, якія карыстаюцца падобнай аднаразовай дапамогай, не прыціскаліся з гэтай прычыны ў сваіх палітычных і сацыяльных правах;

3. Прадугледзець, каб кожны чалавек праз пасрэдніцтва адпаведных дзяржаўных альбо прыватных службаў мог атрымаць любую кансультацыйную й любую індывідуальную дапамогу, якія могуць быць патрэбнымі, каб перадухіліць, ліквідаваць або палегчыць стан асабістай або сямейнай нястачы;

4. Выкарыстоўваць палажэньні, пазначаныя ў пунктах 1, 2 і 3 гэтага артыкулу, на роўных са сваімі грамадзянамі ўмовах у адносінах выхадцаў з краінаў іншых Дамоўных бакоў, якія законна знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, у адпаведнасьці са сваімі абавязкамі паводле Эўрапейскай Канвэнцыі аб сацыяльнай і мэдыцынскай дапамозе, падпісанай у Парыжы 11 сьнежня 1953 году.

Артыкул 14

Права на атрыманьне паслугаў ад сацыяльных службаў

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права на атрыманьне паслугаў ад сацыяльных службаў Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Садзейнічаць дзейнасьці альбо стварэньню службаў, якія, выкарыстоўваючы ўласьцівыя такім службам мэтады, спрыялі б дабрабыту й разьвіцьцю як асобы, так і групаў у грамадзтве, а таксама іхняй адаптацыі ў сацыяльным асяродзьдзі;

2. Заахвочваць удзел асобаў, а таксама дабраахвотных альбо іншых арганізацыяў, ў стварэньні і дзейнасьці такіх службаў.

Артыкул 15

Права працоўных-інвалідаў і разумова непрацаздольных на прафэсійную падрыхтоўку, прафэсійную й сацыяльную рэадаптацыю

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права працоўных-інвалідаў і разумова непрацаздольных асобаў на прафэсійную падрыхтоўку, прафэсійную й сацыяльную рэадаптацыю, Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Рабіць належныя захады дзеля прадастаўленьня сродкаў прафэсійнай падрыхтоўкі, уключна, калі гэтае неабходна, доступ у спэцыялізаваныя дзяржаўныя альбо прыватныя ўстановы;

2. Рабіць належныя захады па працаўладкаваньню інвалідаў, у прыватнасьці, праз дапамогу спэцыялізаваных службаў па працаўладкаваньню, праз выдзяленьне працоўных месцаў з ашчаднымі ўмовамі працы й праз захады па заахвочваньню працадаўцаў прымаць інвалідаў на працу.

Артыкул 16

Права сям'і на сацыяльную, прававую і эканамічную абарону

Дзеля забесьпячэньня неабходных умоваў для ўсебаковага разьвіцьця сям'і як асноўнай ячэйкі грамадства Дамоўныя бакі абавязваюцца садзейнічаць эканамічнай, прававой і сацыяльнай абароне сям'і, у прыватнасьці праз сацыяльныя й сямейныя дапамогі, падатковыя ільготы, заахвочваньні на будаўніцтва жытла, прыстасаванага да сямейных патрэбаў, дапамогі маладым сем'ям і іншых адпаведных захадаў.

Артыкул 17

Права маці й дзяцей на сацыяльную і эканамічную абарону

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права маці й дзяцей на сацыяльную й эканамічную абарону Дамоўныя бакі зробяць дзеля гэтага ўсе адпаведныя й неабходныя захады, уключна стварэньне й падтрымку дзейнасьці адпаведных інстытутаў і службаў.

Артыкул 18

Права займацца дзейнасьцю, якая дае прыбытак, на тэрыторыі іншых Дамоўных бакоў

Дзеля забесьпячэньня эфэктыўнага ажыцьцяўленьня права займацца дзейнасьцю, якая дае прыбытак, на тэрыторыі любога іншага Дамоўнага боку, Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Прымяняць дзейнае заканадаўства ў лібэральным духу;

2. Спрасьціць наяўныя фармальнасьці й скараціць альбо скасаваць гербавыя і іншыя зборы з замежных працоўных альбо іхніх працадаўцаў;

3. Зьмякчыць на індывідуальнай альбо калектыўнай аснове заканадаўства, якое рэгулюе найманьне замежных працоўных, і прызнаюць:

4. Права сваіх грамадзянаў выяжджаць са сваёй краіны дзеля таго, каб займацца дзейнасьцю, якая прыносіць прыбытак, на тэрыторыі іншых Дамоўных бакоў.

Артыкул 19

Права працоўных-мігрантаў і іхніх сем'яў на абарону й дапамогу

Дзеля эфэктыўнага забесьпячэньня права працоўных-мігрантаў і іхніх сем'яў на абарону й дапамогу на тэрыторыі любога іншага Дамоўнага боку Дамоўныя бакі абавязваюцца:

1. Садзейнічаць стварэньню альбо падтрыманьню дзейнасьці службаў, прызначаных аказваць адпаведную й бясплатную дапамогу такім працоўным і, у прыватнасьці, прадастаўляць ім дакладную інфармацыю і рабіць усе неабходныя захады, наколькі гэта адпавядае нацыянальнаму заканадаўству, супраць хлусьлівай прапаганды, якая тычыцца эміграцыі і іміграцыі;

2. Рабіць у межах сваёй юрысдыкцыі адпаведныя захады дзеля палягчэньня выезду, праезду й прыйманьня такіх працоўных сем'яў і забясьпечваць іх пад час праезду, ў межах сваёй юрысдыкцыі, аказаньнем неабходных санітарных і мэдыцынскіх паслугаў, а таксама добрых гігіенічных умоваў;

3. Садзейнічаць, калі гэта бачыцца мэтазгодным, супрацоўніцтву паміж дзяржаўнымі й прыватнымі сацыяльнымі службамі краінаў эміграцыі й іміграцыі;

4. Гарантаваць працоўным-мігрантам, якія законна знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, ў той ступені, у якой гэтыя пытаньні рэгулююцца законамі й правіламі альбо ўваходзяць ў кампэтэнцыю адміністратыўных уладаў, рэжым, ня менш спрыяльны за той, які даецца іх уласным грамадзянам, у наступных галінах:

а) аплата й іншыя ўмовы найманьня ды працы;

b) сяброўства ў прафэсійных саюзах і карыстаньне перавагамі паводле калектыўных дамоваў;

c) жытло;

5. Забясьпечыць працоўным-мігрантам, якія законна знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, рэжым, ня менш спрыяльны за той, які ствараецца для іхніх уласных грамадзянаў, у дачыненьні падаткаў, збораў і адлічэньняў, якія спаганяюцца з асобаў, якія працуюць па найму;

6. Садзейнічаць у максымальна магчымай ступені ўзьяднаньню сем'яў працоўных-мігрантаў, якім дазволена асталявацца на іхняй тэрыторыі;

7. Забясьпечыць працоўным-мігрантам, якія законна знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, рэжым, ня менш спрыяльны за той, які ствараецца для ўласных грамадзянаў, у тым, што датычыць доступа да судовых інстанцыяў у пытаньнях, узгаданых у гэтым артыкуле;

8. Гарантаваць працоўным-мігрантам, якія законна знаходзяцца на іхняй тэрыторыі, што яны ня могуць быць высланыя, за выключэньнем толькі такіх выпадкаў, калі яны ствараюць пагрозу нацыянальнай бесьпецы альбо наносяць шкоду грамадзкаму парадку ці маральнасьці;

9. Дазволіць працоўным-мігрантам у межах закону пераводзіць любую частку іхняга заробку й зьберажэньняў, як ім пажадаецца;

10. Распаўсюдзіць абарону й дапамогу, прадугледжаныя ў дадзеным артыкуле, на працоўных-мігрантаў, якія працуюць не па найму, у тых памерах, у якіх гэтыя захады бяруцца да дадзенай катэгорыі працоўных.

*Працяг у наступным нумары.*

## ПАДПІСКА




Дарагія чытачы. Кніга Васіля Быкава «Сьцяна» выйдзе ў сьвет у самым пачатку 1998-га году.

**Каб замовіць новую кнігу прозы Васіля Быкава «Сьцяна», трэба 68.000 (кошт выданьня) + 20.000 (паштовыя выдаткі) пералічыць на рахунак: БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.**

*Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.*

## КАСЭТЫ - ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 40.000 + 7.000 БРБ)***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. LaLaLaLa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Торнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Торнадо. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндан. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Галуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)
Кардон. Радыяцыя
Мроя. Дваццаць восьмая зорка
Небясьпечная Зона (Exhumator, Sarcastic Green, Barfly's Dreams, Gernunnos, God's Tower ды інш.)
Народны альбом: Супольны музычны праект (1997).
Made in Belarus: Беларускія застольныя песьні ў танцавальнай апрацоўцы (1997).
Сяржук Мінскевіч. Шляхі (1997).
Палац. Дарожка (1997).

**КОШТ КАСЭТАЎ 43.000 + 7.000 ПОШТА**

Gods Tower. The Eerie.
Gods Tower. Canticles.
Plastic Hardcore. Ultra.
Chemical Warfare. Demolition Tape.
Headcleaner. Hash. Hash. Resistance.
Insania Trivium. Candle of Fire.

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

## КНІГІ - ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 60.000 | 16.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 12.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 16.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 10.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 12.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 16.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 10.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 12.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 12.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 12.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 12.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 16.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 12.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 12.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 16.000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 10.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 20.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 20.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 12.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 12.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 16.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 10.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 6.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 16.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 6.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 12.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 6.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 6.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 12.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 20.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 16.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 24.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 12.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 6.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 10.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 12.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 6.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 10.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 10.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўніч ак. | 10.000 | 6.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 6.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 6.000 |
| 44 | Ул.Арлоў. Адкуль наш род. | 85.000 | 15.000 |
| 45 | Я.Запруднік. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. | 55.000 | 16.000 |
| 46 | Новы Запавет. | 65.000 | 16.000 |
| 47 | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура. | 105.000 | 15.000 |
| 48 | А Лукашук.«За кіпучай чэкісцкай работай» | 50.000 | 12.000 |

**ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА**

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Кася ў школцы. | 9.000 | 14.000 |
| 2 | Шарль Пэро. Чарадзейныя казкі. | 20.000 | 26.000 |
| 3 | Лагодны Цмок. | 15.000 | 21.000 |
| 4 | Гарасьо Кірога. Казкі трапічнага лесу. | 15.000 | 21.000 |
| 5 | Графіня дэ Сэгюр. Зачараваная хатка. | 20.000 | 26.000 |
| 6 | Марві Яла. Дзівосная Ноч. | 15.000 | 21.000 |

## НАВІНКА!

*Самсон Пярловіч. Чарадзейны агонь. — Наваградак, 1997. — 309 с. — 500 ас.*

Інфармацыю пра выхад гэтае кнігі даслаў нам аўтар «Шуфляды» сп. Кастусь Рамановіч. Вось як ён пракамэнтаваў кнігу:

«Шмат зь вершаў, надрукаваных у гэтай кнізе, дапамагаў Пярловічу ў лягерох ГУЛАГу захоўваць і я, запісваючы іх агрызкам алоўка на дошчачцы драўлянай. Вывучваў іх на памяць, а потым з дошчачцы саскрэбваў шкельцам, каб запісаць на ёй наступны верш. Дошчачку, агрызак алоўка й шкельца старанна хавалі ад «шмону». У гэтай кнізе мастацкай прозай напісаны Пярловічам успамін пра вываз у Сібір кулакоў — апавяданьне «Да белых медзьвядзёў». У паэме «Адам Чабоцька — слаўны Друг» — успамін пра вываз Самсона й Адама ў нямецкі лягер, а пазьней — у савецкі, дзе і я разам зь імі быў».

Умовы атрыманьня кнігі:

Трэба даслаць на адрас сп. Пярловіча 70.000 руб. (50.000 — кошт выданьня, 20.000 — кошт перасылкі), а на квітанцыі напісаць свой дакладны адрас.

Пярловіч Самсон Георгіевіч
Навагрaдак 231400, вул. Менская, дом 29.

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ НАВІНКІ:












1. Мясцовы час. Мой дом. Наша ўскраіна. — Літаратурна-мастацкая суполка, 1997.

2. Made in Belarus: Беларускія застольныя песьні ў танцавальнай апрацоўцы. — Vigma, 1997.

3. Палац. Дарожка. — БелСаціс — Skat Records, 1997.

4. Калядныя песьні. — Каўчэг, 1997.



## КАРАЛЕЎСТВА БЕЛАРУСЬ

У сыстэму кнігараспаўсюджаньня паступае каталёг мастацкае акцыі «Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура». У рэпрадукцыях і тэкстах праз кансэрватыўнае мысьленьне, але авангардныя формы рэпрэзэнтаваная сучасная беларуская культура. Цікавая ўжо не залежна ад рэжыму.

Умовы падпіскі — у блёку «Кніга — поштай» (пазыцыя № 48).

## Новыя кнігі, дасланыя у рэдакцыю

Асіпенка А. Сьвятыя грэшнікі: Раман; Абжыты кут: Апавесьць: Для ст. школьн. веку / Прадмова А.Крыгі. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 495 с. — (Школьная бібліятэка). —Наклад 16.000 ас. ISBN 985-02-0400-1

Люшцік У. Руска-беларускі слоўнік тэрмінаў нафта- і газаздабычы. — Менск: Беларуская навука, 1997. — 203 с. —Наклад 500 ас. ISBN 985-08-0034-8

Мархель У. Прысутнасьць былога: нарысы, артыкулы, эсэ / Пад рэд. В.Каваленкі. — Менск: выдавец М.Трафімчук, 1997. — 192 с. — Наклад 1.000 ас. ISBN 985-6380-05-7

Слоўнік мовы Янкі Купалы. У 8 т. Т.1: А-Г / Уклад. У.Анічэнка і інш.; Рэдкал. У.Анічэнка і інш.; Рэд. У.Анічэнка. — Менск: Беларуская навука, 1997. — 340 с. — Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0038-0

Сысоў У. З крыніц спрадвечных. — Менск: Вышэйшая школа, 1997. — 415 с. — Наклад 10.000 ас. ISBN 985-06-6265-1

Бобков и др. Политические партии Беларуси / В.Бобков, Н.Кузнецов, В.Осмоловский — Менск: БДЭУ, 1997. — 140 с. —Наклад 3.000 ас. ISBN 985-426-067-4

Каялович М. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. — Менск: Лучи Софии, 1997. — 688 с. — Наклад 5.000 ас. ISBN 985-6171-11-3

# грамафон.

## Аляксандар Антончык

НЯБЕСНЫЯ ВЕРШНІКІ

Толькі вочы прыкрыю я ў мроях,
Як ўстаюць зь небыцьця прада мной
Нашы прашчуры ў рыцарскіх строях —
Слава й гонар Айчыны радной.

Яны скачуць на конях крылатых
Над лясамі скрозь сіні туман
Па прасторах, дзе з хмарак кудлатых
Прасьціраецца белы дзірван.

Іхны панцыры ржа не паела,
Шаблі вострыя ў похвах вісяць,
Скакуны ж падкаваныя ўмела,
Залатымі цуглямі вісяць.

Мчыць дружына на ўзмыленых конях,
Пакараючы зь вечнасьці шлях,
Каб узьняць на пакінутых гонях
Свой упаўшы і зганьблены сьцяг.

Асьвячае ён ранак іскрысты,
Шлях-дарогу у родны абшар.
Распаліўшы зары прамяністай,
На ўсё неба барвовы пажар.

Сьветлай песьняй, плывучаю з рога,
Будзіць люд юны вершнік-трубач.
Ў дзіўных гуках чутны сум, трывога,
Звон калосься і кнігаўкі плач.

## Зьміцер Бартосік

БЕЛЫ ШАЛІК

Раманс

*«Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага яснага дня...»*

*(М.Багдановіч)*

Шалік белы з чырвонаю стужкай
Ты аднойчы мне ў дар паднясла.
Як сымболь нашай шчырае дружбы,
Талісман нашых будучых спраў.

Ты яго мне сама вышывала,
Каб было мне напэўна цяплей,
Ты сама мне яго павязала
Ў дзень, калі павязалі мяне.

Не пісаў я на сьценах тых матам,
А прысьпешваў, здавалася мне,
З дапамогай вядомай цытаты
Залацісты і ясны наш дзень.

Ды мае паэтычныя густы
Не ўлічыў той сухі пратакол,
Быццам я аднаго беларуса
Абзываў там, дзе мог, мудаком.

І зрабіўшы масаж мне на твары,
Шалік той ад мяне унясьлі.
Каб былі мне больш мулкімі нары
Й не павесіўся каб ад тугі.

Пацягнулісь дзянькі без навінаў,
Хоць кідаюць газэты зрэдчас.
Ды няма сярод іх «Нашай Нівы»,
Безь якой я зусім тут прыгас.

Ды аднойчы праз сьцены ды краты
Атрымаў навіну пра цябе.
Быццам, мілая, круціш раман ты
З маладым лейтэнантам ГБ.

Ў Батанічным вас бачылі садзе,
А пасьля шчэ ў «Гішпанскім кутку»,
Як сядала ў ягоны «Фольксваген»
На Камсамольскай з Праспэктам рагу.

Што ж, гуляй са сваім «асабістам».
Веру, што вам ня доўга гуляць.
Дачакаюсь і я асабіста
Залацістага яснага дня.

І калі ўсё акажацца праўдай,
Падарунак я твой вазьвярну,
І на шыі тваёй далікатнай
Шалік той я як сьлед зацягну.

## Тацяна Будовіч

***

Хто ты, агню ўладар?
Ліжуць мне рукі, твар
Полымя языкі.
Холадна як жа ім!
Сэрцам яны маім
Хочуць сябе сагрэць.

... Як пахіснуўся сьвет,
Ня стала у ім сьвятла,
Тут ты, агню ўладар,
Мне падзівіцца даў
на Твае рукі, твар...

## Марта Гамановіч

***

Адзін умееш рукі цалаваць,
А ўсьмешка гоніць чорную тугу.
Мне голас Усявышняга чуваць —
Абраньніку Яго дапамагу.

Ня бойся, хлопча, ты адзін такі.
Мо часам думаеш, што звар'яцеў?
Перад табой павернуцца вякі,
І зьдзейсьніш, любы, тое, што хацеў.

Вер і трымайся. І пазнае сьвет,
Што на табе ляжыць той Божы знак.
І будзе ўсё, як прадказаў Паэт:
«Паўстань з народу нашага, Ваяк».

Рагнедай згвалтаванай прад табой
Малюся, яснавокі, малады:
Час меч вайстрыць, наш Пераможца-Вой,
Каб сон і рабства скінуць назаўжды.

## Сяргей Герасімаў

* * *

Што за сьвет тут паўстаў,
Дзе жанчыны ідуць на панэль,
Загубіўшы сваю маладосьць...
..........................
Дзе каханьне не існуе, ці забытае,
А ёсьць толькі грошаў наяўнасць.
Дзе адсутнасьць чалавечай пяшчоты
Абумовіць без патрэбы цяжарнасьць.

Дзе твой лёс распадзецца ў прах
Пад тралейбусам, целам кіроўцы...
Дзе атрутлівым бургера пахам
Пачастуюць з McDonalds'у хлопцы.

Дзе ў вачах — пустэча. І зайздрасьць.
Прыкрай шэрасьцю дзён выпірае нахабства.
Бо ў пашане — да гвалту лаяльнасьць,
Ці, па-іншаму, проста вар'яцтва.

Тут няма старажытнае шляхты.
Тут ўсе п'яныя ды наркаманы,
Прастытуткі, злодзеі, хамы,
AIDSам з пранцамі інфэкцыяваныя.

Тут чырвоныя д'ябла сьцягі
Узбуджаюць да роду працягу.
Тут няшмат жывуць за грахі,
Бо каханьне сканчаецца «трахам».

Вы забудзьцеся на прыгажосьць,
Лепш — схавайце яе ў кішэню,
Ды пачніце жыцьцё з «маладосьці» —
Пэрспэктыўнага БПСМу.

## Уладзімер Гуткоўскі

* * *

*Маладым патрыётам-палітвязьням прысьвячаю*

Узьнялі хлопцы сьцяг над дахам,
А іх узялі, ды й за краты.
Шыюць крымінал, накшталт замаху
На ўсіх, ад войскаў да ўраду.

Яны на сьценах напісалі,
Што любяць мілую Радзіму.
Дык злобу гэтым выклікалі,
Як джына зь лямпы Аладзіна.

А можа, дзядзьку лепей будзе
Успомніць сьцяг з Дому ўраду?
Той, што зьнялі вы, пра што людзі
І зараз кажуць, як пра здраду!

Ці ту Пагоню, што зьмянілі
На нейкі герб, як быццам новы?
То, як увогуле забылі,
Што існуе свабода слова?

Пакайцеся, дзяцей пусьціце,
А то народ вас пракляне.
І той праклён, як не вярціцесь,
Вас знойдзе нават у труне!

## Уладзімер Драбышэўскі

***

Хаджу я на хадулях,
А хлопцы крычаць: злазь —
Баяцца, што ўпаду я
З хадуль ды ў гразь.
І доўга помніць будуць,
Якім ў гразі я быў,
Але ўраз забудуць,
Як доўга я хадзіў.

## Уладзімер Жаўняк

1997. МЕНСК. МЭТРО

Нэрвовы стук па зьвілістай дарозе —
Яна ідзе, нібыта пад наркозам,
І вочы дзеўчыны, як вочы мерцьвяка,
А перад ёй вялікая рака.
Хто раз туды ўвайшоў, ня мае шанцу выйсьці —
Адтуль ня можа быць і не бывае выйсьця.

Яна ідзе, нібыта пад наркозам,
Нэрвовы стук па зьвілістай дарозе
Зьбівае роўны крок ягоных длінных ног —
Ён нэгр — ім рушыць іншы Бог,
І ён ідзе упэўнена зь дзяўчынай,
Нібы мастак са зробленай карцінай...

Яна ідзе, нібыта пад наркозам —
Нэрвовы сьмех, а заўтра ранкам сьлёзы
Напэўна зьявяцца на стомленых вачах,
І ёй усёй валодаць будзе жах...
А можа быць яе чакае ІНШЫ ШЛЯХ?

## Макс Кірэйчык

***

Літва, малітва, зьлітаваньне —
Сугучны лад пяе ў душы.
Зьлятаюць з вуснаў словы-здані,
Кладуцца спаць на аркушы.

Як радасна знайсьці дарогу
Пасьля блуканьняў і пакут.
І хоць далёка шчэ да Бога,
Я недаступны для атрут.

Дазволь, о Госпадзе, прыпасьці
Да Праўды і Сьвятла твайго,
Маліць за тых, хто ў няшчасьці.
Не за сябе — перш за таго,

Хто грэх нявер'я не імкнецца
Пераадолець назаўжды,
Хто ў мітусьні падзеяў б'ецца,
Марнуючы свае гады.

Хто цень Айчыны ўсё шукае
З мэтодай Маркса ў галаве,
І хто рупліва пыл страсае
З музэйных ідалаў яе.

Даруй таму, хто ўжо скарыўся
І выракся свайго імя,
Хто баязьліва пагадзіўся
Мянушку мець ад маскаля.

Даруй, о Божа ўсемагутны,
І выведзі на просты шлях.
Народ наш зьведаў усе пакуты
Бязьвер'я і заганаў жах.

І зараз не ўвядзі ў спакусу,
Паганства новага прывід
Не дапусьці да панаваньня —
З крыжом хай будзе краявід

Тае краіны, што паўстане,
Назоў ад Бога мусіць мець.
Мянушкі зьнікнуць з карыстаньня,
Імя сьвятое будзе пець!

Я веру — на маёй зямлі
Хрыста заўсёды будуць славіць.
Я веру — прыйдуць каралі,
ЛІТВА ЛІТВОЮ стацца мае!

## Андрусь Клікуноў

ЧЭМЕР

Змрочна, цемра, цішыня,
Ані барваў, ані красак,
Абмярцьвелая мая
Беларусь бяз божых ласак.

У сэрцы боль, у сэрцы жах
Ад нясьцерпна горкай долі...
З паляваньнем сумны Стах
Аб'язджае навакольлі.

Ён пагрукае у дзьверы,
І пакліча, і засьвішча,
Ён па нас прыйшоў, павер,
У сэрцаў нашых папялішчы.

Быццам птушкаю ляціць
Вершнік на нябачным коні,
І праклёнамі грыміць
Капытоў сьпяваньне ў скронях.

Ў багне, змрочнай і пустой,
Знойдзе ён сабе спакою.
Не ўратуецца НІХТО...
Будзем ТАМ і мы з табою.

## Яўхім Корчак

МУТАНТ

Ён мае воблік чалавечы,
Але — мутант.
У зрэнках жар крывавай сечы,
На сэрцы — бант.

Гаворыць складна без паперкі,
Ды ўсё — мана.
Жанчыны, залі ды люстэркі —
І — «оба-на!»

Яму «народ» — пустое слова,
Няварты гук,
У сэнсе «дойная карова»
З працяглым «му-».

Ён сам сябе не разумее
І хоча піць.
Яму радзіма — бакалея, —
Тут добра жыць.

Ён мае воблік чалавечы,
Але — мутант.
І для мяне ён будзе вечна
Як акупант.

## Віктар Ліцьвінаў

ЗАСТЫГЛАЯ ПАЛІФОНІЯ ЗІМЫ

*Памяці Максіма і Восіпа*

Застыгла паліфонія зімы, і прываблівае,
быццам гішпанскі матадор на маце
сёрбае са сподачка халодны матэ —
парагвайскі чай,
вусны якога маўчаць табе — bye-bye!

быццам пасьлядоўнік матэрыялізму,
зьнесены з пастамэнту
і заменены простым крыжам,

быццам матрона пры матрыярхаце,
калі ваявалі маці,
а таты чакалі іх вяртаньня дадому
з крыкамі «мір вашаму дому!»

быццам маэстра, узмахнуўшы крыламі,
узьнёсься Хрыстом над аркестрам —
у прынцыпе — тое ж, што і майстар
сваёй справы,

быццам мэдальён на шыі Напалеона
і ў ім чамусьці пук леташняй залатой саломы
і гэта — замест авальнай мэмбраны зь яе
голасам,

быццам мэляман, трымаючы музыку
налітай у мэнзурку, а рыскі на
стакане — гэта пачатковыя літары
блюд мэню яго любімай музыкі,

быццам плянэта Мэркуры ў кармане,
якую набыў за грошы бог гандлю
(у якога грошай — як ног у зьмяі)
Мэркуры, а цяперака ня ведае,
што зь ёй рабіць,
.................
застыглыя рытмы зімы!

## Алесь Менскі

* * *

Паглядзі ў вышыню: бачыш, зорка
Дасылае сьвятло да Зямлі —
Яе ўбачылі магі на золку
І свой шлях, пэўна, ўжо пачалі.

Па бязьлюднай пустыні вярблюды
Чарадой нетаропкай ідуць.
Напаткаюць наперадзе цуды
Тых, хто золата ў Сьмірну нясуць.

Мы ў гмахах сваіх напаўзьмерзлых
Ад балтыйскіх ільдзяных вятроў
Па-над ломкім гальлём дрэваў чэзлых
У нябёсы ўзіраемся зноў.

Выглядаем між хмараў маўклівых
Ці то зорку, ці то яе сьлед,
Разважаем таемна аб дзівах
І кіруем жаданьні у сьвет.

Каб яны на шляху да спаўненьня
Ў тыя дні, што яшчэ не прыйшлі,
Сьветлы ранак Яго Нараджэньня
Сьвяткавалі на гэтай зямлі.

## Ігар Пракаповіч

***

Сьнежная роўнядзь...
Сонца ў марозным тумане.
Шэрань іскрыцца
халодным празрыстым сьвятлом.
Вёска ў гурбах,
нібыта ў зімовым капкане,
грэе нябёсы
смалістым прыемным дымком.

Зьвякне вядро
аб лядовую плойміну студні,
рыпнуць вароты,
пад санкамі сьнег захрумсьціць,
і ад дарогі да возера
пойдуць са скрынямі людзі
з тайнай надзеяй
вялікую рыбу лавіць.

У звонкім паветры
зіхцяць пералівам сьняжынкі.
Зіхкі, як мара,
туман на марозе вісіць.
Сыпяцца ў сэрца,
як кропелькі шчасьця, іскрынкі.
Што ні кажыце, а добра ля Нарачы жыць...

## Самсон Пярловіч

* * *

*Да сямідзесяцігодзьдзя Слаўнага Друга*

О, Рамановіч — наш Кастусь!
Душу Тваю вярэдзяць раны —
За родны край, за Беларусь
Ты быў аж двойчы закаваны.

Ужо зь юнацкіх раньніх год
Пайшоўшы з роднай вёскі — Лозкі,
Ты стаў змагацца за Народ,
Як і бясьсмертны Каліноўскі.

Скарыцца сталінскай чуме
Цябе ня змог ні боль, ні голад
Прымусіць нават у турме,
Ні лягерны бясконцы холад.

Ня стаў ты ад пакутаў нем
І не пачаў дрыжаць у скрусе,
Што быў калісьці ў СБМ
І ў «Вызваленьні Беларусі».

І ў семдзесят Тваіх жа год
Няхай Бог дарыць Цябе сілай,
Каб Ты, наш Слаўны Патрыёт,
Служыць мог Бацькаўшчыне Мілай!

## Браніслаў Пяткевіч

ПРЫЧЫНА

Трывога, трывога! Інфляцыя лезе
Зьядае набытак у хопе ваўчыным.
У нас яна днюе, у нас на начлезе,
Ня грэбуе дохлым, ня зьняўшы аўчыны.
Улада напнецца, а роспач рагоча,
Панесла іх лодку паводка эмісій.
Няма ўжо Прырэчча, няма Замасточча.
А сьцежкі ня змыла ад розных камісій.
Шукаюць прычыну, і хто вінаваты
У крызысе доўгім, як сьвет наш бясконцы.
Адны выяжджаюць на слове крылатым,
Што цені бываюць і нават на сонцы.
А іншыя кажуць: «улада няўмека,
Рэформа скруціла, ім зробіла клізму.
Штодзённа патрэбна для чалавека
Крыло ўсеабдымнае сацрэалізму.
На рынак? Паедзем туды калектывам,
Ня вытрымаць ветру слупы-адзіночкі...»
І Беларусь наша стала ўжо дзівам:
Курчатак гадуе бяз матухны-квочкі.
А шлях свой адметны зьвяла ў балота,
Дзе ў багне смурод небясьпечны й вечны.
Ля слабага дышла, як п'яны ля плота,
Убачыла поступ надзейны, канечны.
Ня будзе збавеньня, сьляпыя кіроўцы,
Бо шлях вы згубілі шырокі і просты.
Вас лёс не пагладзіць па лысай галоўцы,
Дзе вырасьлі выспы ад гэткай каросты.

## Крысьціна С.

* * *

Прывітаньне, амаль незнаёмы сябра!
Павітай мяне праз наступствы словаў,
Скрозь сьнягі і адлігі ствары ўмовы
Для сустрэчы позіркаў на сьвітаньні.
Прывітаньне...

Я чакаю рэха тваіх пачуцьцяў
Дзе ліхтар і сьвечка, і бэз квітнее.
Я магу паверыць, але ня сьмею,
Што я вобраз твой утварыла штучна.
І чакаю...

## Гандрусь Стрэмка

***

Беларус... Цярплівасьцю адвечнай
Імя сваё праславіў назаўжды.
Часта як з пакорнасьцю авечай
Страшэнныя ты сустракаў гады!

Абліваўся потам і крывёю
Ты зубы сьціснуўшы, але маўчаў.
Разьвітаўся з воляю сваёю,
Ты годнасьцю сваёй ахвяраваў!

Злы тыран зноў цягне цябе ў пекла,
І крочыш моўчкі за натоўпам ты.
Абяцалі табе: «Будзе сьветла!»
Але вядуць у змрочныя куты.

Ты маўчыш: сьляпы альбо ня хочаш
Убачыць зноў чарговы злы падман.
Затуманены твой розум... Вочы
Заліць віном сьляшаецца тыран.

Дык няўжо сьліна не разагнецца,
І будуць усе табою пагарджаць?!
Дык няўжо жа сэрца не заб'ецца
І волю не пакліча адшукаць?!

Адчыні жа вочы, глядзі сьмела!
Адчуй сябе жыцьця гаспадаром!
Я хачу, каб тваё сэрца пела
Ад шчасьця на зямлі, дзе мы жывём!

## Давыд Сьцізорык

У ЗААПАРКУ

У Заапарку паўстаньне
Раве пазбаўленым волі зьверам.
Нам не патрэбнае вяртаньне,
Мы хочам ісьці наперад.

Але ў нас Назіральнік ёсьць хворы —
Ён нянавісьці дзеля нас не шкадуе,
І на атручанай хлусьнёю прасторы
Нашую Пушчу гвалтуе.

А надзея закахалася ў смутак,
І мы палонныя ў каханьні гэтым.
У нашай ежы — атрута,
Па-за нашымі кратамі — Мэта.

На белым сонцы чырвонай крывёю
Мы пішам заклікі сэрца.
... Няўжо згодныя вы, братове,
Каб дзеткі вашыя вырасьлі ў клетцы?

## Юры Чарнякевіч

СНЫ

Першы сон

Мы заканчваем
Свае жахлівыя гульні
Пасьля таго,
Як пачалі іх.
Гэта не жыцьцё —
Гэта сон.

Вера ў тое,
Што я сплю,
Падтрымлівае мяне
Ужо некалькі год.

А калі я раптоўна
І асьцярожна
Прачынаюся,
Дык блукаю
У бяздонных,
Як прыгажуня-Сьмерць,
Вачах
Разьюшанага
Сваёй веліччу
Натоўпу,
Каб назаўсёды,
Назаўжды,
Забыць тое,
Што я хацеў успомніць,
Калі прачнуўся.

Другі сон

Рознакаляровыя сны
Уяўляюцца існасьцю
Пад утульнымі
Дахамі хат.

Сэрца б'ецца на апошнім
Вельмі тонкім ланцужку,
Які я набыў нядаўна,
І галоўнае — танна,
У невялікага небаракі,
Які думаў, што ён — жабрак.
На крывавых ад сьнегу
І сонца
Вуліцах,
Марудзячы і сьпяшаючыся
Крочаць людзі ў далёкі
І даўно пазабыты
Родны край
А я,
Засынаючы ў чарговы раз
Бачу, як падаюць сьняжынкі
На брук,
На бруд,
На людзей,
Каторыя
Падаюць ад цяжкасьці
Лёгкіх
У бялюткіх зорак,
Бо ня могуць больш трываць.
І замярзаюць.

## Алесь Шадрын

ЛЯГІЧНЫ КАНЕЦ

Злавеснасьць навакольнай цішыні
Нагадвае жахлівую пачвару,
Якая места сьціплыя агні
Згасіла, патрабуючы ахвяру.

Ахвярай, безумоўна, стану я
Ды зручнай цацкай змрочнага Сусьвету,
Жыцьцё маё — захопіць мітусьня,
Каб я згубіў свой цень, свой розум, мэту...

Мне здані пагражаюць небыцьцём,
Камечачы абшар, лунаюць ў небе;
Я хутка стану — чорна-белым сном,
Свой голас пахаваўшы ў мерзлай глебе.

Я стану пылам на падэшве ног —
Агідных ног Пачвары-незнаёмца,
Я стануся нікім, Цябе мой Бог,
Згублю, як у сутоньні промень сонца.

Зраблюся я нічым, калісьці быў
Шчасьлівым, а цяпер падчас хваробы,
Пабачыўшы той сьвет, які любіў,
Я ўгледзеў — штучны бляск яго аздобы.

Нянавісьць адчуваючы ды жах,
Я падсьвядома блытаюся ў словах,
Руйнуючы жыцьця спрадвечны гмах,
Шукаю сэнс быцьця ў першаасновах...

А ў небе — кропка, да мяне ляціць,
Яна так блізка — можна дакрануцца,
Яна вачыма сьмерці ў нас глядзіць,
Што мне карціць заснуць і не прачнуцца.

Яна змушае енчыць і крычаць
Ад роспачы мой розум хаатычны, —
— Вось вынік, што я вінен пажынаць,
Нікчэмнага быцьця фінал лягічны.

## Сымон Шаўцоў

***

Чаго глядзіце вы?
Чаго заўсёды плачаце толькі?!
А вас многа столькі!
Дзесяць мільёнаў з гакам,
А вы, небаракі!
Кажаце ў адчаі:
— Народ мой прадаюць
Пад выбухі самотаў...
Калі Радзіма гіне...
Вы самі ў тым вінны.
Чаго ня робіце таго,
Што рабіў Кастусь Каліноўскі,
Ігнат Грынявіцкі
Або румыны з Чаўшэску?
Ды хоць бы й чачэнцы сёньня?..
Чаму вы ўсе сонныя?
Ня плакаць, не тужыць,
Трэба змагацца, каб вольна жыць.

## Віталь Юрэвіч

МАНАЛЁГ ПАМЕРЛАГА

1.

Пад іконай гарыць зырка сьвечка.
У талерцы наліта куцьця,
— Пасядзі-ка са мной, чалавеча.
Я прыйшоў да цябе зь небыцьця.

Не пужайся, налі лепей чарку,
Выпі залпам дрыжачай рукой.
Я ня той, хто душу тваю шпарка
Забярэ на адвечны пакой.

Пасланец я і госьць твой у хаце.
Я прыходжу ў час смутку і сьлёз.
Ад дзядоў тваіх, бацькі і маці
Прывітальную вестку прынёс.

2.

Не зьдзіўляйся, што выгляд юнацкі, —
Мне ўжо некалькі соцень гадоў.
Бачыш рану? Ад шаблі казацкай
У магілу я хлопцам пайшоў.

Як твае там? Паціху, нічога...
Мы ж пазбаўлены вашых пакут,
І штодзённа мы просім у Бога
За жывых, што пакінулі тут.

Можа, у шчасьце, а мо ў пакараньне
Замест пекла за нашы грахі
Душам нашым дай Бог адчуваньні
І блуканьні ля роднай страхі.

Вось і чуем мы крыкі з калыскі
І суседу твой злосны праклён,
Як грымяць ежай поўныя міскі,
Што твой сын сказаў любай уздагон.

3.

Бачым мы працу цяжкую ў полі,
Як жывот свой кладзеце між ніў,
Як кусаеце губы ад болю,
Калі колас зярнят не ўрадзіў.

І жыцьця кубак з вамі мы пілі
І на ўсіх скрыжаваньнях былі,
Як стралялі ў 30-х, як немцы палілі,
Толькі каб мы зрабіць што маглі...

Не жыцьцё гэта. Мукі з распустай.
Кажаш ты: вінаваты ў тым Бог?
Але праўда твая — слоўаблудства.
Вы — пачатак усякіх дарог.

Вы ствараеце ўласную долю.
Хто ж за вас яе можа стварыць?
А любоў... Гэта ўсё ў вашай волі,
Але ж каб вы ўмелі любіць...

Ты мяне ўсё баісься? Дарэмна.
Пачакай, яшчэ прыйдзе твой час,
Станеш ты на зямлі непатрэбны,
Будзеш роўным тады паміж нас.

4.

І цябе забаяцца і дзеці, і ўнукі,
Завітаеш калі сьветлым ценем дамоў
На спатканьне пасьля шматгадовай разлукі,
Але жахам для іх твая стане любоў.

Мне пара. Як захочаш парады,
Дапамогі якой ад біды —
Ты гукні, мы прыйсьці да вас рады
Хоць калі. Ці хаця б на Дзяды.

Пад іконай згасае ўжо сьвечка.
У талерцы пастыла куцьця.
П'яны сьпіць за сталом чалавеча
З поўнай чаркай свайго забыцьця.



# Мова пратаколаў

«Шуфляда» ўжо запачаткавала традыцыю публікацыі афіцыйных дакумэнтаў. Абнародваньне гэтых матэрыялаў дазваляе асьвятліць праблему суадносінаў інтарэсаў грамадзтва й дзяржавы ў беларускай гісторыі XX ст. Мы бачым, што не заўжды дзяржава можа быць варожай да інтарэсаў грамадзтва, часам іх інтарэсы блізкія. Так было ў выпадку распрацоўкі праекту Балта-Чарнаморскага Нафтавага Калектару (гл. «НН» № 32 за 1997 год).

Асобная тэма для гісторыі любой дзяржавы — гэта гісторыя яе дыпляматыі. Бо названы інструмэнтар дзяржавы фармуецца як адзін з самых унівэрсальных — дыпляматы мусяць служыць любому законнаму (падкрэсьлім гэты прыназоўнік) ураду сваёй краіны. Распавядаючы пра станаўленьне дыпляматыі Беларусі ў 1992 годзе мы адначасова будзем распавядаць пра прыхаваны канфлікт дзьвюх галоўных яе складнікаў — нацыянальнага інтарэсу й савецкае спадчыны. Ілюстрацыя падобнага сюжэту ў гэтым нумары — дакумэнты да афіцыйнага візыту Станіслава Шушкевіча ў Польшчу ў чэрвені 1992 году, перададзеныя ў Архіў Найноўшае Гісторыі сп. Алегам Трусавым. Матэрыялы, якія былі падрыхтаваныя ў Міністэрстве замежных справаў Беларусі, нясуць на сабе адбіткі савецкіх стэрэатыпаў: шэф польскага пратаколу ў праграме візыту названы «пан Сьвіткоўскі», а ягоны беларускі калега — проста «В.Лазерка»; біяграфію Леха Валэнсы распачынаюць з адзнакі таго, што ён нарадзіўся «у беднай сялянскай сям'і»... Так да канца засталося незразумелым, чаму ў афіцыйным візыце кіраўніка беларускай дзяржавы ня ўзяў удзелу міністар замежных справаў Пётар Краўчанка, хоць ён і быў названы ў праграме. Тут варта ўзгадаць, што адкрытыя супярэчнасьці паміж Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам праявіліся ўжо пазьней.

З усім гэтым багажом беларуская дэлегацыя накіроўвалася ў Варшаву. Але калі казаць пра ідэалягічныя ацэнкі, то ў той жа біяграфіі польскага прэзыдэнта беларускія чыноўнікі адзначылі, што Лех Валэнса ўзначаліў падпольныя структуры «Салідарнасьці» «ў барацьбе з таталітарным рэжымам», а ў 1983 годзе атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру. Тут ужо беларускія службоўцы пачуваліся не ізаляванымі ад сусьветных працэсаў. Для характарыстыкі візыту таксама варта нагадаць пра намаганьні Камісіі па міжнародных сувязях максымальна акцэнтаваць беларускую тэму на тэрыторыі самой Польшчы — праз ушанаваньне памятных беларускіх мясьцінаў.

Сьціслая й стрыманая мова дыпляматыі можа даць канцэнтраваную інфармацыю па грамадзянскай гісторыі. За пратаколам стаяць немалая праца й прыхаваныя дыскусіі, якія мы спрабуем убачыць.

**Алег Дзярновіч**

## ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ НАБЫТКАЎ АРХІВУ НАЙНОЎШАЕ ГІСТОРЫІ

Сазонаў А.: самвыдавецкія газэты «Сумленьне», «Яха», «Айсбэрг» (Слонім).

Афаневіч А.: камплект газэты «Тыднёвік Магілёўскі»; «Загляне сонца ў нашае ваконца».

Кацуба Г.: камплект газэты «Рабочы»; улёткі; Статут БДУ. Каментары суполкі ЗБС БДУ; матэрыялы і дакумэнты Маладога Фронту.

Валошын В.: улёткі.

Самайлюк Т.: «Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў»: Каталёг выставы.

Лісоўская А.: улёткі 1997 году.

Супрановіч В.: улёткі 1997; «Каліноўскія весткі»; «Маладзёвы весьнік».

Паўлоўскі В.: «Сьпеўнік беларускіх скаўтаў».

Сьцяпанаў Ю.: улёткі, матэрыялы да выбараў ў Віцебскі гарвыканкам; «Лад».

Ліхтаровіч Г.: «Адкрыты ліст аўтару несьмяротнай паэмы «Сказ пра Лысую гару».

Архіў Найноўшае Гісторыі выказвае падзяку ўсім ахвярадаўцам.

Архіў Найноўшае Гісторыі выказвае падзяку сп. Алесю Яўсеенку за вялікую дапамогу ў зборы ў Гомелі «Анкеты ўдзельнікаў апазыцыйнага руху Беларусі».

Публікацыя ажыцьцёўленая ў рамках праекту "Адна зямля – Усходняя Эўропа".© Архіў Найноўшай Гісторыі

# З гісторыі



Зараз, калі ў сьнежні мы адсьвяткавалі чарговую гадавіну нашай сучаснай незалежнасьці, варта прыгадаць першыя крокі беларускай дыпляматыі гэтай эпохі.

У ліпені 1992 году адбыўся візыт Станіслава Шушкевіча ў Рэспубліку Польшча — адзін зь першых афіцыйных візытаў за мяжу кіраўніка беларускай дзяржавы. Гэтая акцыя рыхтавалася некалькі месяцаў дзьвюма дзяржаўнымі інстытуцыямі: Міністэрствам замежных справаў і Камісіяй па міжнародных справах Вярхоўнага Савету Беларусі. З боку камісіі ВС гэта было даручана зрабіць Валянціну Голубеву і мне. Нам давялося ня раз сустракацца з афіцыйнымі польскімі асобамі, выяжджаць у Польшчу з мэтай зрабіць гэты візыт годным тысячагадовай гісторыі Беларусі. У выніку няпростых, а часам і даволі складаных перамоваў у праграму візыту былі ўключаныя: ускладаньне кветак на магілу Алеся Гаруна на Кракаўскіх могілках, ушанаваньне памяці Францішка Скарыны ў Кракаўскім унівэрсытэце ды наведваньне помнікаў беларускай гісторыі і культуры на Беласточчыне. У гэтым ваяводзтве дэлегацыя наведала манастыр ў Супрасьлі, музэй беларускай культуры, праваслаўны сабор у Гайнаўцы, пазнаёмілася зь дзейнасьцю ліцэя з выкладаньнем беларускай мовы ў Бельску-Падляскім.

Упершыню незалежная Беларусь зьвярнула ўвагу на праблемы беларусаў Польшчы і зрабіла гэта разам з афіцыйнымі польскімі асобамі. Сотні людзей сустракала машыну Станіслава Шушкевіча ў Беластоку, Гайнаўцы і Бельску, вітаючы тым самым адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці.

Апегеем візыту былі перамовы з прэзыдэнтам Польшчы Лехам Валэнсам 23 ліпеня

# Праграма афіцый

*Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь*



(23-25 чэрвеня)

23 чэрвеня, аўторак

9.00 — Вылет з аэрапорту «Менск-2»

9.00 — Прыбыцьцё спэцрэйсам у Варшаву.

На борт самалёту падымаюцца шэф польскага пратаколу пан Сьвіткоўскі і В.Лазерка.

Уздоўж дывановай дарожкі па абодва бакі размешчаныя салдаты.

Сустракаюць: начальнік канцыляры Прэзыдэнта, міністар пан Зёлкоўскі і нам. міністра замежных справаў пан Бічэўскі.

9.10 — Ад'езд з аэрапорту.

9.25 — Прыезд дэлегацыі ў рэзыдэнцыю «Паркавая».

(Прывітальны келіх віна, разьмяшчэньне).

9.35 — Ад'езд усёй дэлегацыі (акрамя галавы дэлегацыі) ў Бэльвэдэрскі палац. Пасьля прыезду члены афіцыйнай дэлегацыі займаюць месцы ў пункце С1.

(Суправаджальнікі будуць праінфармаваныя дадаткова).

9.43 — Ад'езд С.Шушкевіча ў Бэльвэдэрскі палац.

9.45 — Прыбыцьцё галавы дэлегацыі ў Бэльвэдэрскі палац. У пункце Р (гл. схему) С.Шушкевіча сустракае Л.Валэнса і прадстаўляе сустракальнікаў (пункт С).

С.Шушкевіч прадстаўляе членаў афіцыйнай дэлегацыі (пункт С1).

С.Шушкевіч і Л.Валэнса ў суправаджэньні шэфа польскага пратаколу накіроўваюцца да пункту 1. Выкананьне беларускага і польскага гімнаў.

У пункце 2 камандзір роты ганаровай варты складае рапарт. У пункце 3 (насупраць сьцягу) схіленьнем галавы адбываецца ўшанаваньне польскага сьцягу. Абход ганаровай варты, вяртаньне да цэнтру калёны (пункт 4) і прывітаньне роты: «Чолэм жолнежэ».

С.Шушкевіч дзякуе камандзіру роты й разам з Л.Валэнсам кіруюцца да лініі Е (гарадзкія і раённыя ўлады, вайскоўцы); вітаюць дыпкорпус (лінія F) і кіруюцца ў палац.

10.00-10.20 — Перамовы «сам-на-сам». (Пакуль не ўдакладнена).

10.20-11.20 — Перамовы ў пашыраным складзе. Зь беларускага боку бяруць удзел: П.Краўчанка, У.Сянько, В.Быкаў*.

11.20-11.30 — Цырымонія падпісаньня Дамовы.

11.30 — Ад'езд да Магілы невядомага салдата.

11.40-11.55 — Цырымонія ўскладаньня вянка (вянок дастаўляецца з борту самалёту польскім бокам).

11.55 — Ад'езд у рэзыдэнцыю.

12.05 — Прыбыцьцё ў рэзыдэнцыю.

12.15-13.00 — Візыт прэм'ер-міністра Польшчы пана Паўляка (у рэзыдэнцыі).

13.15 — Абед сваім колам.

(Афіцыйная дэлегацыя абедае ў рэзыдэнцыі С.Шушкевіча, астатнія — ў рэстарацыі гатэлю «Паркавы»).

14.30-15.15 — Візыт міністра замежных справаў Польшчы пана Скубішэўскага (у рэзыдэнцыі).

15.30 — Ад'езд дэлегацыі ў Сэйм.

15.45-16.20 — Сустрэча з маршалам Сэйму панам Хшаноўскім.

16.25-16.55 — Сустрэча з маршалам Сэнату панам Хелкоўскім.

17.00-18.00 — Сустрэча з польскімі парлямэнтарамі.

18.10 — Ад'езд у рэзыдэнцыю.

18.25-19.00 — Сустрэча зь міністрам зьнешняга гандлю панам Глапіньскім.

19.12 — Ад'езд афіцыйнай дэлегацыі ў Бэльвэдэрскі палац.

19.15-20.45 — Афіцыйны абед у гонар Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіча ад імя Прэзыдэнта Рэспублікі Польшчы Л.Валэнсы.

(Зь беларускага боку запрошаныя: усе члены афіцыйнай дэлегацыі + В.Лазерка; астатнія члены дэлегацыі вячэраюць у рэстарацыі гатэлю «Паркавы»).

Перад абедам ў асобнай залі падаюць апэрытыў.

Да пачатку абеду госьці займаюць месцы за сьпінкамі крэслаў.

Выкананьне дзяржаўных гімнаў.

Абмен тостамі ў канцы абеду пасьля падачы шампанскага.

Каля 20.50 — Ад'езд у рэзыдэнцыю.

24 чэрвеня, серада

7.00 — Сьняданак у рэзыдэнцыі.

7.30 — Ад'езд у аэрапорт.

7.50 — Вылет у Кракаў.

8.30 — Прыбыцьцё ў Кракаў.

8.45 — Ад'езд у Асьвенцім.

9.30-10.25 — Наведваньне Асьвенціма (ускладаньне кошыка з кветкамі). Кошык прадстаўляецца польскім бокам за наш кошт, стужка — беларускім бокам).

10.25 — Ад'езд у Бжэзінку.

10.35-11.00 — Наведваньне Бжэзінкі. (Ускладаньне кошыка з кветкамі).

11.00 — Ад'езд у Кракаў.

12.00-12.30 — Сустрэча ў Кракаўскім ваяводзтве.

12.30-13.15 — Культурная праграма.

Заўвага: Пра ўскладаньне кветак да магілы А.Гаруна і да мэмарыяльнай дошкі Ф.Скарыны будзе паведамлена дадаткова.

13.15-14.30 — Сьняданак ад імя кракаўскага ваяводы ў гатэлі «Вержынск».

14.40-15.40 — Наведаньне Вавельскага замку.

15.50-17.00 — Сустрэча і выступ С.Шушкевіча ў Кракаўскім унівэрсытэце.

17.00 — Ад'езд у аэрапорт.

17.20 — Вылет у Варшаву.

18.10 — Прыбыцьцё ў Варшаву. (Самалёт вылятае ў 19.10 ў Гародню).

18.35 — Прыбыцьцё ў рэзыдэнцыю.

19.30 — Абед ад імя ... (пакуль не ўдакладнена).

25 чэрвеня, чацьвер

8.00 - Сьняданак у рэзыдэнцыі.

8.45 — Ад'езд дэлегацыі ў Бэльвэдэрскі палац.

8.56 — Ад'езд С.Шушкевіча ў Бэльвэдэрскі палац.

8.58 — Афіцыйная цырымонія праводзінаў.

9.15 — Ад'езд у Беласток.

Каля 12.00 — Прыбыцьцё ў Беластоцкае ваяводзтва.

12.00-12.45 — Сустрэча ў Беластоцкім ваяводзтве.

12.45 — Ад'езд у гатэль «Лясны».

13.00-14.00 — афіцыйны сьняданак ад імя Беластоцкага ваяводы пана Пруціса.

14.30 — Ад'езд у Супрасль.

14.50-15.20 — Наведваньне манастыра.

15.20 — Ад'езд з Супрасьля ў Гайнаўку.

16.50 — Прыбыцьцё ў Гайнаўку.

16.50-17.10 — Наведаньне музэя беларускай культуры.

17.15-17.50 — Наведаньне праваслаўнага сабору.

17.50 — Ад'езд у Бельск-Падляскі.

18.20-18.30 — Наведаньне ліцэя з выкладаньнем беларускай мовы.

(Сымбалічная перадача літаратуры).

18.30 — Ад'езд у Беласток.

19.20-20.20 — Сустрэча з прадстаўнікамі беларускай грамадзкасьці.

20.20-21.15 — Прыём у Беластоцкім ваяводзтве.

21.20-22.20 — Ад'езд і прыбыцьцё ў Кузьніцу-Беластоцкую. (Машыны чакаюць на баку польскай мяжы).

22.25-22.50 — Ад'езд і прыбыцьцё ў аэрапорт Гародні.

23.00 — Вылет у Менск.



## КАМПЛЕКТ МАТЭРЫЯЛАЎ ДА АФІЦЫЙНАГА ВІЗЫТУ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА Ў ПОЛЬШЧУ

**Лех Валэнса**

Прэзыдэнт Рэспублікі Польшча

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў беднай сялянскай сям'і. У 1961 годзе скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум. Паводле спэцыяльнасьці — электрык.

У 1961-1963 г. працаваў электрамэханікам, у 1965-1967 г. служыў у войску, з 1967 па 1976 г. — рабочы на судаверфі ім. У.І.Леніна ў Гданьску.

У сьнежні 1970 г. увайшоў у склад страйкавага камітэту судвэрфі, зьяўляўся арганізатарам і старшынём міжзаводзкага страйкавага камітэту ў Гданьску.

У жніўні 1980 г. — старшыня рэгіянальнага праўленьня «Салідарнасьці» ў Гданьску, Усяпольскай каардынацыйнай камісіі гэтага прафаб'яднаньня.

Пасьля ўвядзеньня ў 1981 г. ваеннага становішча быў інтэрнаваны. Вызвалены ў лістападзе 1982 г.

Да легалізацыі «Салідарнасьці» ачольваў ейныя падпольныя структуры ў барацьбе з

# ЭПІКОН

### Зьмітрусь Бабровец

## МЭТАЛЁВЫ КРЫВАСМОК

Бы ўчадзелы, стаяў ён адзін сярод шэрае раніцы. Кроў бунтавала, пульсавала, білася ў скроні; згуслае паветра колам стаяла ў грудзёх — ён хэкаў, хапаў ротам задушна-густую ртуць. Думкі зьляцелі, адно адчуваньне канца сьвідравала ягоны мозаг. Гэты дзень быў яго апошнім...

З жоўтага, зьмізарнелага, вартага жалю аблічча сьцякалі надзіў чыстыя, празрыстыя сьлёзы, мяшаныя з крывёю, што лілася з адкусаных вуснаў. Яны выдавалі рубінавакалёрны, выкшталцоны, п'янкі напой, які глынала бязь меры згаладнелая зямля. Яна хацела жыць...

Адчуваньне канца мацнела разам з мэталёвым, пагрозьліва-сьвідроўным, цяжкім гудзеньнем. Гэтым гукам быў голас Мэталёвага Крывасмока.

Валасы ўставалі дыбарам, нешта адрывалася ў ягоным нутры; цела рабіла рухі — ён бег, ён цягнуўся, ён поўз з астатніх сілаў, адольваў супраціў іртутна-цяжкога паветра. Ён задыхаўся.

... Гук сталёвых крылаў набліжаўся; паветра, набрынялае жахам, калацілася, адціскаючы апошнія кроплі сьвядомасьці зь ягонае спалатнелае йстоты. Кроў, хутка чарнеючы, выцякала з рота яго, скварчэла, курчылася, вілася зьмейкаю, даўгой істужкай. То быў нэктар — харчаваньне Мэталёвае Пачвары. Астатні крок зрабіў ужо не самім сабою...

Бліскучая, агромністая, калатліва-агідная здань засланіла сабой шэры далягляд. Мэталёвы Крывасмок прымаў чарговую ахвяру.

### Алесь Белы

## ЧАС І ВЕЧНАСЬЦЬ

Вечар, такі самы, якіх за жыцьцё праляцела тысячы. Ноч, якая прыйшла паціху, крочачы сэкундавай стрэлкай, пераступаючы праз прыгожа намаляваныя лічбы.

Жыцьцё стала такім хуткім, што не хапае сэкундаў. Яны здаюцца такімі кароткімі, нават карацейшымі за імгненьне. А сэрца б'ецца яшчэ хутчэй, нібы ў прадчуваньні чагосьці.

Музыка льецца кудысьці. Ноты, гукі пачынаюцца і тут жа, раптоўна і недарэчна, зьнікаюць. Іх немагчыма схапіць, адчуць і толькі пасьля адпусьціць. Можа, з-за празьмернай хуткасьці мэлёдыі і б'ецца, як шалёнае, сэрца...

Надакучыла мераць час... Гэтыя дні, тыдні, месяцы — усяго толькі імгненьні, якія цяжка заўважыць, схапіць, адрозьніць адно ад аднаго. Навошта ж тады прыдумляць розныя назвы, калі ўсё роўна існуе толькі Вечнасьць, адзіная і бясконцая. Вечнасьць, якую немагчыма падзяліць, якую па-сапраўднаму можна адчуць толькі цалкам?..

Ноч аднойчы сказала, што хоча стаць вечнай. Яна сапраўды больш вечная за дзень. Яе цяжэй разрэзаць на кавалкі, бо няма той тоўстай і чамусьці круглай стрэлкі — Сонца, якое ўвесь час, пакуль плыве па небе, настойліва крычыць пра тое, колькі яшчэ засталося чакаць. Ноч — адзіная, чорная і бясконцая. Бясконцая таму, што неба ўначы — не маляванае танным блакітам, а глыбокае, глыбокае да абсалюту. Нават аблокі ўначы з ватных дэкарацыяў ператвараюцца ў нешта бясконцае, каб не замінаць думцы.

А думка — таксама вечнасьць. Думкі не ўзьнікаюць у нашым розуме, гэта наш розум, блукаючы па бясконцасьці, натыкаецца на іх. Усё роўна як наш позірк блукае па бясконцай пустаце начнога неба, прыпыняючыся на зорках і спрабуючы іх разгледзець і зразумець.

Памяць калі-небудзь скончыцца, бо яна пачалася. Памяць — гэта ня думкі, памяць — яшчэ адна мера часу. Але часу няма, то і памяці — таксама. Час існуе непрацягла, таму і памяць —імгненная...

Усё, што калісьці пачалося, калі-небудзь скончыцца. І застануцца толькі Вечнасьць, думкі і Ноч.

### Галяк

## АХВЯРА

Ён ня ведаў, што рабіць. Цела было ў нейкай непрытомнасьці, як нежывое. Працавала толькі думка, ды яшчэ неяк незвычайна, не па-людзку. Не хацелася нічога. Нават жыць... Ужо даўно ўсё страціла сэнс, а цяпер яшчэ гэты ліст...

Кажуць, што самы страшны суд (ва ўсялякім разе, на Зямлі) —гэта суд свайго сумленьня, якое адначасова і пракурор, і адвакат, і судзьдзя. Тут ужо ня зманіш. Цяпер Ён ведаў гэта дакладна, таму што працэс ужо распачаўся.

Празь нейкі час Ён ужо ведаў прысуд. Марудзіць з выкананьнем было ня варта...

У гэты час Яна сядзела на канапе ў сваім пакоі і думала пра сына, якога нарадзіла за тры гады да сустрэчы зь Ім. Хлопчык быў цудоўны. Але гэта нічога не мяняла — Ягоныя бацькі й чуць нічога не хацелі пра шлюб свайго сына з жанчынай, якая мае дзіця...

Каля Ягонага цела знайшлі незвычайнага ўзору капэрту й ліст:

«Чытай і запамінай. Хаця б гэтак, таму што зьмяніцца, выправіцца, ты, напэўна, ужо ня здольны. Дык вось слухай.

Ты можаш жыць як хочаш, але, перагортваючы старонкі свайго існаваньня, не кранай, не чапай тых, хто лепшы за цябе, хто чысьцейшы за цябе, хто прыгажэйшы за цябе. Ведай сваё месца.

Ты пакахаў жанчыну, але ня здолеў у гэтым каханьні дайсьці да канца. Ты зрабіў выбар на карысьць бацькоў і грамадзкае думкі. Ты думаў, што гэты выбар правільны...

Ты памыліўся. Ты памыліўся гэтаксама, як жаўнер, што перамог сябе і выканаў злачынны загад. Гэтага жаўнера судзіць уласнае сумленьне за нявінна забітае дзіця — кожную ноч ён бачыць чыстыя вочы ахвяры, а ты... — ты забіў каханьне. І не даюць табе спакою вочы каханай жанчыны.

Гэты суд над табой будзе цягнуцца вечна, пакуль існуе твая дробная душа. Дык вось і жыві гэтак, з праклёнам!

Каханьне».

### Вольга Колас

## СЬВЯТЛО ЗІМОВАГА ЛІХТАРА

Холад прасочваецца праз шыбы і астуджвае кватэру, дзе жывуць людзі, якія ніяк ня могуць сагрэцца. Холад падобны да камарынага рою, што, прабраўшыся праз шчыліны драўлянай хаткі, нападае на сонную ахвяру. Але тады — лета, сьвятое сонца з залатым німбам вакол гладкай акуратнай галавы і з рукамі, складзенымі ў вечным маленьні, і ўзгоркі разбуджанага возера, і цёплая трава пад босымі стапамі.



***

Раніца. Паўпусты прастуджаны тралейбус праяжджае па бязьлюдных замарожаных вулках. А там, наверсе, пасьцяліўшы шэра-хмарны абрус, сонныя анёлы папіваюць гарачую каву. Зь іх кубкаў разьвяваецца пара, яна далятае нават да зямлі.

***

Ліхтар на ранейшым месцы, але ўжо ў зімовым марозным паветры. Яго жоўтае сьвятло расьсякае цемру кругам, куды ўскоквае драбнюткі сьнег. Я ў цемры, ля гультаяватага фантана, што некалькі гадоў, як скончылася маё дзяцінства, ня дыхае і не жыве, а толькі маўчыць.

Зьнямелы фантан, што згубіў свой калісьці гучны голас. Круглы, стары, акружаны кветкавымі рассадамі. Але зараз усё пад ільдом і сьнегам. Ліхтар, цемра і я. І горад побач. Побач перакрыжаваньне... людзей, машын, дарог. Там — крамы, размовы, рух. А тут усе адзінокія, адмежаваныя ад усяго. Прыпынак у часе. Працягненьне ліхтаровага сьвятла.

### Сяргей Конан

## ЧАС

На разьвілцы дзьвюх дарог стаяў стары магутны дуб. Некаторыя сукі ўжо зьмярцьвелі і выдзяляліся сваёй ссохласьцю між жывых галін. Пад дубам гуляў маленькі хлопчык. Ён шукаў апалыя жалуды, уяўляў іх жаўнерамі і ставіў у шэрагі. Адзін, другі.

Дуб меў шмат дзетак, таму хлопчык валодаў вялізным войскам, якое будзе нерухома стаяць да зімы, да тае пары, калі іх схавае белая замець. Хлопчык не зьвяртаў ні на што ўвагі. Дарога жыла сваім жыцьцём, ён быў як у іншым сусьвеце, дзе не адчуваецца час.

Але час ішоў.

Там, дзе перасякаліся дзьве дарогі, паміраў стары дуб. Ён напалову ўжо ссох. Пад дрэвам сядзеў юнак, які марыў аб сустрэчы з каханай.

Вечар, месячык вісіць над галінамі. З-за дрэва выходзіць Яна. Прыгожая, мілая, зьлёгку чароўная. Ён кідаецца насустрач. Словы, усьмешкі, пацалункі. Так добра быць у каханьні. І нішто не турбуе, нічога не адчуваецца, акрамя шчасьця, што між імі.

Час няўмольна рухаўся.

Дзьве дарогі зьбягаліся ў кропку сустрэчы, а потым кіраваліся кожная сваім шляхам. Побач стаяў ссохлы, некалі магутны дуб. Мужчына, ужо ў сталым веку, сядзеў і пісаў нешта ў нататнік. Часам усхопліваўся, нецярпліва хадзіў вакол дрэва. Нешта шукаў і знаходзіў, кідаўся да самапіскі, шчыраваў над старонкамі сваёй працы. Чалавек пісаў успаміны. Хоць ён ня быў стары, але ў душы сталі прабівацца ссохлыя галіны. Ён баяўся забыць нешта, ня ўбачыць за ходам часу важкае і неабходнае.

А час ішоў.

Паваленае дрэва ляжала ўздоўж адной з дарог, што сыходзіліся тут. Больш дробныя галіны ўжо тачыла цьвіль, але ствол быў яшчэ амаль не пашкоджаны.

Ля паваленага дрэва стаяў стары. Ён глядзеў у даль, а перад вачыма стаяла войска з жалудоў, аднекуль выплывала маладая дзяўчына, а вецер гартаў старонкі сшыткаў. За гэтаю явай стаяў прывід прыгожага і магутнага дрэва.

Вакол узьнімалася зіма, паваліў сьнег, вецер ускаламуціў усё і зацягнуў выцьцё. Завіруха. Стары стаяў, сьнег падаў. Усё вышэй і вышэй станавіліся сумёты.

Калі прыйшла вясна, з-пад талага сьнегу паказаўся груд зямлі, над ім узвышаўся дубовы крыж. Дзе-нідзе расьлі маладзенькія дрэўцы.

Час ішоў сваім шляхам.

### Крысьціна С.

## СЭНС ЖЫЦЬЦЯ

Яна ўбачыла ў вакенцы хуткага цягніка сваё шчасьце і сышла на наступным прыпынку, каб дакрануцца да яго. Знайшла яго ў полі, у сьнезе — сьляпое куцянятка, цёплае, маленькае, нязграбнае. Яна прытуліла яго да сэрца і аддала ўсё, бо жыла дзеля гэтага.

А цягнік пайшоў далей...

Куцянятка стала барбосам — моцным і ўпэўненым і засланіла сабой яе, зьнясіленую і нікчэмную. Аднойчы каля іх спынілася шыкоўнае аўто, і невядомая клікнула: «Я за табой, пасьпяшайся, хопіць тут адплачываць!» І ён ускочыў і пабег, высалапіўшы язык і матляючы хвастом; нават не заўважыў, як утаптаў яе ў сьнег.

А цягнік даўно ўжо зьнік за далягдядам...

### Гайда Лоон

## МЕСТА

Менск, Менск, Менск... Роднае места. Было... Менавіта «было»... Часам, якім яшчэ далёка было да нейкае сьвядомае беларускасьці, Менск успрымаўся як дадзенасьць тым сваім выглядам. Тое была, пэўна, кропка адліку асабістага назіраньня зьнікненьня, сыходу Места ў месца пражываньня. А датуль, часьцяком ідучы старымі вулкамі, адчуваў нейкія энэргетычныя плямы. Плямы нясканчанасьці, глыбокае неадлаведнасьці. Наяўнасьць пэрспэктывы, будучае жыцьця старых будоваў падсьвядома цешыла розум. Прыемна было быць сярод гэтых таямніцаў. Кальварыя... Залатая Горка... Няміга... Плошча Свабоды... Верхні Горад... Татарскія Гароды... Зламаныя вулкі, брук пад нагамі, з дамоў патыхае гісторыя Места. Места бяз штучнага патасу. Места з традыцыяй. Агульная цэльнасьць. Паміж цаглінаў схаваны пыл стагодзьдзяў. Менск жыў калісьці... Далей быў плот ды гурбы друзу сярод адабраных пабудоваў. Шкілеты іх, здаецца, стагналі проймамі праз уваходы, вачніцы былых вокнаў. Пад нагамі патрушчаная цэгла з адбіткамі заводу-вытворцы ды годам ейнага вырабу (канец таго стагодзьдзя). Мо, тое аскепкі душы дамоў, вуліц. Зьвезлі тое сьмецьце, і зьнік чарговы культурны пляст з археалягічных наслаеньняў Менску. Замазалі шчыліны, абгарнулі дамы цукеркавай паперкай-атынкоўкай. Частку зруйнавалі ды пахавалі ў зямлю. Нечым усё гэтае стала падобнае на саркафаг. Саркафаг ад Старога Места, ад Несавецкага Менску. Ды толькі трохі засталося «нашых» мясьцінаў, дзе чуеш — нешта ёсьць яшчэ ад тога. Душа астатняга нібыта й сьпіць пад покрывам. Ды прыйдзе час, як абрыдне шэрае кубавіньне гмахаў, зьявіцца патрэба ў мясцовых людзях і нечым адмыслова сваім, сваім спрадвеку, і прачнецца Горад, старыя «плямы» адрадзяцца нанова. Запоўніць наваколле дух жывых стагодзьдзяў і гарадзкія жыхары зноў стануць Жыхарамі. І Места зноў набудзе свой назоў, што імем ёсьць спрадвеку. Сапраўдны Менск.

P.S. Насіма ж у грудзёх кавалкі нашых Менскаў! Каб узяць было адкуль цагліны адбудовы!

### Руслан Равяка

## БЛЯКАДА

Да мяне падышло тры чалавекі, калі я стаяў у чарзе, трымаючы ў руцэ карткі, пашпарт, даведкі зь месца жыхарства і месца працы ды дазвол мэрыі на атрыманьне ў гэтым месяцы сваёй пайкі.

Незнаёмцы падступіліся да мяне бліжэй і ціха спыталі:

— Чацьвертым будзеш?

Толькі да дзьвярэй крамы стаяла з паўсотні людзей, і я згадзіўся быць чацьвертым, папярэдне заняўшы чаргу «завочна».

Праз тры кварталы мы зайшлі ў адзін з астыглых ад недахопу паліва аўтобусаў, што месьціліся ўздоўж дарог. Тамака чалавек са шнарам на левай шчацэ моўчкі раздаў нам схаваныя за пасам пісталеты. Сабе ж ён пакінуў невялікі аўтамацік.

Мы пахаваліся за старымі машынамі, што стаялі паабапал дарогі, гэтак, каб мець магчымасьць весьці скрыжаваную стральбу.

Хвілін празь пяць зьявіўся эскорт. Але ён быў прапушчаны —вельмі шмат для чатырох чалавек.

Яшчэ праз тры хвіліны, усьлед за тымі, несься яшчэ адзін аўтамабіль.

Выбух гранаты, кінутай чалавекам са шнарам, спыніў на імгненьне рух машыны і, падкінуўшы яе ўгару, паклаў на асфальце дагары коламі.

З машыны ў бок незанаёмца зь непрыгожым, парэзаным тварам панесьліся дзьве чаргі.

Мы стрэлілі колькі разоў па машыне, арыентуючыся на нешта чарнаватае і жывое ўсярэдзіне лімузыну. Потым кінуліся туды.

Мне дасталася ялавічына ды кавалак масла, укручаны ў паперу.

Разьбягаючыся, каб ніколі больш не сустрэцца, мы пацiснулі рукі. Праходзячы каля ніцма распластанага чалавека са шнарам, я падхапіў з крывавай лужыны аўтамацік.

Мая чарга, калі я вярнуўся, прасунулася чалавекаў на пяцьдзясят. Недзе каля вечара я здолеў нарэшце атрымаць сваю лусту хлеба і пацягнуўся дахаты, мяркуючы, дзе заўтра зрабіць новы напад. Відаць, прыйдзецца ўзяць з сабою аднаго-двух незнаёмцаў зь якоенебудзь чаргі...

***

Увечары, калі я сядзеў каля тэлевізара, у якім выступаў Галоўны Паліцэйскі міністар краіны, да мяне затэлефанаваў шэф з маёй працы. Ён паведаміў, што заступае на месца забітага сёньня міністра і бярэ мяне ў сваю каманду.

Згоды ў такіх выпадках не пытаюцца.

Значыцца, заўтрашняя апэрацыя не адбудзецца, бо зьнікнуць з майго жыцьця чэргі, карткі і даведкі...

Я падпаліў адразу ж некалькі незалежна-замежных газэтаў, што некалі трапілі да мяне, выкінуў у сьметнік забароненую кнігу, якая засталася яшчэ ад майго дзеда-нацыяналіста. Мне пашэнціла! Нашто ж спакушаць цяперака свой лёс.

Але зброю сваю я ня кінуў — трэба ж чымсьці бараніцца ад згаладнелых і фанатычных тэрарыстаў.

Галоўны Паліцэйскі міністар краіны папярэджваў усіх штовечар...

### Юры Чарнякевіч

## ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ

Заўсёды, калі Сяргей зьбіраецца на працу, ён спрабуе ні пра што не разважаць. Калі-нікалі яму гэта ўдаецца. Але, на жаль, ня больш, чым на хвіліну.

Кінуўшы позірк на гадзіньнік, ён спрытна апрануў «жалезнае адзеньне», выйшаў з кватэры і зачыніў дзьверы.

Па-сапраўднаму кажучы, «жалезнае адзеньне» не было жалезным, а было лёгкім, гнуткім і, галоўнае, — ня бачным воку іншых людзей. «Жалезным» гэтае адзеньне Сяргей назваў тады, калі яму споўнілася 18 гадоў. Менавіта ў дзень ягонага паўналецьця бацькі нарэшце зрабілі яму такі доўгачаканы і прыемны падарунак.

Калі, дыхаючы халодным паветрам, Сяргей падыходзіў да вялікага і знаёмага будынка і ўбачыў чалавека, які стаяў і нібыта чакаў кагосьці, дык ужо ведаў, што чакаюць яго, і што гэта чалавек, які ўчора таксама быў тут, без абарончай абалонкі. За нядоўгі час Сяргей пачаў адрозьніваць такіх вось «безжалезьнікаў» ад тых людзей, да якіх адносіў і сябе.

Учора чалавек глядзеў на яго. І ўсё. А сёньня, калі ён абмінаў незнаёмага, той сказаў:

Я няспынны робат. Без пачуцьцяў...

Болей Сяргей не пасьпеў ужо пачуць. Адчыніў цяжкія дзьверы і ўвайшоў у цемру памяшканьня, дзе амаль адразу ператварыўся ў безгалосую службовую адзінку жалезнага мэханізму.

*Тры сцэнары зімовага жыцьця*

# Наша Пані памерла

Калі я быў яшчэ маленькім ды хадзіў у школу, то кожнае лета станавіўся сталым жыхаром піянэрскага лягера «Кіравец» пад Магілёвам. І калі бясконцы дождж ператвараў нас у закладнікаў, вымушаных сядзець у вільготных палатах, у якіх ужо празь дзень пачыналі цьвісьці самыя чэрствыя сухары, ад нуды ратавала толькі Наша Пані.

Наша Пані — гэта такая гульня. Дзіўная, змрочная, чароўная гульня, якая давала нам, дзецям-падлеткам перажываньні, якія па сёньня зьдзіўляюць сваёй сапраўднасьцю.

Сцэнар просты. Трэба было набраць шэсьць ахвочых у адным пакоі, ссунуць два ложкі. Выбраць аднаго з ахвочых на ролю Пані. Ён клаўся на ложак, заплюшчваў вочы, складаў на грудзёх рукі, не раўнуючы як нябожчык. Усе астатнія кленчылі каля яго, і падкладалі па два пальцы рук пад нерухомае цела Пані. Вылучылася сьвятло, і адзін з удзельнікаў пачынаў рытуал. Ён прамаўляў замагільным голасам: «Наша Пані памерла...» Мы падхоплівалі гэтую фразу, і па чарзе паўтаралі: «наша Пані памерла». Вядучы цягнуў далей: «Але мы яе хаваць ня будзем. Хай яе хаваюць злыя духі. Хай яна стане лягчэй за лебядзіны пух. Амэн». Кожная з гэтых фразаў каціласе рэхам: «Але мы яе хаваць ня будзем...» Пасьля апошняга слова, лёгка, як пярынку, на двух пальчыках, падымалі цела Пані ўверх. Мне ўсяго пару разоў давялося пабыць у ролі нябожчыцы. Уражаньне ад імклівалёгкага пад'ёму да столі, калі вочы самі расплюшчваліся ад сполаху, калі цела забываецца на існаваньне зямнога прыцягненьне й імкнецца дагары. На нейкі час яно завісае ў паветры. У гэткім стане ты знаходзісься ўсяго нейкую хвілю. І рэзка падаеш на рыпучыя спружынныя ложкі, засланыя вільготнымі матрацамі.

Пошук сэмантыкі гэтага змрачнаватага рытуалу сёньня бачыцца мне заняткам безнадзейным. У гэтым я пераканаўся сёлета на Каляды, калі ўгаварыў сваіх сяброў аднавіць дзіцячую прагу бязважкасьці. Згадзіліся больш чым ахвотна. Вылучылі сьвятло, сумленна паўтаралі завучаны тэкст, усе паспрабавалі сябе ў ролі памерлай Пані. Толькі целы ніяк не хацелі адрывацца ад ложка. Нехта пажартаваў: «Відаць, Пані, закапалі бяз нашае згоды». А пасьля яшчэ доўга й нудна тлумачылі пра Пітэра Пэна і пра пакінутую ў дзяцінстве магчымасьць лётаць.

Мой настрой сапсаваўся. Так псуецца ён ад усьведамленьня таго, што ў нашай хаце разам пасьля сьмерці дзеда, відаць, назаўжды страчаны рэцэпт прыгатаваньня квасу з чайнага грыба, як не хапае калючых літараў армянскага альфабэту лістоў маёй бабулі. Прыкра тое, што гэтыя сэнтымэнты нейкія беспадстаўныя. Бо я ніколі ня быў аматарам квасу з чайнага грыба, і па гэты дзень не навучыўся чытаць па-армянску. Але, калі зімовы віленскі дождж перастае быць гіпэрбалаю, і падымацца раніцою ня бачыцца ніякага сэнсу, я проста ляжу ў ложку з заплюшчанымі вачыма й паўтараю як заклён: «Наша Пані памерла, але мы яе хаваць ня будзем. Хай яе хаваюць злыя духі. Хай яна стане лягчэй за лебядзіны пух. Амэн».

**Андранік Антанян**

# На мове народа

Доўгажывучасьць любой культурнай зьявы, ня толькі тэатральнай, заўсёды выклікае захапленьне. Тым больш, калі гэтай зьяве за 200 гадоў.

Днямі на сцэне Менскага Палаца чыгуначнікаў адбыўся 250-ты юбілейны спэктакаль Малога тэатру «Камэдыя». У залі на тысячу месцаў быў аншляг. Як заўжды на гэтым модным спэктаклі. Модным у самым снабісцкім гучаньні слова. У фае можна было сустрэць дзяржаўных чыноўнікаў, мясцовых тэлезорак і актораў зь іншых тэатраў. Як зазвычай, было шмат студэнцтва. Таксама немалую частку публікі складалі тыя, для каго «Камэдыя» сталася нечым накшталт культу і хто наведвае яе калі не 250-ты, дык пэўне ж дзясяты раз. Прычым, што цікава, аўдыторыю «Камэдыі» складае пераважна публіка, не заангажаваная беларушчынай. Дык адкуль ажыятаж?

Сюжэт камэдыі стары, як сьвет: селянін Дзёмка, што марыць аб райскім жыцьці, ідзе ў заклад з д'яблам. Ад Дзёмкі патрабуецца толькі адно — на працягу гадзіны не прамовіць ні слова. Кошт закладу таксама вядомы — з аднаго боку грошы, зь іншага душа. Не вытрымліваючы гэткага складанага выпрабаваньня, Дзёмка пасьля кожнае няўдалае спробы выпраўляе да д'ябла ў пекла спачатку сварлівую жонку, пасьля — надакучлівага жыда. Гісторыя ж самога спэктакля нічым не саступае ў інтрызе ягонаму зьместу.

У канцы XVIII ст. беларускі драматург Каэтан Марашэўскі напісаў п'есу з адмыслова неарыгінальнаю назвай «Камэдыя», якая была тады ж і пастаўленая тэатрам Забэльскай дамініканскай калегіі. Праз сто гадоў, у пачатку XX-га ст. Францішак Аляхновіч абсучасьнівае старую п'есу, пакідаючы толькі чатырох асноўных дзейных асобаў: селяніна Дзёмку, ягоную жонку Маланку, Жыда-арандатара ды Чорта. Падчас беларускае культурнае адлігі 90-х менскі драматург і рэжысэр Уладзімер Рудаў даводзіць гучаньне старой п'есы да ўнісону з новым часам і супольна з Андрэем Андросікам ставіць яе, як студэнцкі спэктакаль, у Беларускай Акадэміі Мастацтваў. Што з гэтага ўсяго атрымаецца, ня сьнілі ні Рудаў, ні Андросік, ні тым больш Марашэўскі з Аляхновічам.

Чуткі пра надзвычай сьмешную камэдыю на курсе Андросіка пайшлі па сталіцы й заля вучэбнага тэатру ўсё больш запаўнялася пабочнаю публікай. З выпускам таго курсу паўстала пытаньне пра сьмерць «Камэдыі». Але махавік раскруткі ўжо запусьціўся. Яго запусьцілі ня грошы, не кан'юнктура, але перш за ўсё нежаданьне аўтараў праекту адмовіцца ад такога нечаканага першага посьпеху і сустрэчнае нежаданьне публікі разьвітвацца з аднойчы пакаштаваным. Аўтары й публіка надоўга знайшлі адзін аднаго, што ўвогуле адбываецца рэдка. Спэктакаль пераходзіць на сцэну расейскамоўнага Альтэрнатыўнага тэатру, патроху становіцца ледзь не галоўнаю разынкай далёка ня беднага рэпэртуару і разам з прафэсійным лоскам набывае новыя цікавыя рысы. Актор Ігар Забара, выканаўца ролі д'ябла, не перайшоў на мову твору, ад чаго твор толькі выйграў. Дзьве гадзіны абаяльна-шапялявы расейскі чорт тлуміць нашаму чалавеку галаву, маючы на мэце ягоную цнатлівую беларускую душу. Пазбаўляючы Дзёмку каханае жонкі ды лепшага сябра-жыда. І калі яшчэ з такім імпэтам менская публіка хадзіла ў беларускі тэатар адмыслова на выканаўцаў? Перш-наперш на Чорта-Забару й Жыда-Жураўкіна. Прычым, спэктакаль быў настолькі ладна зьбіты, што яго з посьпехам можна было даваць як у сельскім клюбе, так і ў найт-клабе. Дэкарацыяў амаль няма. Яркі, ледзь ня клёўнскі грым пэрсанажаў, і, галоўнае, тэкст, які дазваляе акторам удосталь наімправізавацца й пастаянна трымае гледача ў стане чаканьня нечага яшчэ больш сьмешнага й дасьціпнага. Колькі разоў я чуў пасьля ў самых розных сытуацыях — жыдава «Дзёма, калі аддасі?» ці чортава «Люцыфэр, для вас проста Люсік». Як сьцьвярджае Забара, мова спэктаклю ня стала перашкодаю для піцерскага, львоўскага, познаньскага ды эдынбурскага гледача.

Калі закрыўся «Альтэрнатыўны», не аднаго мяне наведаў сум разьвітаньня з гэтым спэктаклем. Куды я заўжды цягнуў усіх сваіх сяброў ды гасьцей ці то з Расеі, ці то з Украіны, будучы ўпэўненым у эфэкце, атрыманым імі ад беларускага тэатра, як кажуць, на ўсе сто. Але зьяўляецца ўжо нейкая добрая заканамернасьць у жывучасьці таго, што радуе нас па-беларуску. Невядома, якім чынам і дзякуючы якім грошам, выступаючы на розных, іншым разам на далёка ня лепшых пляцоўках, тэатар Ігара Забары працягвае жыць пад імем «Малога». Мне здаецца, дзякуючы перш за ўсё «Камэдыі». На кожным спэктаклі якой зьяўляюцца ўсё новыя моманты для глядацкіх авацыяў. «Ніколі раней мы не зрывалі такіх авацыяў на дыялёгу Чорта й Жыда, —распавядаў мне Забара, — калі Жыд, расьпісваючы свайго бацьку, як амаль што сьвятога чалавека, перапыняецца д'яблам. — Маісей? — Маісей. — З пэйсамі? — З пэйсамі. — У нас твой бацька... І ніколі не было такіх воплескаў на рэпліку Дзёмкі да іншамоўнага чорта: «На маёй тэрыторыі прашу размаўляць на мове народа».

Кожнага разу пасьля чарговага прагляду «Камэдыі» я гатовы ісьці ў заклад зь любым д'яблам наконт таго, што спэктакаль дажыве й да 500-га паказу, а сам я дажыву да той тэрыторыі, дзе й чэрці па-за межамі глядзельнае залі вымушаныя будуць перайсьці на мову народа.

**Зьміцер Бартосік**

# Да пытаньня пра ўсходнеславянскае адзінства

... Мінулы год быў адзначаны нечуваным усплескам «усходнеславянскае» рыторыкі ў культурным жыцьці Беларусі. Музэі, тэатры, выставачныя залі і эстрадныя сцэны хваля за хваляю залівала «славянская» арыентацыя. Дыяпазон узроўню гэтых акцыяў быў разнастайны: ад настальгічна-савецкага фэстывалю песьні «Залаты шлягер» у Магілёве да абсурдальных дзён Мурманскае вобласьці, падчас якіх па райцэнтрах вазілі ансамбаль «Славяне», а ў Музэі Айчыннай вайны (!) наладзілі мастацкую выставу мурманцаў. На выставу я не схадзіў, а таму ніяк не магу сабе ўявіць, па суседзтву зь якімі экспанатамі разьвесілі мастацтва Запаляр'я і на што ва ўсім гэтым быў намёк.

Затое я выпадкова патрапіў на выставу мастака Кузьміча «Славянскія мадоны», якую наведаў, асобна ад мяне, і Лукашэнка. Прамінуць было немагчыма ўжо з тае прычыны, што і ў Палацы мастацтва, і ў Нацыянальным мастацкім музэі ў аднachасьсе адбываліся дзьве пэрсанальныя выставы Кузьміча. Гэткага гонару ня мелі нават народныя ці проста таленавітыя мастакі. За гісторыю Беларусі гэта першы выпадак. Адміністрацыі музэяў ужо тонка адчуваюць спэцыфічныя густы галоўнае Адміністрацыі. «Славянская» ліхаманка выставаў ахапіла нават КГБ, дзе ў клюбе Дзяржынскага экспанаваліся тэатральныя лялькі з калекцыі слыннага расейскага лялькавода Абразцова... Трэба прызвычайваць сябе не зьдзіўляцца.

Толькі падумаў пра гэта і не ўстрымаўся ад чарговага зьдзіўленьня. Патрапіў мне на вочы чарговы «славянскі» падарунак. Ужо сёлета ў Гомелі, у адзіным у краіне Ўнівэрсытэце транспарту, вырашылі правесьці Міжнародную маладзёжную канфэрэнцыю. Праўда, транспарту яна не датычыць. Адбудзецца яна ў красавіку і будзе мець эпахальную, як і мае быць на міжнародных канфэрэнцыях, назву: «Восточнославянское единство в прошлом, настоящем и будущем». Апроч транспартнага ўнівэрсытэту, арганізатарамі выступаюць Гомельскі навуковы Цэнтар імя Кірылы Тураўскага і Таварыства Кірылы Тураўскага.

Падрыхтоўка ў разгары. Ва ўсе навучальныя ўстановы разасланыя ўмовы гэтае акцыі. Як заяўляецца, да ўдзелу ў канфэрэнцыі запрашаюцца маладыя навукоўцы (да 35 гадоў), асьпіранты, студэнты і, што, на думку арганізатараў, самае істотнае — актывісты і ўдзельнікі маладзёжных рухаў... Прапануюцца наступныя накірункі «работы»: «проблема славянского единства в литературном наследии Кирилла Туровского, исторические корни восточнославянского единства, пути сохранения и укрепления единства восточных славян». Як катэгарычна заяўляюць арганізатары, «материалы с отклонениями от указанных норм рассматриваться не будут».

...Калі я хадзіў у школу, пра Кірылу Тураўскага ў падручніку беларускае літаратуры было якіх пару радкоў. Пазьней я дазнаўся, што Сьвяты Кірыла Тураўскі быў першым усходнеславянскім япіскапам і царкоўным пісьменьнікам, які ўвайшоў у гісторыю літаратуры як «златавуст». Сярод ягонае спадчыны, якую можна прыцягнуць да гісторыка-палітычнага кантэксту, вядомыя «Прытчы пра душу і цела (альбо пра сьляпога й кульгавага)», дзе ён раскрывае «ерась» суботняга паста растоўскага япіскапа Фёдара й княскую гардыню Андрэя Багалюскага. Вось зараз сяджу і ўяўляю сабе: Гомель, вуліца Кірава, сонечны красавіцкі дзень, сядзяць маладыя «актывісты-лукамольцы» ва ўнівэрсытэце транспарту і разьбіраюць тэалягічны дыспут двух праваслаўных япіскапаў 12-га стагодзьдзя ў кантэксьце «укрепления восточнославянского единства»... Эх, дзе маё юнацтва...

Да нядаўняга часу «славянскія» ініцыятывы былі прыярытэтным накірункам самога Лукашэнкі ды розных маргінальных аматараў. І вось упершыню робіцца спроба надаць усім гэтым торганым і разбэрсаным ініцыятывам ілюзію «непарыўнасьці пакаленьняў». Даючы сабе справаздачу ў нягегласьці й нецікавасьці сваіх пачынаньняў, «усходнеславяншчыкі» ўсё больш і больш робяць дзеля «галачкі», як гэта было й будзе ва ўсялякіх «камсамолах», як бы іх ні перахрышчвалі. А вынік, вынік мы ўжо ведаем. І не з падручнікаў. Прыклаўшы яшчэ каліва ўяўленьня, ужо сёньня можна напісаць «итоговыя документы» заплянаванай на красавік гомельскае канфэрэнцыі, як і дзясяткаў да яе падобных...

7 студзеня Лукашэнка ўручаў пяць прэміяў «За духоўнае адраджэньне» выбітным, на ягоную думку, дзеячам «славяншчыны». Я пра гэта спачатку забыў, а пасьля і сам дадумаў, каму ён іх мог даць. Але пра гэта іншым разам...

**Сяргей Харэўскі**



## Вострая Брама

*беларускі культурны кантэкст XX ст.*

Новы супольны праект «Нашай Нівы» і беларускай рэдакцыі Радыё Свабода: рэпартажы, рэфлексіі, гутаркі — кожную нядзелю на зьмененых хвалях Свабоды. Кожную сераду — паўтор перадачы.

Адсутнасьць кантэксту культуры — гэта адсутнасьць глябальных арыенціраў нацыі. Яна нявечыць нашае жыцьцё і на вялікім і на малым узроўні. Беларусь нібыта сьцьвярджае сябе як незалежная дзяржава, але дзеля чаго гэта робіцца, дзеля чаго тая незалежнасьць — разумее ня кожны. Людзі не задумваюцца над тым, што сувэрэнітэт патрэбны для самабытнага існаваньня нацыі, бо менавіта ў самабытным існаваньні нацыя найлепшым чынам рэалізуе свой патэнцыял, уладкоўвае жыцьцё ў адпаведнасьці са сваімі прыроднымі рысамі характару. Калі народ існуе ў культурным кантэксьце, яму не прыходзяць у галаву розныя самаедзкія, дзікунскія ідэі, ён не азлоблены, а прагны да творчасьці і працы.

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

Кожную нядзелю на хвалях Радыё Свабода паводле абноўленага раскладу:

Новыя Хвалі, Пастаянны Час,
Нязьменная Свабода
(ад 26 кастрычніка 1997)

| Час | K/Hz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18.00 - 19.30 | 6000, 6170 | 49 |
| | 7155, 7295 | 41 |
| | 3695 | 75 |
| 22.00 - 23.30 | 6010, 6025, | |
| | 6095, 6170, | 49 |
| | 7155 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| 06.00 - 07.00 | 5995 | 49 |
| | 7295, 7275 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| | 3980 | 75 |

Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111 У 22.00 беларускую праграму можна слухаць у Інтэрнэце: http:/www.rferl.org/bd/be/index.html

*Заставайцеся са Свабодай!*

Славамір Адамовіч

# Блакітная мара

Пагаворым пра беларускіх мужычкоў, пра тых самых, якіх бальшавікі некалі так ёмка абулі ў лапці, адабраўшы хромавыя боты.

Пагаворым пра саміх сябе, пра тое, чаму мы такія і ня хочам быць іншымі. Падумаем над тым, ці ня ў нашых мужычых якасьцях угнязьдзіліся колькасьці нашых беларускіх праблемаў: дэмаграфічны спад (фізычнае выміраньне); неданошаная эпілептычная дыктатура, якая псуе нэрвы прыстойным грамадзянам Рэспублікі; здрада беларускіх інтарэсаў, акупацыя і калябарацыянізм «эліты»...

Паглядзім на сябе збоку, прадэманструем паважанай публіцы ўласныя партрэцікі з натуры... Адным словам, давайце агучым нашу блакітную мару...

## Кіраўнік усіх пакрыўджаных

Беларусь можна ўявіць камэрай для пакрыўджаных з галоўным пакрыўджаным на камэрнай покуці. Хто катэгарычна не жадае жыць у такой «хаце» — ломіцца зь яе ўсёй сілай цягліцовае масы і духоўнай субстанцыі. На жаль, значная частка грамадзянаў РБ такіх сілаў у сабе не знаходзіць і згаджаецца на статус пакрыўджаных. У «хаце» іхнай — Садом і Гамора. Кожны цьвеліць уласныя болькі і альбо сам становіцца на чатыры кропкі, альбо ставіць у гэтую позу суседа па нарах. А ўсіх разам ставіць сам галоўны.

Кіраўнік усіх пакрыўджаных — істота надзвычай крыўдлівая, а крыўдлівыя, як правіла, людзі цяжкія. Зь імі вельмі складана ўсталёўваць кантакты.

Крыўдлівы — зусім ня тое, што горды, з годнасьцю. Крыўдліваму цяжка быць велікадушным, крыўдлівы ўхіляецца ад адкрытага двубою. Крыўдлівы ўмее толькі крыўдзіцца, агрызаючыся на ўсіх і займаючы кругавую абарону. Цяжка яму знайсьці сяброў, лёгка згубіць. Сам галоўны ў камэры пакрыўджаных загнаў сябе ў кут, вочы яго вірлавокія — вочы страху, вочы загнанага зьвера. Страшна страціць статус кіраўніка, жонка перашкаджае, як пудовыя кайданы на нагах... Страшна атрымаць піку ў бок ад свайго ж брата пакрыўджанага...

Дарэчы, а што ж з блакітнай марай самага пакрыўджанага? Была прага прыйсьці да ўлады — спраўдзілася. А што далей? Што цяпер яму сьніцца? Раскошнае маскоўскае седала? Слава «собирателя земель российских»? А Беларусь? Беларусь наша для яго, як мы ўжо чулі, пройдзены этап. І таму з імпэтам душагуба, як янычар белае цела славянкі, папірае ён годнасьць Бацькаўшчыны, нацыянальны гонар ейных сыноў і дачок. Бадай, у зьдзеку з Трэцяй Рэспублікі і палягае блакітная мара кіраўніка ўсіх пакрыўджаных. Маньяк самадастатковы толькі ў працэсе гвалту, у забойстве, у душагубстве чыстага й нявіннага. Але пасьля эйфарыі злога чыну наступае катарсіс пятлі.

## Самотны сябра БНФ

Думаю, ён пакрыўдзіцца. Але дзеля прыкладу, як ня трэба, я мушу зрабіць некалькі штрыхоў да партрэту майго героя.

... Ён працуе настаўнікам у старым беларускім мястэчку. Мае жонку-настаўніцу, двох дзетак, добрую двухпакаёвую кватэру, зьяўляецца кіраўніком мясцовай філіі БНФ. Папісвае вершы й сьпеліць тайную надзею надрукаваць іх у «НН».

Мы пазнаёміліся ў яго на кватэры. Бадай, адразу ж адчулася мне ў ім слабасьць лідэрскага пачатку, дакладней, адсутнасьць энэргіі, здольнай сілкаваць ня толькі самога носьбіта, але й падзараджаць іншых. Гаспадар распавядаў, як цяжка ў правінцыі, народ, бач, «ня той», працаваць няма з кім. Маўляў, вось каб у Менску, вось дзе можна разгарнуцца... Калі ж я скіраваў таварыша на шчырую размову, выказваючы думку, што далёка ня ўсе формы й мэтады выкарыстаныя ў барацьбе з рэжымам, што трэба больш рызыкі й дзеяньня, дзеяньня й разумнай рызыкі, і дзёрзкасьці, тады наш франтавік завёў знаёмую музыку пра «цёмны народ», адступленьне на старыя пазыцыі асьветніцтва і да таго падобную каламуць.

Але самае цікавае разгледзеў я па невялікім часе, за чаркай самагнёту. Аказалася, што новы знаёмец не такі ўжо й ціхі. Ён вельмі нават актыўны, толькі што ў сям'і. Як я ні даваў зразумець гаспадару, ён так і не запрасіў жонку выйсьці да гасьцей, так і не пазнаёміў. Што казаць, пачуцьцё засталося прыкрае, бо з такімі адносінамі сябра Фронту да сваёй палавіны я сустрэўся, бадай, упершыню. Яшчэ большы нэгатыў выклікае тое, што падобная дамастроеўшчына чыніцца фронтаўцам на тле ягонай бяззубасьці як лідэра мясцовай партгрупы. І што тут ужо казаць пра нейкую блакітную мару! У мужыка ўсё ёсьць: дом, жонка-паслушніца, дзетак пара (ні больш, ні меньш), работа ў дзяржаўнай інстытуцыі і статус апазыцыянэра. А што з апазыцыйнасьцю той пшык атрымоўваецца, дык можна на «цёмны народ» сьпісаць. Усяго тае й мары застаецца, што спадзяваньне надрукавацца ў газэце.



Усьцешвае, праўда, тое, што ёсьць у тым мястэчку і сапраўдныя байцы з сапраўднай марай. Адзін зь іх займаецца падпольным бізнэсам, марыць пра буйную легальную справу, якую пры гэтым рэжыме яму распачаць не дадуць. Жаданьне працаваць на сябе, на сына й жонку, а не на акупанта, і прымушае чалавека займацца ня толькі рэальнай падпольнай эканомікай, але й палітыкай. Думаю, БНФ як нацыянальна-вызвольны рух павінен сёньня зважаць якраз на такіх актыўных чыньнікаў беларускага грамадзтва, надаючы ім неабходныя для ўмацаваньня сваіх рэгіянальных структураў правы і абавязкі.

## Нашы мужычкі ў лазьні

«... А, Клім, лезь на палок, паўзі, парся,» — гукаў Раман.

Клім палез, апёк ляжку на гарачым палку, плакаў ад дыму і, махаючы венікам, праклінаў, скрыўджаны, і лазьню, і тых глуздоў, хто пабудаваў яе такую. «Жывуць жа людзі, — думаў ён. — Лес пад бокам, жыды ў пана адваявалі яго за даўгі і прадаюць колькі гадоў; і сяляне, кожнагодна пускаючы на гарэлку рубельчыкі і жывучы сярод лесу, маюць лазьню... каб яна, даруй Божа, згарэла на чыстым полі гэткая...»

Так апісваў юначыя ўражаньні Максім Гарэцкі ў першым сваім апавяданьні «У лазьні», надрукаваным у газэце «Наша Ніва» за 1913 год. З тэй пары кулдыкнуўся ў спраты гісторыі амаль век часу, грамадзкія і прыватныя лазьні і лазенькі палепшалі, палюдчэлі, што называецца. Якасна зьмяніліся і самі аматары гарачай пары...

Грамадзкая лазьня на вуліцы Б.Хмяльніцкага ў Менску — адна зь першых, якую пабудавалі пасьля вайны. Раней, да турмы, я наведваў яе ў суботу альбо нядзелю. Як гранічны індывідуаліст, ніколі не хадзіў у лазьню за кампанію. Зрэдчас у распранальні ці ў парылцы сутыкаліся з актрам N, перакідваліся некалькімі фразамі і разыходзіліся.

У гэтай жа лазьні кожныя выхадныя можна было назіраць аднаполую пару: мужчыну гадоў пад сорак зь белакісельным целам і вялізным трыбухом, і маладога чалавека, даволі прыгожага ў твары і стройнага фігурай. Без сумневу, паміж імі была ня толькі сяброўская сувязь, дакладней, і зусім не сяброўская, а інтымная. І што асабліва абурала, сувязі сваёй на людзях яны не цураліся, а наадварот, нібы спэцыяльна дэманстравалі, упэўненыя, што за падобныя публічныя паказы нармальныя мужыкі ня стануць лупіць іх па мардасах. Відаць было, што маніпуляцыі з маладым целам свайго партнэра даюць старэйшаму вялікае задавальненьне. У памывачным аддзяленьні гэтая пара таўклася ня менш чатырох гадзін. Доўга, павольна, зь любасьцю й спэцыфічным смакаваньнем цікалі, гладзілі, пашчыквалі адно аднаму намыленыя целы. Гледзячы на старэйшага, на ягонае агромністае пуза, з-пад якога ледзь праглядалася мужчынскае начыньне, я думаў, што з такім жывоцікам у кампаніі жанчынаў няма чаго рабіць. І, як кажа мая знаёмая Таня, ёсьць лёгіка ў тым, што мужычок выбраў у падружкі маладога хлопца.

Дарэчы, той барадата-брухаты ў пачатку 90-х гадоў жыў у інтэрнаце Акадэміі навук. Відаць, яго блакітнай марай была ўласная кватэра з ванным пакоем, куды ён мог бы запрашаць свайго апалёна.

У тым самым інтэрнаце пабачыў я і першага ў сваім жыцьці жывога бісэксуала.

## Косьцік-мнагалюбчык

Я тады цягаўся да Танькі Лажкаровай, якая за дзень магла выкурыць пачкудзьве «Космасу», прымушала мяне любіцца праз гумку і вывучала беларускую мову паводле майго слоўнікавага запасу.

Як зьявіўся на маім даляглядзе Косьцік, ужо ня памятаю. Запомніўся круглы Косьцікаў твар і гэткая ж фігура. Не магу сказаць таксама, ці меў ён на той час хоць самы малы інтарэс да жанчын, але мне пасылаў такія знакі ўвагі, якія нельга было не заўважыць. І гэта пры тым, што дзесьці ў абласным цэнтры былі ў яго жонка й сын. Прыгадваю аднак, што цікавіўся, цікавіўся Косьцік і асьпіранткамі. І, зрэшты, у інтэрнаце ведалі пра Косьцікавы бісэксуальныя інтарэсы, але, здаецца, ня вельмі верылі, што ён можа пайсьці далей за выразныя позіркі ды асабліва цёплыя поціск рук. Што да адносінаў са мною, дык тут Косьцік рызыкнуў і падараваў мне на дзень нараджэньня махеравы шалік. Пры гэтым, ён, вядома, кіраваўся не маім густам, а сваім жаданьнем зрабіць мне прыемнае, каб маім грудзям і шыі было цёпла. Шалік той я ніколі не насіў, але стаў задумвацца над пытаньнем, чаму некаторыя індывіды мужчынскага полу выяўляюць эратычную зацікаўленасьць да сабе падобных. Думаю, што ў «блакітнай» праблеме істотную ролю іграе модус гульні і выхаваньня, а таксама наяўнасьць часу. Узгадаем: каб навучыцца плаваць, трэба ўвайсьці ў ваду. Вось і наш Косьцік гуляў сваю гульню, сваё кінцо, дзе ён выступаў у ролі бацькі, мужа, халасьцяка, асьпіранта і сэнтымэнтальнага маладога чалавека, які шукае цёплых адносінаў зь іншым маладым чалавекам. Бісэксуальнасьць Косьціка, альбо мнагалюбнасьць —гэта транс-вэрсія ягоных няўдачаў з жоначкай, магчыма, і зь цешчай. Як добрая душа, Косьцік шукае, каму можна падараваць цёплы махеравы шалік, калі яго нельга падараваць жонцы. Магчыма, у гэтым і палягае блакітная Косьцікава мара. Шкада толькі, што ягоны сын, гадуючыся ў няпоўнай сям'і, можа пераняць на сябе татавы праблемы і комплексы. На шчасьце, існуе іншы варыянт: узбунтавацца, каб не паўтарыць памылку Эдыпа, каб вярнуцца ў нармальнасьць, захаваўшы ў чысьціні і здароўі свае цела і дух.

## Малады чалавек, вам трэба жаніцца

Гэты эпізодзік адбыўся ў канторы адной даволі салíднай партыі. Маладыя людзі, сябры арганізацыі, абмяркоўвалі свае праблемы. Я прысутнічаў на сходзе ў якасьці журналіста. Неяк неўпрыкмет леваруч мяне прысуседзіўся калега па журналісцкім цэху — невысокі малады чалавек зь дзіцячым тварам і вялікім кейсам з бліскучымі жоўтымі зашчапкамі. Як істота з нармальнай сэксуальнай арыентацыяй, дваццаць чатыры гадзіны ў суткі зацікаўленая істотамі супрацьлеглага полу, я хутка зразумеў, што калега знаходзіцца пад узьдзеяньнем алькаголю і адносна мяне паводзіць сябе, мякка кажучы, не зусім адэкватна. «Эге, табе галубок, не дае спакою «блакітная мара»...», — падумаў я, калі ягоная правая ножка з дрыжкімі ў каленях некалькі разоў прыціснулася да маёй левай. Падстольныя маніпуляцыі на фоне застольнай дыскусіі маладых палітыкаў вывелі-ткі мяне з духоўнай раўнавагі. Праўда, зважаючы на спэцыфічны цікаўны статус журналісцкай прафэсіі, я прымусіў сябе пацярпець, каб убачыць, як будуць разгортвацца падзеі далей. І сапраўды, па невялікім часе малады маніпулянт выказаў жаданьне ўзяць у мяне інтэрвію, прытым на маёй кватэры, а дакладней, у інтэрнацкім пакоі, дзе я жыву й сёньня. Падыгрываючы небараку, я згадзіўся. Па дарозе да мяне мой сымпатызант нават хацеў купіць віна альбо чаго іншага, калі б я толькі пажадаў. Віна мы не купілі, таму ў пакоі прагучаў мой абсалютна цьвярозы маналёг пра тое, што я ненавіджу гомасэксуальны флірт ня менш, чым дзейны ў Рэспубліцы акупацыйны рэжым і ягонага кіраўніка. Пасьля таго «інтэрвію» мы з калегам больш

# мужчыны

не стукаемся каленькамі пад сталом, хоць пры рэдкіх сустрэчах я аддаю маладому чалавеку мой фармальны «дабрыдзень».

## Дрыжыкі цела

Нейкі час мы крочылі разам, разам чыталі вершы і нават перапісваліся. Ягонае «Добры дзень, Славік!» кожнага разу пляскала мяне па твары, як атымахай. Я цярпеў. Прасіў яго не называць мяне «Славікам», але ён быццам ня чуў і рабіў па-свойму. І я ізноў цярпеў. Іншы раз, назіраючы яго ламана-дзявочыя рухі рук, галавы і тулава, я спрабаваў уявіць майго знаёмага ў поўнай армейскай выкладцы на дзесяцікіляметровым маршы, альбо як ён страляе кароткімі чэргамі з «калашнікава», альбо як сядзіць за шырмай на парашы, альбо як цалуе жанчыну... Вось апошняе ўявіць было найцяжэй, паколькі майго таварыша апаноўвала не ружовая, а блакітная мара пра дотык.

Аднойчы мы засталіся начаваць у агульнага знаёмага. Проста заседзеліся да позняга, а шукаць таксі, якое асабіста я цярпець не магу, паленаваліся. Так і разьмясьціліся: таварыш А. на канапе ў залі, таварыш В. заснуў у суседнім пакоі. Якое ж было маё нямое зьдзіўленьне, калі сярод ночы я мусіў прачнуцца ад незвычайнага трымценьня пры самым маім левым баку. Вядома, гэта быў сусед-начлежнік. Ён увесь аж заходзіўся ад дрыжыкаў, нібы яго выкінулі голага на мароз аддаваць Богу душу.

Я хацеў спаць, таму ня стаў доўга разьбірацца, а проста адкаціўся да сьцяны, ледзь ня ўліп у яе, і праваліўся ў сон.

А першы раз з жаданьнем таварыша А. я пазнаёміўся ў яго на кватэры, дзе ён жыве разам з бацькамі. Я быў у гасьцёх у таго, хто называў мяне «Славікам», мы ўжывалі алькаголь, добра закусвалі, гаварылі пра палітыку, літаратуру, жывапіс і музыку. І менш за ўсё пра жанчын. Неяк ня клеілася ў майго таварыша размова на тэму фэміны. Тым разам я застаўся ў яго начаваць. І ледзь толькі задрамалася і паплылі першыя сьненьні на новым месцы, як дрыготкі шэпт над вухам перарваў мае відзікі. Голас турбаваўся, ці ня холадна мне, яго ўладальнік спадзяваўся, што я дам станоўчы адказ. Праўда дзеля ягонай жа карысьці, таварыша А. спасьцігла горкае расчараваньне. Я хацеў спаць, каб сьніць, як пазногцікі любімай жанчыны ўпіваюцца ў мае плечы і пахне малачаем.

Што зробіш, такая ў мяне ружовая мара — «задушыцца ў белым прасьцірадле ад радасьці, што меў яе такую»*.

## Поціск рукі

Як на маю думку, пераважнае ў характары мужчыны можна выявіць праз элемэнтарны поціск рук пры знаёмстве. Унутрана згрупаваны, валявы мужчына падае руку для поціску без пасьпешлівасьці, але й не вальяжна, падае проста нармальна, з нармальнай падачай мускульнай энэргіі ў пальцы і далані. Вэктарнасьць, ці траекторыя падачы рукі можа мець дапушчэньні, але ў любым выпадку варта прытрымлівацца эстэтычна-этычнага стандарту. Калі сустракаюцца два мужчыны прыкладна аднолькавага ўзросту і целаскладу, іхныя рукі ў прывітальным поціску павінны знаходзіцца на ўзроўні жывата, не ніжэй і не вышэй. Звычайна так і адбываецца. Але ў індывідаў з блакітнай марай і тут назіраецца свой почырк. Амплітуда хістаньняў рукі гомасэксуаліста, калі ён спрабуе паздароўкацца, падобная на амплітуду азёрнай хвалі перад самай бурай, калі па паверхні вады пралятае першы пробны парыў ветру. Рука яго трымціць ад пляча да падушачак фалянгаў. Урэшце рэшт у вашу даланю трапляюць чатыры кволыя, бязмоцныя, часта вільготныя пальцы, адчуўшы якія, вы рэагуеце на гэткі дотык адэкватна, як на нешта агіднае і непрыстойнае. Пры такім поціску адбываецца чыста тактыльны, эпітэліяльна-мэханічны абмен інфармацыяй. І ўжо ніяк не выпадае гаварыць пра абмен здаровай мужчынскай энэргіяй, якая пры нармальным поціску рук перадае інфармацыю пра ўсю істоту цалкам.

Поціск рукі — гэта ў беларускай сытуацыі такі ж сымбаль, як і разгорнутае палотнішча нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга.

Усе мы бачылі, як годна лунаюць нашыя штандары над калёнамі нацыянальна-вызвольнага руху, як бязвольна зьвісае чырвона-зялёнае над схаднякамі акупантаў.

Мужны, мужчынскі поціск рук — гэта шлях да перадачы нашай волі і гарту, абарончай і наступальнай энэргіі. Поціск рук — гэта нашая повязь...

Поціск рук — гэта ня толькі злучэньне дзьвюх далоняў дзьвюх асобаў. Поціск правай рукі можа суправаджацца рухам левай, калі вы ў сяброўскім парываньні перахопліваеце руку сябра крыху вышэй запясьця. Пры гэтым сяброўскі кантакт набывае яшчэ большую абменную энэргетыку, разьвіваецца пачуцьцё радасьці ад сустрэчы, альбо пачуцьцё ўдзячнасьці пры разьвітаньні.

Завяршацца поціск рук можа сяброўскімі абдымкамі. Пры гэтым вашая правіца працягвае паціскаць руку сябра, а левая ад запясьця рухаецца ўверх да сяброўскага пляча і згодна з вашымі пачуцьцямі паціскае яго. Затым вы перахопліваеце ў левую руку левае плячо сябра, ён робіць рухі, адэкватныя вашым. Вы абняліся. Далей сцэнар сустрэчы альбо разьвітаньня можа разьвівацца, удасканальвацца: вы можаце разьняць далоні, паляпваць адно аднаго па плячах і г. д. Але важнымі ў пляне стандарту зьяўляюцца першыя тры этапы: поціск, злучэньне далоняў як сымбаль супольнасьці і ўзаемапавагі; ваша левая рука трымае правую сябра вышэй запясьця (абмен энэргіяй узмацняецца); нарэшце вы паціснулі яго правае плячо. Вы абодва гатовыя абняцца, вы абдымаецеся і перажываеце катарсыс старажытных Атэнаў і Рыму. Пэрыфэрыя вашай нэрвовай сыстэмы праводзіць калясальную энэргію. Гэта падобна на тое, як бы вы прынялі ў свае грудзі кулю, якую пасылалі ў вашага сябра. Такі поціск і такія абдымкі прымаю, разумею і зрэдчас перажываю сам. Іншае — ганебна і нявартае сапраўднага мужчыны.

Сказанае вышэй ня тычыцца дыпляматаў і палітыкаў мужчынскага полу, паколькі іхнюю жарсьць да абдымкаў і цалаваньняў трэба разглядаць у кантэксьце праблемаў прастытуцыі і гетэрызму. А мы гаворым пра тое, ці хочам мы быць нармальнымі мужыкамі, альбо мужыкамі, абутымі ў лапці савецкасьці, альбо мужычкамі, якія і нашым і вашым, альбо дражджамі пэдэрастыі на тле дэмаграфічнай катастрофы.

## Рытарычнае пытаньне

ППРБ прыйшоў як гвалтаўнік. Ён прыйшоў і згвалціў Беларусь, а мы не змаглі яму запярэчыць. Мы прайгралі як мужыкі, бо не змаглі заваяваць Беларусь палюбоўна. Яна не далася нам, бо мы былі недастаткова мужнымі. Яна ўбачыла, што мы не гатовыя ўзяць яе, бо мы яшчэ цнатлівыя, а ёй трэба было вопытных мужчынаў. Шлюбнай ноччу аксамітнай рэвалюцыі мы пацярпелі фіяска.

Ці не таму нашу ружовую мару мы ўсё часьцей зьмяняем на блакітную?..

## «Полавыя парушэньні», альбо Да гісторыі праблемы

У трэцім томе Беларускай савецкай энцыкляпэдыі, які быў выдадзены ў 1971 годзе, на старонцы 532 пра гомасэксуалізм знаходзім наступнае: «Гомасэксуалізм, гл. Полавыя ненармальнасьці». У томе восьмым «БелСЭ» выданьня 1975 году чытаем: «Полавыя парушэньні, хваробныя адхіленьні ў полавых узаемаадносінах людзей.

Найчасьцей П.п. бываюць пры нэрвова-псыхічных хваробах, эндакрыннай і уралягічнай паталёгіі, прыроджаных пароках полавых органаў, хваробах унутр. органаў. Спрыяе інтаксыкацыя нікатынам і алькаголем. (...) Да П.п. адносяць таксама сэксуальныя праяўленьні, якія ўзьнікаюць у неадэкватнай сытуацыі або ад неадпаведных раздражняльнікаў. Лячэньне комплекснае: псыхатэрапія, агульнаўмацавальныя сродкі, лякарствы, якія павышаюць абмен рэчываў і нармалізуюць вышэйшую нэрвовую дзейнасьць, гармоны».

Як бачым, малавата пра ўласна гомасэксуалізм і зусім нічога пра сацыяльна-крымінальны аспэкт праблемы. Між тым мне цікава, якім чынам грамадзтва здольнае забясьпечыць права гомасэксуаліста на адпраўленьне сваіх сэксуальных патрэбаў і маё права грамадзяніна з нармальнай сэксуальнай арыентацыяй быць пазбаўленым неабходнасьці назіраць практычную рэалізацыю гомасэксуалістам сваіх спэцыфічных правоў? Карацей кажучы, як запабегнуць сацыяльнага канфлікту?

Крымінальны кодэкс БССР ад 29 сьнежня 1960 году з папраўкамі па стане на 1 траўня 1994 году адказвае на пытаньне артыкулам 119-м: «Мужалоства, ажыцьцёўленае з прымяненьнем фізычнага гвалту, пагрозаў альбо ў адносінах да непаўналетняга, ці з выкарыстаньнем залежнага становішча пацярпелага, — караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін да васьмі гадоў».

На зары савецкай улады ў СССР быў выкінуты параграф закону царскіх часоў, які караў за гомасэксуальныя дзеяньні. Тады гэты крок надаў вялікі штуршок сэксуальна-палітычнага руху Заходняй Эўропы і Амэрыкі. Аднак з разьвіцьцём савецкага грамадзтва ад сацыяльнай рэвалюцыі да масавых рэпрэсіяў 30-х гадоў яно вярнулася і да практыкі перасьледу гомасэксуалістаў. Бальшавікі так і ня вырашылі праблемаў полу, яны баяліся сэксуальнай рэвалюцыі. Разам з тым хваля гомасэксуалізму расла. Сталінскі рэжым адказаў на гэта масавымі арыштамі гомасэксуалістаў у Маскве, Ленінградзе, Харкаве, Адэсе. Арышты абгрунтоўваліся палітычнымі прычынамі (забойства Кірава). Сярод арыштаваных было многа актораў, мастакоў, музыкантаў.

У сакавіку 1934 году быў апублікаваны закон за подпісам Калініна, які забараняў і караў полавыя кантакты паміж мужчынамі. Гомасэксуалізм ізноў трапіў у шэраг сацыяльных злачынстваў.

Вырашальную ролю ў фармаваньні тагачасных настрояў адыгралі выказваньні Горкага, які ў артыкуле «Пралетарскі гуманізм» пісаў: «краіне, дзе мужна й пасьпяхова гаспадарыць пралетарыят, гомасэксуалізм, які разбэшчвае моладзь, прызнаны сацыяльна злачынным і падлеглым пакараньню, а ў «культурнай» краіне вялікіх філёзафаў, вучоных, музыкантаў (Нямеччына — С.А.) ён дзейнічае вольна й беспакарана. Ужо склалася саркастычная прыказка: «Зьнішчыце гомасэксуалістаў — зьнікне і фашызм».

Варта адрозьніваць гомасэксуалізм ад распусты «ад добрага жыцьця», які характэрны для рафінаванай экскультуры так званых элітарна-інтэлігенцкіх анкляваў буйных гарадоў.

Існуе і пашыраецца гомасэксуалізм «не ад добрага жыцьця» сярод арыштантаў у турмах і калёніях, сярод матросаў на караблях, сярод салдатаў у казармах, які вынікае зь недахопу гетэрасэксуальнага полавага кантакту.

Нарэшце, існуе гомасэксуалізм як хвароба цела і псыхікі, пра які, зрэшты, і сказана ў артыкуле «БелСЭ».

Вядомы вучоны-псыхоляг Вільгельм Райх у рабоце «Сэксуальная рэвалюцыя» зрабіў наступныя высновы:

«1) гомасэксуалізм не зьяўляецца сацыяльным злачынствам, ён нікому не прыносіць шкоды;

2) яго варта абмяжоўваць з дапамогаю стварэньня ўсялякіх перадумоваў натуральнага любоўнага жыцьця масаў;

3) перш чым тая мэта, пра якую гаворыцца ў п.2, будзе дасягнутая, гомасэксуалізм павінен разглядацца як спосаб сэксуальнага задавальненьня, раўнапраўны з гетэрасэксуальным, і не падлягаць пакараньню (за выключэньнем выпадкаў спакушэньня асобаў, якія не дасягнулі полавай сьпеласьці)».

## Неабходныя высновы

Вяртаючыся да «поціску рук», хачу слабы гомасэксуальны поціск параўнаць з тым, як неабавязкова і неахайна гучыць расейскае прывітальнае слоўца «здрасте». Згадзіцеся, прымаць на свой адрас, ды і самому вымаўляць яго — брыдка. Сказаць «здрасте» — як аплявуху даць нізашто.

А вось сапраўдны мужчынскі поціск зь беларускім «Добры дзень!» я параўноўваю. Прыемна паціснуць мужную і лагодную руку. Прыемна вымавіць: «Добры дзень, сябры! (добрай ночы! добры вечар!)».

Што ж да блакітнай мары некаторых нашых мужчынаў, то трэба вяртаць ёй нармальны чырвоны колер, колер крыві, якую мы праліваем толькі аднойчы, — жыватворную кроў, як пісаў некалі Караткевіч.

Вернемся да нашай мары пра Жанчыну і Беларусь, іх будзем жадаць усёю нашай мужчынскай істотай. Скажам усьлед за Райхам: няхай сэксуальная патэнцыя, цялесная бадзёрасьць і прыгажосьць будуць пастаяннымі ідэаламі беларускага адраджэньня. Нацыянальна-вызвольнаму руху патрэбны не рабочы вол з шорамі, а бык, патрэбны не каплун, а сокал. Кастраты ня будуць змагарамі за свабоду.

** Радок зь верша «Калі жанчына спажывае грушу» (зборнік вершаў «Зваротныя правакацыі»).*



Адам Глёбус

# ЗАНАТОЎКІ ПАЦЫФІСТА

Мусіць я ня першы, хто заўважае, што вайсковую форму вельмі любяць ідыёты. І як сумна, што на вуліцах Менску гэтай формы ўсё болей і болей.

***

Падабенства людзей вайсковых з малымі неразумнымі дзецьмі таксама адзначалася даўно. «Але больш за ўсё яны (вайскоўцы) падобныя да дзяцей, калі пад гукі натхняльнае трубы й вайсковых маршаў радасна кідаюцца на ворага, не папытаўшыся, за што змагаюцца,» — пісаў Рюноскэ Акутагава ў «Словах пігмея».

***

Мая ўласная любоў да войска пачалася й скончылася ў дзесяцігадовым узросьце, калі ў Койданава прыйшоў з войска ў адпачынак мой дзядзька — Вінак. Я панапрыкручваў на сваю вэльвэтавую зялёную куртку розных зорак і значкоў і з гонарам выхваляўся перад аднагодкамі — во якія, во якога дзядзьку маю. А праз якіх паўгады Вінак прыехаў у Койданава далечвацца пасьля раненьня, яго ўдарыў на мяжы Фінляндыі з СССР нейкі бандыт, што ўцёк з турмы, ударыў нажом у жывот. Яшчэ Вінак расказаў, што лавіў і расстрэльваў такіх бандытаў, і стралялі ўсе ў галаву й сэрца, бо спачатку спрабавалі страляць як бы міма, а з-за гэтага было яшчэ горш, бо даводзілася дабіваць перабежчыкаў ужо ў дашчаных скрынях, а яны стагналі. І Вінаку нават у Койданаве чуліся тыя стогны. Ад такіх аповядаў у мяне валасы станавіліся дыбарам і любоў да войска і ўсяго вайсковага выпарвалася ўшчэнт.

***

Ты трываеш існаваньне камуністаў і фашыстаў таму, што ня верыш у іх моц і, адпаведна, перамогу. Гэтаксама ты не зьвяртаеш увагі на шавіністычныя захады расейскай праваслаўнай царквы. Гэта ворагі пацыфізму ў мінулым.

***

Вайсковы патрыятызм вырастае зь нянавісьці да суседзяў, а тая нянавісьць грунтуецца на зайздрасьці... І варта памятаць: зайздросныя ваяўнічыя барбары зруйнавалі вялікі Рым.

***

Патрыёт у сваіх палымяных прамовах апэлюе да пачуцьцяў, да Радзімы, да крыві. Розум і дух чужыя для патрыёта. На гэтай глебе й сыходзяцца патрыёты з дыктатарамі.

***

Пацыфісты ня любяць расейскі імпэрыялізм за зьнішчэньне Чачэніі, а трэба не любіць за тое, што імпэрыялісты тых чачэнцаў узброілі і падштурхнулі да вайны.

***

Усялякая мараль сканчаецца ў кропцы, зь якой пачынаецца пошук задавальненьняў сярод пакут жывёлаў, людзей, народаў, краін...

***

Тыраніі характэрная гарачачная імпульсыўнасьць, пачуцьцёвасьць, безразважнасьць, а яе ўвесь час спрабуюць




аналізаваць з пазыцыяў сьветлага розуму й халоднай лёгікі.

***

«Усе мы выйшлі з шыняля Гогаля!...» — заўважыў расейскі змрочны бэлетрыст Дастаеўскі. Пачуўшы гэты вядомы сказ, я пачаў углядацца ў шынялі, апетыя расейскімі літаратарамі. Фёдар Дастаеўскі меў рацыю наконт шыняля, але памыліўся ў тым, што расейская культура выйшла з вайсковай апранахі, яна як была ў гэтым строі, так і застаецца ў ім. У шынялі разгульваў па Каўказе Пячорын. Героі Льва Талстога пасьля баляў апраналі шынялі. Унівэрсальны імпэрскі шынэль перапоўз з XIX ў XX стагодзьдзе, і герой Арцыбышава распавядае наступнае: «І хацеў я тады застрэліцца... Пайшоў ужо браць рэвальвэр — ён у мяне ў кішэні шыняля быў, — і раптам прыйшла мне ў галаву думка: можа быць, ёй там будзе кепска, і я чым-небудзь змагу дапамагчы ёй, хоць бы й непрыкметна як-небудзь... Ну, я й перадумаў, толькі ўдарыўся галавою ў шынэль, які на сьцяне вісеў, і ўсё гаварыў: «Ліза, Лізачка!...» Варта зазначыць, што ў расейскай мове «шынэль» — слова жаночага роду, і таму любоў мужчыны да шыняля выглядае ў расейцаў вельмі натуральна, але й жаночыя ўзаемаадносіны з вайсковаю апранахаю гучаць з вуснаў Буніна досыць пераканаўча: «Дома яна пачала прыбіраць кватэру. У перадпакоі, у плакары, убачыла ягоны (мужаў) стары летні шынэль, шэры, на чырвонай падкладцы. Яна зьняла яго з плечыкаў, прыціснула да твару і, прыціскаючы, села на падлогу, уся торгаючыся ад плачу й крычучы, молячы некага аб літасьці. 26 кастрычніка 1940». Асабліва пераконвае дата. Бунін разам з гераіняю плача па прайгранай былым генэралам Першай сусьветнай і Грамадзянскай вайне, а за вакном ужо разгарнула крылы колеру шыняля Другая сусьветная бойня.

Асабіста я люта ненавіджу шынялі і ўсё зь імі зьвязанае. На жаль, праблема шыняля — гэта ня толькі цэнтральны вобраз расейскай літаратуры апошніх стагодзьдзяў. Каб зірнуць шырэй, можна ўбачыць, што ўся эўрапейская раманістыка заціснутая паміж шынялём гашакаўскага Швэйка й латамі сэрвантасаўскага Дон Кіхота. І на першы погляд няма ніякай магчымасьці вырвацца з абдымкаў пустога вайсковага шыняля. Толькі ня варта ўпадаць у адчай, як удава з апавяданьня Буніна. Трэба проста прызнаць і паверыць... Прызнаць, што ты не выходзіў з шыняля Гогаля, і паверыць, што шэрыя анучы ня маюць аніякай эстэтычнай каштоўнасьці. А калі ўжо любіш рэчы, апетыя геніяльнымі творцамі, дык лепей усхваляць чаравікі Ван Гога.

***

Хто жадае міру, хай рыхтуецца да вайны... Зазначыў старажытнарымскі пісьменьнік Вэгецый. Толькі падрыхтоўка да вайны — вайна, а ня мір, як і ўрачыстае сьвяткаваньне перамогі над ворагамі — працяг вайны.

***

Зьнішчы грошы — і зьнікнуць войны... Спадзяваўся старажытнарымскі аратар Квінтыліян. Дарэмныя спадзяваньні. Б'юцца, ваююць, забіваюць і за кавалак акрываўленага мяса.

***

Старажытнарымскі паэт Клаўдыян выказаўся наступным чынам пра перамогу: «Сапраўдная перамога толькі тая, калі самі ворагі прызнаюць сябе пераможанымі». А я сумняваюся, што сэрца чалавека, які падпісвае капітуляцыю, пагаджаецца з тым, што робяць розум і рука.

***

Ёсьць клясычнае выказваньне: калі двое б'юцца, трэці радуецца. А ці не азначае гэта, што калі двое паміраюць — трэці заплача?

***

Калі становісься на бок пацыфістаў, варта помніць, што вайскоўцы ведаюць старажытнае правіла: у адносінах да ворагаў усё дазваляецца.

***

Вайскоўцы любяць вайскоўцаў, нават вайскоўцаў варожых дзяржаваў і ненавідзяць пацыфістаў, асабліва сваіх суайчыньнікаў.

Гэта, вядома, паталёгія, але мушу вам сказаць, што, зрабіўшы сваім успамінам рэвізію, я канчаткова пераканаўся: ні ў маленстве, ні потым я, па гамбурскім рахунку, не пазайздросьціў ніводнаму чалавеку.

У трэцяй клясе я быў апантаны мараю пасяліцца з аднаклясьніцай Верачкай на ўласным атоле ў трапічных шыротах, але чамусьці ані не зайздросьціў амэрыканскім мільярдэрам, якія маглі купіць сабе дзе-небудзь у Індыйскім акіяне цэлы архіпэляг. Зь дзяцінства маючы схільнасьць да фаталізму, я хваравіта не зайздросьціў хлопцам, якія «хадзілі» з прыгажэйшымі за маіх дзяўчатамі. Я (што, наогул, проста недаравальна) ні разу —якія б шэдэўры яны ні стварылі — не адчуў зайздрасьці да калегаў-літаратараў.

Але шкадаваць мяне за абдзеленасьць адным з наймацнейшых, найдзівосьнейшых і найшматфарбнейшых чалавечых пачуцьцяў вы ня сьпяшайцеся. Што такое зайздрасьць, я ведаў ня горай, а можа, і лепей за самых заўзятых зайздросьнікаў. Іхныя эмоцыі скіроўваліся на падобных да сябе саміх, мой жа дыяпазон быў непараўнальна шырэйшы: аб'ектамі зайздрасьці мне служылі рэчы, расьліны, жывёлы...

Я зайздросьціў першаму на нашай вуліцы тэлевізару і з радасьцю ператварыўся б у нязграбны і, зь сёньняшняга гледзішча, убогі чорна-белы «Нёман», вакол якога зьбіралася ўвечары народу столькі ж, як у малой залі кінатэатру «Радзіма». Яшчэ раней я адчуваў пякучую зайздрасьць да дзьвінскіх самоў, якія жылі такім недасяжна цікавым і таямнічым жыцьцём, што ў параўнаньні зь ім маё сухаземнае існаваньне выглядала суцэльнаю недарэчнасьцю. Я не адмовіўся б ператварыцца ў аўтамабіль, альбо ў маю першую кніжку «Русские богатыри», альбо ў цёплы скураны фатэль у бацькавым службовым кабінэце. Кожная з гэтых зайздрасьцяў мела сваю гісторыю, вартую навэлі, а мо й аповесьці.

Аднак нікому й нічому я не зайздросьціў так, як сабаку. Дакладней, сучцы.

Яе звалі Лайка. Яна, калі хто запамятаваў, была першым савецкім касманаўтам.

Лайку запусьцілі ўвосень, калі ў нашым садзе ападалі апошнія, салодкія, амаль як папяроўкі, антонаўкі, а ў суседкі Хведараўны, што жыла праз гарод ад нас, наліваліся гаркавай слодыччу калінавыя гронкі. Каліна разам з трыма маладымі вішнямі пазначала пачатак суседчыных уладаньняў; плоту

*Французскі этноляг — усюды пішуць пра Леві-Строса, хоць нарадзіўся ён у Брусэлі. Што ж, Бэльгія ў часе не існуе...*

*Леві-Строс стаў найвялікшым этнолягам ці не выпадкова: адной восеньскай раніцай 1934 году Леві-Строса пабудзіла бомканьне тэлефону, і яму прапанавалі паехаць выкладаць сацыялёгію ва ўнівэрсытэце бразыльскага гораду Сан-Паўлу, прычым вырашыць трэ' было да абеду. «Вы ж хацелі займацца этнаграфіяй? Ну дык там поўна індзейцаў, будзеце на выходных вывучаць». Уласна, выпадковасьць. Але Леві-Строс цягнуўся да этнаграфіі, яшчэ вывучаючы філязофію ва ўнівэрсытэце, калі адчуваў лёгкае раздражненьне ад маці ўсіх навук, якая падавалася яму бескарыснай і адарванай ад рэчаіснасьці «сушылаўкай» для думак.*

*У Бразыліі ён пачаў з вывучэньня фальклёру, пасьля стаў выпраўляцца ў самыя рызыкоўныя этнаграфічныя падарожжы, у плямёны-грамадзтвы, якія ён сам пасьля вызначыць як «халодныя», у грамадзтвы свайго роду антыгістарычныя, што жывуць паводле сваёй асаблівай мудрасьці, адчайна працівячыся любым зьменам у сваёй структуры, не жадаючы ўпускаць у сваё замкнёнае кола гісторыю.*

*Ці не спачуваў Леві-Строс тым, хто ня верыць у гісторыю?*

*Людзі сьвяткуюць дні нараджэньня, людзі прыдумалі сабе немаведама якое сьвята — Новы год — і з году ў год ладзяць ідыёцкі маскарад далучанасьці да часу, гульню ў лічэньне гадоў, нібыта час ніколі ня йдзе назад.*

*Адно дакладна: Леві-Строс, чалавек з адным з найхарашэйшых і сумленных твараў, якія толькі можна сустрэць, умеў глядзець на рэчы з вышыні тысячагодзьдзяў, а адтуль гледзячы, «блытаюцца чалавечыя захапленьні. Час нічога не дадае і не аднімае ад любові й нянавісьці, што зьведваюць людзі, ад іх доўгу, барацьбы і надзеяў: якімі яны былі калісьці, такімі застаюцца й сёньня. Сьцярыце адно-два тысячагодзьдзі —першыя-лепшыя — гісторыі, і гэта ніякуські не адаб'ецца на нашых ведах пра чалавечую сутнасьць. Адзінай непапраўнай стратай стала б страта твораў мастацтва, створаных за гэтыя дзесяць-дваццаць стагодзьдзяў. Бо людзі адрозьніваюцца толькі сваімі творамі, а бадай і існуюць толькі праз свае творы».*

*Гэта цытата зь ягонай перадапошняй кнігі «Глядзець, Слухаць, Чытаць» (1993), у якой ён камэнтуе творы мастацтва — Пусэна, Рамо, Дыдро — у тым ліку і Дыдро, у творах якога Кундэра ратаваўся ад расейскае любові...*

*Асноўныя працы Леві-Строса: «Элемэнтарныя структуры сваяцтва» (1949), «Раса і Гісторыя» (1952), «Структурная антрапалёгія» (1958, 1973), «Татэмізм сёньня» (1962), «Дзікае мысьленьне» (1962), «Шлях маскаў» (1975) — а таксама, як і належыць французу, цыкль працаў пра структуру і значэньне мітаў пра стравы: «Сырое і варанае» (1962), «Ад мёду да попелу» (1967), «Зародкі застольных манераў» (1968), «Голы чалавек» (1971).*

*Самыя шызафрэнічныя радкі вершаў заўжды самыя харошыя. А самыя харошыя радкі заўжды выпадковыя. Незабыўнае Глебкава «Неба чыстае як шклянка» кідае культурны выклік цывілізацыі.*

**Андрэй Дынько**

# ВЫПАДКОВАСЬЦЬ

Клёд Леві-Строс



У досьледах этнолягаў, нават даволі вядомых, можна прачытаць, што чалавек авалодаў агнём выпадкова, дзякуючы ўдару маланкі альбо лясному пажару; што, знайшоўшы выпадкова запечаную дзічыну, ён адкрыў для сябе, што мяса можна смажыць; што адкрыцьцё ганчарства адбылося дзякуючы кавалачку гліны, выпадкова пакінутаму побач з агнём. Атрымліваецца, што спачатку чалавек жыў у нейкім залатым веку тэхналёгіяў, калі вынаходкі самі так і прасіліся ў рукі, нібыта яблыкі ў садзе ці кветачкі ў полі. Сучаснаму ж чалавецтву наканавана зьведаць увесь цяжар працы, узнагароджаны рэдкім натхненьнем геніяльнасьці.

Гэты наіўны погляд вынікае з усеагульнага няведаньня той складанасьці і разнастайнасьці апэрацыяў, безь якіх немагчымы самы просты прагрэс. Калі аднойчы паспрабавалі аднавіць працэс стварэньня каменных прыладаў, то аказалася, што недастаткова проста біць па камені, чакаючы, пакуль ён расколецца. Назіраючы гэткую ж працу тубыльцаў, якія й дагэтуль ажыцьцяўляюць тыя самыя апэрацыі, спэцыялісты адкрылі цэлы шэраг сродкаў, неабходных для таго, каб урэшце рэшт стварыць сапраўды вострыя прылады: малаток з супрацьвагаю, каб кантраляваць удар і накіроўваць яго; прыстасаваньні, якія зьмяншаюць вібрацыю, каб матэрыял не крышыўся. Трэба таксама мець шырокія веды пра

Уладзімер Арлоў

# Прароцтвы Розы Герцыковіч

паміж гародамі ня ставілі і, калі Хведараўна спускала з ланцуга пярэстага дварняка Дуная, той мог уяўляць сябе гаспадаром вялізнага абшару.

Праўда, ён, гэты абшар, імгненна мізарнеў перад тым, якім валодала хвастатая касманаўтка.

Задзёршы галаву, я стаяў на восеньскім холадзе й намагаўся разгледзець у прасьветах хмараў касьмічную будку зь вялікімі, ужо знаёмымі мне літарамі: СССР. У будцы ляцела да болю родная і блізкая істота.

О, як мне прагнулася хоць на дзень апынуцца ў ейнай шкуры, каб таксама імчаць над Зямлёй, націскаць лапамі кнопкі кіраваньня, радасна брахаць на зоркі і дасхочу есьці з кансаровак кількі ў тамаце, якімі — я быў непахісна перакананы — Лайку шчодра забясьпечылі да канца касьмічнае экспэдыцыі.

«Марш у хату! Хопіць аблокі пасьвіць!» — крычала мама.

Аўтарства другой фразы належала ня маме, а маёй бабулі Аўгіньні, што жыла ў прыдняпроўскай вёсцы пад Шкловам, куды мяне адвозілі ў траўні на ўсё лета.

Улетку пасьвіць аблокі было больш прыемна. Я клаўся на гумнішчы на растрэсенае шаматкое сена, мне пад бок падточваўся кот (бабуля ніколі не давала сваім катам імёнаў, называючы іх проста Катамі або Кошкамі), і мы гадзінамі глядзелі на пухнатыя, белыя, быццам безьліч дзьмуховых галовак, аблокі. З-за кустоў агрэсту й парэчак мядова пахла канюшына, галава ці то сам нагрэты сонцам дол прыемна плылі ў прасторы, безыменнаму кату сьніліся смачныя тлустыя мышы, і ён шчасьліва вуркатаў, раз-пораз торгаючы абсечаным за нязводную збрадлівасьць хвастом... Дрымота кралася й да мяне, але я балюча шчыкаў сябе за цыпкастую лытку, баючыся, што якраз тады, як на валасок засну, на адным з гэтых мяккіх, як узьбітая пярына, аблокаў і праплыве паўз бабуліна гумнішча Бог.

Бабуля Аўгіньня пасьпела ўжо ня толькі напалову легальна пахрысьціць мяне ў Копыскай царкве, але й развучыць са мною «Ойча наш». Я ведаў, што «ойча наш» — гэта і ёсьць Бог, а «на небясі» — значыць, на небе.

Тлумачыць, што такое «іжэ ясі», бабуля, спадзеючыся на ўнукаву кемлівасьць, палічыла залішнім. Апраўдваючы ейныя надзеі, я й хацеў падвіжваць, чым там «ойча наш» жывіцца. Можа, кількамі ў тамаце з бульбаю ў мундзірах?

Выдатна памятаю, што зайздрасьці да Бога — няхай сабе ён і харчаваўся б вылучна маёй улюбёнай гарадзкой стравою — у маёй маленькай душы і не начавала. Калі я яшчэ й не разумеў, дык адчуваў, што лёсы ў нас з Богам — зусім розныя. Ён быў ужо дужа стары і мусіў, нягледзячы на добрае харчаваньне, хутка памерці, а мяне перапаўняў кураж неўміручасьці. Ён быў вялікі начальнік, а я ніякім начальнікам рабіцца ніколі не зьбіраўся. Апрача ўсяго іншага, я страшэнна баяўся высачыні і меў слабы вэстыбулярны апарат: хапала двух кругоў на каруселях, каб рот напоўніўся агіднай салодкаю асцой й мяне пачало нудзіць.

Тады, увосень, шукаючы ў небе касьмічную будку, якую радыё мудрагеліста менавала біялягічным штучным спадарожнікам Зямлі, пра вэстыбулярны недахоп я начыста забыўся, бо, мабыць падсьвядома быў перакананы, што пераўвасобіўшыся ў сабаку, імгненна пазбаўлюся і ўсіх людзкіх хібаў.

Пакуль Лайка лётала, а я пасьвіў сярод хмараў свае лятункі, на зямлі распачыналіся розныя зьвязаныя з космасам падзеі.

У нас першым непасрэдным вынікам Лайчынага палёту сталася гераічная гібель Дуная.

Пасаджаны ў скрадзеную на піўзаводзе пустую бочку суседчын сабака выправіўся ў космас са старой чырвонай пампоўні на беразе Палаты.

На апошнім зямным прыстанку касманаўта №2 было таксама напісана «СССР» і яшчэ некалькі кароткіх, часта сустраканых на сьценах і плоце словаў, чый сэнс у тыя часы заставаўся для мяне загадкаю.

Трагічнае Дунаева прызямленьне, мушу сказаць, выклікала ў мяне болей усьцехі, чым смутку. Рэч ня ў тым, што ад нараджэньня я быў хлопчыкам нядобрым і злосным. Проста за месяц да таго Хведараўнін дварняк зьеў на падвячорак майго прывезенага зь вёскі зайца Колю, што пару тыдняў пажыў у скрыньцы з-пад яблыкаў, а потым уцёк і дні тры дыхаў воляй, грызучы на гародзе капусту й моркву.

Запуск Дуная ажыцьцявілі Ільлюша Шэф і Віця Бундзель. Яны ўжо хадзілі ў школу і ў іх прачыналіся таленты, што потым прывядуць абодвух у турму. Віця абрабуе ў Лепелі кватэру і атрымае першы тэрмін у дзясятай клясе, а Ільлюша сядзе за нешта ўжо ў Ізраілі, куды ад'едзе з бацькамі і са сваёй адметнаю магамэтанскаю мянушкаю — Мустафа.

Гэта Ільлюша Шэф навучыць мяне вершыка, праз які я ўпершыню спасьцігну сілу паэтычнага слова.

У той вечар бацька прывядзе на вячэру правяральніка з вобласьці і за сталом, каб пахваліцца сынам, мама папросіць пачытаць чужому дзядзьку што-небудзь напамяць. Я выстаўлю адну ножку наперад, закладу рукі за сьпіну і гучна й выразна прадэклямую:

*Вот к чему пришла наука:*
*В космосе летает сука,*
*Прославляя до небес*
*Мать твою КПЭСЭС.*

Бацька зьменіцца з твару і, ня зводзячы з госьця вачэй, выцягне з форменных пракурорскіх штаноў дзягу. Але дзядзька зарагоча, параіць мне не чытаць гэты вершык у дзіцячым садку і конча здыме напругу, падліўшы ў чаркі.

Апярэджваючы час, заўважу, што посьпехі СССР у дасьледаваньні космасу будуць у маім жыцьці й надалей зьвязаныя з паэтычнай творчасьцю — або народнай, або маёй уласнаю.

Пасьля палёту Церашковай на дошцы ў нашай клясе зьявіўся новы твор невядомага аўтара. Буйнымі літарамі і без памылак хтосьці вывеў крэйдаю чатыры дастаткова прафэсійныя радкі:

*Валентине Терешковой*
*За полёт космический*
*Подарил Хрущев Никита*
*... автоматический.*

Які падарунак прыпас касманаўтцы Хрушчоў, было, вядома напісана цалкам.

Гэты вершык бацька знайшоў у маім скончаным арыфмэтычным сшытку. Мы насілі тады прывязаныя да партфэляў торбачкі з чарніліцамі-каламаркамі і пісалі драўлянымі асадкамі з жалезнымі пёрамі. Гэтыя пёры вечна заядалі, пляваліся й пырскаліся, і старанна перапісаны мною твор на касьмічную тэму аздабляла з паўтузіна кляксаў.

Гістарычныя крыніцы сьведчаць, што за часамі Вялікага Княства Літоўскага памежная варта айчыны нашых продкаў, каб захаваць у памяці грамадзянаў дакладную лінію мяжы, практыкавала наступны мэтад. Мясцовых падлеткаў з усёй шчырасьцю секлі бізунамі дакладна на рубяжы дзяржавы. Як пасьля той экзэкуцыі ў сьвядомасьці да скону заставаліся «сфатаграфаваныя» пад бізуном межавыя камяні й дрэвы, так пасьля цяжкой бацькавай рукі з папругаю недзе ўва мне назаўжды аддрукавалася старонка з кепскім словам і падобнай да незнаёмага касьмічнага сузор'я чародкаю кляксаў.

Мой уласны вершык, складзены з нагоды кружляньня вакол зямное кулі першага трохмясцовага карабля «Узыход», вылучаўся першабытнай ідэалягічнай і лексычнай цнатлівасьцю. Але пра тое трохі пазьней. Вернемся ў восень, над якою лунала водгульле брэху знакамітай савецкае сучкі.

Сярод тых, каго ейны палёт уразіў, я перадусім згадваю яшчэ адну нашую суседку — Розу Саламонаўну Герцыковіч, якая часта заходзіла да маёй мамы паскардзіцца, што яе нявестка, жонка цёткірозінага сына Фімы, «пагульвае» і якая ўпарта клікала мяне ня Вовам, а Бобам.

Цяпер літаральна зь неба звалілася новая тэма.

Тоўстая, як дзьве ці нават дзьве з паловаю мамы, цётка Роза Герцыковіч не любіла размаўляць стоячы і велічна апускалася на нашую зялёную канапу, што пад раптоўным цяжарам скурчвалася і жаласна енчыла, быццам жывое стварэньне.

Выгодна ўладкаваўшыся, Фімава маці бралася апавядаць неверагодныя рэчы. Яна чула, што неўзабаве ў космас запусьцяць спадарожнік з мухамі, камарамі, прусакамі й блышчыцамі. На гэта мама зазначала, што прусакоў і блышчыцаў у нас, дзякуй богу, няма. Закрыўшы на нетактоўную заўвагу вушы, цётка Роза Герцыковіч распрацоўвала касьмічнае радовішча далей. Паводле яе словаў, усьлед за жамярой у міжплянэтную прастору стартане спадарожнік з катамі, потым, як яна казала, «зафугуюць» казу.

Я нясьмела цікавіўся пра акварыюмных рыбак. «Вада расплюхаецца», — адмахвалася суседка і пасьля казы прадракала палёт карове.

У ейных словах я адчуваў пэўную супярэчнасьць, бо — калі выводзіць на арбіту ўсіх па парадку — пачаць лягічна было б ня з Лайкі, а сапраўды з мухаў ці нават зь мікробаў. Але суседку гэткія тонкасьці не бянтэжылі, і яна прадказ-

Працяг на старонцы 22.

# І ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

радовішчы, сродкі здабычы, супраціў і структуру неабходных матэрыялаў, трэба «набіць руку» і г.д. Словам, гэта сапраўдны рытуал, які mutatis mutandis адпавядае розным этапам вытворчасьці ў мэталюргіі.

Вядома, прыродныя пажары іншы раз і падсмажаць ці падпякуць нешта, але вельмі цяжка уявіць сабе, як пад час іх (за выняткам выпадкаў, зьвязаных з вулканічнымі працэсамі, мала распаўсюджанымі на зямным шары) нешта можа зварыцца ці стушыцца над параю. Але ж гэтыя спосабы прыгатаваньня ежы таксама вядомыя паўсюль. Такім чынам, калі мы хочам патлумачыць першыя вынаходкі, нельга абыходзіць момант творчага акту.

Ганчарная справа зьяўляецца гэтаму выдатным прыкладам. Шырока распаўсюджаная думка, што няма нічога больш простага, чым наданьне кавалку гліны формы і абпальваньне яго на агні. Добра, хай паспрабуюць. Спачатку трэба знайсьці гліну, прыдатную для абпальваньня, і калі для гэтага патрэбная вялікая колькасьць умоваў, то ніводнай зь іх недастаткова, бо ніякая гліна, калі яе не зьмяшаць з дабаўкамі, выбранымі ў залежнасьці ад іх якасьцяў, ня дасьць пасьля абпальваньня прыдатнага для ўжываньня гаршчка. Трэба стварыць такую тэхналёгію, якая б дазволіла даволі складаны фокус, а менавіта: трымаць пэўны час у раўнавазе пластычную масу, якая распаўзаецца, і адначасова надаваць ёй форму; нарэшце, трэба знайсьці адпаведныя паліва, форму печы, устанавіць патрэбную цеплыню і вызначыць час абпальваньня, што ўрэшце, пасьля тысячаў і тысячаў гаршчкоў, якія трэсьлі, разваліліся ці атрымаліся бясформавыя, дазволіць стварыць трывалы гермэтычны посуд. Прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Гэтыя апэрацыі занадта шматлікія і складаныя, каб сьпісаць іх на выпадковасьць. Калі ўзяць кожную зь іх паасобку, яны нічога ня значаць, і толькі ўявіўшы, прааналізаваўшы і выпрабаваўшы іхную пасьлядоўнасьць, можна дасягнуць пэўнага посьпеху. Натуральна, і тут прысутнічае доля выпадковасьці, але сам па сабе выпадак ня можа даць плёну. Цягам паўтарох тысячаў гадоў на Захадзе ведалі пра існаваньне электрычнасьці. Вядома, яе адкрылі выпадкова, але гэтая выпадковасьць не прыносіла някай карысьці, аж пакуль не зьявіліся навукоўцы, якія накіравалі свае высілкі згодна з тэорыяй Ампэраў і Фарадэяў. У вынаходцы лука, бумэранга ці сарбакана, у зьяўленьні земляробства і жывёлагадоўлі выпадковасьць адыграла ня большую ролю, чымся ў адкрыцьці пэніцыліну, хоць, зразумела, безь яе на абышлося і тут. Такім чынам, трэба дакладна адрозьніваць перадачу тэхналёгіяў з пакаленьня ў пакаленьне, якая адбываецца адносна лёгка, дзякуючы штодзённымназіраньням і практыкаваньням, і стварэньне ды ўдасканаленьне прыладаў працы кожным пакаленьнем паасобку. Любая тэхналёгія заўсёды вымагае аднолькава моцнага ўяўленьня і настойлівых высілкаў, якой бы незвычайнай яна ні была. У грамадзтвах, якія мы называем першабытнымі, ня меней Пастэраў і Палісі, чымся ў сучасных.

Мы неўзабаве зноў зьвернемся да выпадковасьці і верагоднасьці, але ў іншым месцы і ў іншай ролі. Мы будзем карыстацца гэтымі памяткамі не дзеля таго, каб ляніва тлумачыць імі паходжаньне ўсіх вынаходак, а каб зразумець фэномэн, які знаходзіцца на іншым узроўні рэчаіснасьці: усьведамленьне таго, што хаця ўзровень уяўленьня, вынаходлівасьці, творчых высілкаў, трэба меркаваць, цягам усяе гісторыі чалавецтва застаецца больш-менш нязьменным, гэтае спалучэньне спрыяльнасьці да значных цывілізацыйных пераўтварэньняў толькі ў пэўны час і ў пэўных месцах. Бо, каб былі дасягнутыя такія вынікі, мала адных толькі псыхалягічных чыньнікаў: яны павінны прысутнічаць і быць аднародна накіраванымі ў дастатковай колькасьці асобаў, каб вынаходка была падхопленая; а гэтая ўмова, у сваю чаргу, залежыць ад цэлага шэрагу іншых гістарычных, эканамічных і сацыяльных чыньнікаў. Калі мы тлумачым адрозьненьне ў шляхах разьвіцьця цывілізацыяў, мы сутыкаемся зь неабходнасьцю спасылацца на комплексы прычынаў такой складанасьці і нестабільнасьці, што з тэарэтычнага ці практычнага пункту гледжаньня спазнаць іх немагчыма, бо непазьбежна ўзьнікаюць перашкоды, абумоўленыя мэтадамі назіраньня. І вось, каб разблытаць гэты тоўсты клубок з тонкіх і далікатных нітак, трэба было б, прынамсі, паддаць супольнасьць (а таксама й навакольны сьвет) доўгаму і стараннаму этнаграфічнаму досьледу. Ужо нават ня кажучы пра грандыёзнасьць такога заданьня, можна адразу зазначыць, што нават тыя этнографы, што праводзяць дасьледаваньні ў значна меншых маштабах, часьцяком сутыкаюцца ў сваіх назіраньнях з найдрабнейшымі зьменамі, выклікаными ўжо самім фактам іхнай прысутнасьці, якая зьяўляецца аб'ектам дасьледаваньня. Вядома, што на ўзроўні сучасных супольнасьцяў апытаньні грамадзкае думкі зьмяняюць арыентацыю гэтай самай думкі ўжо адным фактам свайго правядзеньня, абуджаючы ў грамадзтве ндзейны да гэтага фактар самааналізу.

Гэткі стан рэчаў апраўдвае ўвядзеньне ў грамадзкія навукі панятку верагоднасьці, якім ужо даўно апяруюць у некаторых галінах фізікі, напрыклад, у тэрмадынаміцы. Да гэтага мы яшчэ вернемся, а пакуль зазначым толькі, што ўся сукупнасьць адкрыцьцяў абумоўленая ня тым, што ў нашых сучасьнікаў болей геніяльнасьці. Якраз наадварот, паколькі мы ўжо канстатавалі, што ў любую гістарычную эпоху ад кожнага

Працяг на старонцы 22.

# Прароцтвы Розы Герцыковіч

Працяг са старонкі 21.

вала, што сьледам за каровамі ў космас пачнуць «фугаваць» крымінальнікаў.

Цётка Роза ня ведала, што праз некалькі гадоў Фіма ў адзін нешчасьлівы вечар засьпее жонку з палюбоўнікам і заржэ нявернiцу кухонным нажом, а таму не ўтаймоўвала сваёй фантазіі й сьцьвярджала, што над крымінальнікамі ў космасе будуць ставіць разнастайныя экспэрымэнты: карміць адной кукурузаю ці адным часныком з цукрам, высьвятляць, колькі дзён чалавек вытрымае бязь ежы і колькі без вады; алкашоў будуць нібыта трымаць на адной гарэлцы, а гвалтаўнікоў — падвешваць у касьмічных караблях за яйцы.

Змрочнае суседчына ўяўленьне шырока распроставала крылы, і наступнага дня на дадатак да ранейшых жудасьцяў мы даведваліся, што касьмічныя спадарожнікі з крымінальнікамі стануцца мішэнямі для савецкіх лётчыкаў альбо штo яна, цётка Роза Герцыковіч, напіша куды сьлед, каб да крымінальнікаў дзеля нейкіх незразумелых мне дасьледаваньняў запусьцілі ейную нявестку.

На жаль ці на шчасьце, натхнёныя прароцтвы Фімавай маці ня спраўдзіліся. За Лайкай у космас паляцелі ня мухі ці козы, а Белка й Стрэлка. («І доўга брахалі сабакі Над нашай савецкай зямлёй...» — напіша вядомы дзіцячы паэт.) Катоў, кароў і злачынцаў таксама абмінулі і на арбіту адразу закінулі проста чалавека.

Аднойчы на некаторых дамах нашае ціхае вуліцы памянялі шыльдачкі з назаю. Цяпер і наш дом, і школа, дзе я вучыўся ў першай клясе, стаялі, як казала настаўніца, на вуліцы першага савецкага касманаўта, і таму мы павінны былі ганарыцца і быць дастойнымі.

Можа, з тае прычыны, што выразаны з часопісу «Огонёк» Лайчын фотапартрэт па-ранейшаму вісеў у мяне над ложкам, несправядлівасьць настаўнічаных слоў успрымалася асабліва абвострана. Я атрымаў першы ўрок афіцыйнае хлусьні. Усе цудоўна ведалі, што першым касманаўтам была Лайка.

(Паколькі кантрапунктам у нас ідзе тэма зайздрасьці, зауважу, што, думаючы пра Юрыя Гагарына, я не знаходзіў у душы ні драбочка згаданага пачуцьця. Праз тое самае я чуў глыбокую чалавечую сымпатыю да цёткі Розы Герцыковіч. Ейныя прысьвечаныя касманаўтыцы апаведы неабвержна сьведчылі, што суседка таксама аніразу не пазайздросьціла захмарнаму герою і ніколі не пажадала ягонай долі ўлюбёнцу Фіму.)

Улетку ў мяне зьявіліся дадатковыя аргумэнты: ад свайго стрыечнага дзеда, а мамінага роднага дзядзькі Грышы я даведаўся, што Гагарын ня быў першым касманаўтам і сярод людзей.

Папярэдні раз дзед Грыша пераведваў родную вёску, калі ня быў мне ніякім дзедам, бо мяне яшчэ не існавала на сьвеце, а мой тата жыў ня з мамаю, а зь першай жонкаю, бо тая пакуль не хварэла на невылечную сухотку. Дарослыя казалі, што дзед Грыша «засакрэчаны», і, каб пераканацца ў гэтым, досыць было ўбачыць пасылкі, якія ён прысылаў нам з Масквы перад кожным новым годам. Уходаўшы тую таўшчэзную чырвоную рыбіну зь вясёлкавым пералівам на зрэзе, я цэлы месяц не ўспамінаў пра кілек, а буйныя разынкі ў першаклясным шакалядзе побач з абсыпанымі цукрам крамнымі «падушачкамі» выглядалі прывітаньнем зь іншае плянэты, якая ў сваім развіцьці апярэдзіла нашую не на стагодзьдзе, а назаўсёды.

Дзед Грыша быў абсалютна лысы, і я любіў спотайку разглядваць ягоную сьпярэшчаную сінімі, чырвонымі й зялёнымі жылкамі кавунаватую галаву, якая моцна выдавала на глёбус. Сваякі сьцьвярджалі, нібыта пра сваю маскоўскую працу дзед не прамовіць ні слова і на Страшным судзе. У памяць урэзалася, як сувора зірнуў ён на маю цётку, а сваю пляменьніцу Вольгу, калі тая, пачуўшы з радыё папулярнае тады абяцаньне дагнаць і перагнаць Амэрыку, пацьвердзіла, што так, дагонім, бо босым бегчы лягчэй. Аднак я добра запомніў і тое, як перад бабуляй Аўгіньняй дзед аднойчы крышку рассакрэціўся, паведаміўшы, што мае справы зь нябеснай канцылярыяй.

Другі раз дзед Грыша рассакрэціўся перада мною, калі, паслухаўшы радыёперадачу пра Гагарына, раптам хапянуў бяз закусі шклянку двойчы перагнанай бабулінай самагонкі і прыцішана сказаў — праўдзівей не сказаў, а ўсхліпнуў: «Эх, Воўка, колькі рабят да Гагарына на запусках папалілі...» і дадаў яшчэ некалькі словаў, якія мяне вучылі не казаць ніколі.

Я перажыў імгненьне, якое называюць момантам ісьціны. Маёй дзіцячай душы адкрылася, што сьлёзы на дзедавых, таксама лысых, амаль бязь веек, вачах накруціліся не ад магутнага бабулінага самагону, а ад таго, што дзед ня толькі ведаў тых «рабят», але й сам — страшна падумаць — паліў іх...

Зьлякаўшыся сваёй шчырасьці, дзед Грыша папрасіў мяне забыць пачутае, інакш яго могуць выгнаць з працы, а то й пасадзіць у турму. Я хацеў і надалей атрымліваць перад Новым годам маскоўскія пасылкі, а таму даў «чэснае акцябрацкае» і падмацаваў яго тым, што перахрысьціўся, як вучыла бабуля, на абраз Міколы-цудатворцы.

Пасылкі з прысмакамі прыходзілі яшчэ гадоў пяць. Вярнуўшыся зь дзедавых хаўтураў у вёску, цётка Вольга абвясьціла, што на паміньі прывезлі аднекуль два аўтобусы генэралаў.

Ні тады, ні пазьней, калі лёталі Быкоўскі зь Церашковай, і цётка Роза Герцыковіч, апавядаючы, што іх запусьцілі дзеля касьмічнага размнажэньня, абяцала абавязковае нараджэньне ўродцаў, я так і не адчуў аніякай ахвоты хоць на момант зрабіцца касманаўтам. Тым ня менш, папусьціўшыся агульнаму псыхозу, пасьля палёту першага шматмясцовага карабля, я напісаў свой першы вершаваны твор:

*Мчится тройка, мчится быстро*
*В корабле «Восход»,*
*И ведет его уверенно*
*Капитан вперед,*
*Там инженер-полковник,*
*Врач, ученый,*
*Отчизны верные сыны.*
*Вокруг земного шара*
*Вперед летят они.*

Потым я даведаюся, што некалькі вядомых замежных палітыкаў, у тым ліку і адзін былы амэрыканскі прэзыдэнт, увогуле не верылі ў рэальнасьць некаторых касьмічных караблёў з сэрыі «Ўзыход», успрымаючы іх як звычайную ідэалягічную туфту. У адрозьненьне ад гэтых мацёрых антысаветчыкаў, я быў артадаксальным патрыётам, што магу давесьці вершыкам, складзеным тады пра Амэрыку і яе насельнікаў. Вершык меў гучны назоў «Эмігранты» і пачынаўся (даруйце мне, неразумнаму, мае амэрыканскія суайчыньнікі і ўсе астатнія жыхары ЗША) так:

*В переулках трущобных*
*И на мусорных кучах*
*Вспоминаешь невольно*
*О Родине...*

Неўзабаве па палёце трохпілотнага «Ўзыходу» Фіма Герцыковіч і зарэзаў жонку. Відаць, ад перажываньняў біялягічны мэханізм, ад якога залежала паўната цёткі Розы, пачаў нарошчваць ейныя кілаграмы з катастрафічнай хуткасьцю. З такім самым эфэктам, як яна, на нашую гаротную канапу, мог, напэўна, сесьці сам прывакзальны жалезны Ленін. Карацей, канапе, нягледзячы на маштабныя посьпехі СССР у асваеньні космасу, надыйшоў гамон, а на новую ў бацькоў бракавала грошай.

Калі ў часе выпрабаваньня цяжкагрузнага карабля «Саюз» загінуў касманаўт Камароў, цётка Роза Герцыковіч да нас ужо не завітала. Яна не чытала гісторыка Фэрнана Брадэля, які аднойчы сфармуляў свой славуты пастулят, паводле якога «калі габрэі прыяжджаюць у нейкую краіну, гэта азначае, што жыцьцё там ідзе добра альбо пойдзе лепей, а калі ад'яжджаюць, — што яно ідзе дрэнна альбо зьменіцца на горшае». Фімава маці проста дачакалася сына з турмы і зьехала зь ім у Ізраіль.

Маёй цётцы Вользе, той самай, што некалі афарыстычна выказалася наконт нашага бегу навыперадкі з Амэрыкай, не было куды зьяжджаць, і яна воляйняволяй мусіла заняць нейкае месца ва ўсесаюзных шматмесяцавых размовах аб лёсе касманаўта Камарова.

Лёталі чуткі, што камандзір «Саюзу» не загінуў пры пасадцы, а толькі пакалечыўся. Адны бачылі людзей, што на ўласныя вочы бачылі, як Камароў прызямліўся на полі пад Новасібірскам, вылез з кабіны і папрасіў піва. Другія бажыліся, быццам чулі тое самае праз «варожы голас»...

Я быў пэўны, што падзея гэткага сумеру не абміне на яе гістарычнай радзіме і носьбітку старажытнага й слаўнага по-

# Выпадковасьць і цывілізацыя

Працяг са старонкі 21.

пакаленьня, якое хоча дасягнуць прагрэсу, патрабуецца толькі дадаць свае зьберажэньні да скарбаў, перададзеных ім продкамі. На дзевяць дзясятых менавіта продкам мы абавязаны нашымі багацьцямі і досьведам. А калі параўнаць даўнасьць зьяўленьня асноўных адкрыцьцяў з прыкладнаю датай зараджэньня цывілізацыі, як мы гэта ўжо рабілі сьмяхом, лічба выйдзе намнога большай. Тады мы канстатуем, што сельская гаспадарка зьявілася ня так і даўно: гэта займае адпаведна 2% ад агульнага часу існаваньня цывілізацыі; мэталюргія — 0.7%, альфабэт — 0.35%, Галілеева фізыка — 0.035%, тэорыя Дарвіна — 0.009%. Навуковая і прамысловая рэвалюцыя на Захадзе займае часавы пэрыяд, прыкладна роўны 1/500 агульнага ўзросту чалавецтва. Таму трэба быць вельмі асьцярожнымі, сьцьвярджаючы, што гэтай рэвалюцыі наканавана цалкам зьмяніць значэньне цывілізацыі.

Аднак, тым ня менш, верагодна — і такую канчатковую выснову мы спадзяемся зрабіць з нашых развагаў — што заходняя цывілізацыя праявіла сябе больш кумулятыўнай у дачыненьні да тэхнічных вынаходак (і навуковае думкі, якая робіць іх мажлівымі), чымся іншыя цывілізацыі; што, маючы той самы першапачатковы нэалітычны капітал, яна змагла значна яго памножыць (стварэньнем альфабэту, арытмэтыкі, геамэтрыі); але і што такія стагнацыі працягласьцю прыкладна ў дзьве з паловай тысячы год (зь першага тысячагодзьдзя да н.э. прыкладна да XVIII ст.), яна нечакана сталася цэнтрам прамысловае рэвалюцыі, якую паводле размаху, унівэрсальнасьці і значнасьці наступстваў можна параўнаць хіба што з тымі ператварэньнямі, якія адбыліся ў эпоху нэаліту.

Адсюль вынікае, што чалавецтва двойчы ў сваёй гісторыі, з інтэрвалам прыкладна ў дзьве тысячы гадоў, змагло назапасіць крытычную масу аднаскіраванага вынаходніцтва; і з аднаго боку, гэтая крытычная маса, а з другога — пераемнасьць, сканцэнтраваная на дастаткова кароткім часавым прамежку — і змаглі адбыцца складаныя тэхнічныя абагульненьні; абагульненьні, якія выклікалі значныя зьмены ва ўзаемаадносінах чалавека і прыроды, якія, у сваю чаргу, зрабілі магчымымі новыя зьмены. Карціна ланцуговае рэакцыі, прыведзенай у дзеяньне каталізатарамі, магла б стаць добрай ілюстрацыяй працэсу, які да нашых часоў адбываўся двойчы, усяго толькі двойчы ў гісторыі чалавецтва. Як гэта сталася?

Па-першае, ня трэба забывацца, што ў іншых месцах і ў іншы час маглі адбывацца іншыя рэвалюцыі такога ж кумулятыўнага характару, але ў асобных галіна. чалавечае дзейнасьці. Вышэй мы ўжо тлумачылі, чаму толькі нашу прамысловую рэвалюцыю ды яшчэ нэалітычную (якая па часе адбывалася раней, але закранала тыя ж праблемы) — чаму толькі іх мы можам лічыць сапраўднымі пераваротамі. Наша сыстэма каардынатаў дазваляе ацаніць іх. Пра астатнія пераўтварэньні, якія, вядома, адбываліся, захаваліся альбо вельмі фрагмэнтарныя, альбо глыбока скажоныя сьведчаньні. Яны ня могуць быць асэнсаваныя (прынамсі, цалкам асэнсаваныя) сучасным чалавекам: яны для яго быццам бы й не існавалі.

Па-другое, прыклад нэалітычнае рэвалюцыі (адзінае рэвалюцыі, якую сучасны заходні чалавек здольны даволі ясна сабе ўявіць) павінен перасьцерагчы яго ад спробаў даказаць перавагу пэўнае расы, рэгіёну ці краіны. Прамысловая рэвалюцыя пачалася ў Заходняй Эўропе; пасьля яна распаўсюдзілася на Злучаныя Штаты; пасьля — на Японію; пасьля 1917 г. яна набрала тэмп і ў Савецкім Саюзе. Магчыма, неўзабаве яна закране й іншыя рэёны; кожныя 50 гадоў яе полымя мацней успыхвае ў той ці іншай краіне. Чым у маштабах тысячагодзьдзяў стане наш дробны гонар за першынство ў часе?

За адну-дзьве тысячы гадоў нэалітычная рэвалюцыя ахапіла і басэйн Эгейскага мора, і Эгіпэт, і Блізкі Ўсход, і прасторы Інда, і Кітай; з таго часу, калі на радыёактыўным вугляродзе навучыліся вызначаць археалягічны ўзрост знаходак, мы можам меркаваць, што ў Амэрыцы эра нэаліту (больш старажытная, чым мы лічылі раней) пачалася не нашмат пазьней, чымся нэаліт у Старым Сьвеце. Цалкам верагодна, што тры-чатыры невялічкія даліны маглі б прэтэндаваць на пару-тройку стагодзьдзяў першынства ў гэтай рэвалюцыі. Што мы сёньня пра гэта ведаем? Наадварот, мы ўпэўненыя, што пытаньне «хто першы» ня мае прынцыповага значэньня менавіта таму, што адначасовы пачатак аднолькавых тэхналягічных катаклізмаў (якім адразу ж спадарожнічалі і сацыяльныя катаклізмы) на такіх вялікіх тэрыторыях і ў такіх аддаленых адзін ад аднога рэгіёнах даказвае, што яны абумоўленыя не геніяльнасьцю аднаго расы ці адной культуры, але залежаць ад такіх агульных умоваў, якія знаходзяцца па-за межамі чалавечае сьвядомасьці. Будзьце ўпэўненыя: калі б прамысловая рэвалюцыя не зарадзілася б у Заходняй ці Паўночнай Эўропе, яна пачалася б у нейкім іншым месцы зямнога шара. І калі — а гэта праўдападобна — ёй наканавана распаўсюдзіцца на ўсе кантынэнты, кожная культура зробіць у яе свой непаўторны ўнёсак, так што гісторыкі наступных стагодзьдзяў будуць законна лічыць пытаньне аб тым, хто на сто-дзьвесьце гадоў уступіў у фазу прамысловае рэвалюцыі, ня вартым увагі.

Адзначыўшы гэта, мы можам засумнявацца калі не ў неабходнасьці, то прынамсі ў апраўданасьці адрозьненьня паміж статычнай і кумулятыўнай гісторыяй. Ня толькі таму, што гэтае адрозьненьне мае дачыненьне да нашых суб'ектыўных праблемаў, як мы гэта ўжо паказалі, але й таму, што яно ніколі не бывае дакладным. Відавочна, што адносна тэхнічных вынаходак ніякі пэрыяд, ніякая культура ня могуць быць цалкам статычнымі. Усе народы маюць тыя ці іншыя тэхналёгіі, дастаткова складаныя для таго, каб гаспадарыць над навакольным асяродзьдзем, трансфармуюць іх, паляпшаюць або забываюць. Калі б ня гэтыя тэхналёгіі, людзі б ужо даўно зьніклі. Такім чынам, сутнасьць не ў

лацкага прозьвішча Герцыковіч. Мне ўяўляліся смуглявыя жыхары бэтлеемскіх ваколіцаў (зрэшты, вельмі падобныя да нашых нядаўніх суседзяў), якія чуюць з алейных цёткірозіных выснаў, што калі Камароў і ацалеў, дык яго ўсё адно зловяць і заб'юць альбо, у лепшым разе, назаўсёды куды-небудзь заканапацяць, каб ніхто не падумаў, што савецкія газэты, радыё і тэлебачаньне схлусілі савецкаму народу.

Пазыцыя цёткі Вольгі ва ўсёй гэтай гісторыі вызначалася яшчэ большай бескампраміснасьцю. Іканапісна падцяўшы вусны, маміна сястра сказала, што Бог нарэшце ўзяўся караць летуноў, якія безь ягонага дазволу панараблі ў небе дзірак і сапсавалі надвор'е дый жыцьцё наогул. Зраблю нотабэнэ: зь цёткаю была салідарная большасьць кабетаў зь яе шклоўскае вёскі Капысіца, што квітнела пад сонцам калгаснага ладу за тры кілямэтры ад тады яшчэ невядомай нікому Александрыі, чые жыхары гналі ня горшую ад капысіцкае самагонку і не падазравалі, што праз чвэрць стагодзьдзя адзін іхны зямляк узначаліць усенароднае змаганьне зь нейкай страшнай замежнай Натай.

Не, нікому зь іх — ні колішняму александрыйцу, ні першаму касманаўту-беларусу Клімуку, ні другому, Кавалёнку, у якога ў дэбютным палёце нешта ня зладзілася і назаўтра ж з хаты ў ягонае маці забралі прывезены напярэдадні тэлевізар — я, хоць забіце мяне, не зайздросьціў.

Калі нейкая кропля зайздрасьці і атруціла маю істоту, дык гэта да зусім нянаскага касманаўта Ніла Армстронга. Вось у яго быў сапраўдны палёт. Гэта, ведаеце, як круціцца вакол несусьветнае прыгажуні безьліч залётнікаў, цалуюць ручкі, падносяць падарункі, нехта за бачок ушчыкне і ня болей, а потым зьяўляецца той, што бавіць зь ёю ноч і застаецца першаадкрывальнікам.

І кволіцца недзе ў закануркаў душы мара — знайсьці, калі зноў патраплю ў Амэрыку, старыну Ніла й запытацца, што ён там такое на Месяцы, у тым Моры Спакою, убачыў і адчуў, што, кажуць, завязаў з космасам і нават схаваўся ад людзей і жыве самотнікам.

Разумею, што шанцы на адказ блізкія да нуля. Але мне падабаецца думаць, што — калі б яшчэ жыла бабуля Аўгіньня — старына Ніл мог бы, замест іхнага нядошлага віскі, хапянуць са мною чыстага, нібыта сьляза дзіцяці, перагону і, як некалі дзед Грыша, раскалоцца ды пасласць усю гэтую касманаўтыку на...

адрозьненьні паміж кумулятыўнай і некумулятыўнай гісторыямі. Любая гісторыя ў той ці іншай ступені зьяўляецца кумулятыўнай. Вядома, напрыклад, што старажытныя кітайцы і эскімосы дасягнулі значных посьпехаў у механіцы; ім забракавала трошкі, каб дасягнуць той кроплі, калі пачынаецца «ланцуговая рэакцыя», ад якой залежыць пераход ад аднога тыпу цывілізацыі да другога. Агульнавядомы прыклад з порахам: з тэхнічнага пункту гледжаньня кітайцы яго вынайшлі, але не змаглі знайсьці яму масавага практычнага ўжытку. Старажытныя мэксыканцы ведалі кола, хоць сёньня гэты факт часта аспрэчваецца; яны выкарыстоўвалі кола ў дзіцячых цацках-жывёлках. Яшчэ адзін крок — і яны мелі б фурманку.

У гэтых умовах праблема рэдкасьці (для кожнай сыстэмы каардынатаў) «больш кумулятыўных» культураў адносна «менш кумулятыўных» зводзіцца да вядомае тэорыі верагоднасьці. Мы сутыкаемся з той самай праблемай і пры вызначэньні адноснай верагоднасьці пэўнае камбінацыі лічбаў стасоўна іншых, прасьцейшых камбінацый таго ж тыпу. Напрыклад, у гульні ў рулетку два нумары запар (7 і 8, 12 і 13, 30 і 31) выпадаюць даволі часта, тры — радзей, чатыры — яшчэ радзей. І вельмі-вельмі рэдка выпадаюць шэсьць, сем альбо восем нумароў па парадку. Прыпусьцім, мы робім стаўкі на сэрыі зь пяці нумароў запар. Нашая ўвага сканцэнтраваная толькі на доўгіх сэрыях, і супадзеньні меншае колькасьці лічбаў для нас ня маюць значэньня. Тут мы забываемся, што яны адрозьніваюцца ад нашай сэрыі толькі велічынёй, але зь іншага гледзішча яны таксама ўяўляюць сабой пэўную пасьлядоўнасьць. Працягнем параўнаньне. Уявім сабе гульца, які ставіць на ўсё даўжэйшыя і даўжэйшыя сэрыі. У тысячны ці мільённы раз ён, так нічога і не выйграўшы, пачне думаць, што атрымаць пасьлядоўнасьць зь дзевяці нумароў немагчыма і што лепей спыніць гульню. Аднак гэта зусім ня значыць, што нейкаму іншаму гульцу, які таксама ставіць на пэўную камбінацыю, але іншага тыпу (напрыклад, на пасьлядоўнасьць у чаргаваньні чырвонага і чорнага, цотнага й няцотнага) не пашанцуе на буйную камбінацыю (пры гэтым першы гулец ня ўбачыць аніякае ўпарадкаванасьці). Чалавецтва разьвіваецца ў розных накірунках. І калі ў нейкім адным пляне яно, здаецца, стаіць на месцы або нават рэгрэсуе, гэта ня значыць, што і зь іншага пункту гледжаньня зь ім не адбываецца ніякіх станоўчых зьменаў.

Вялікі ангельскі філёзаф XVIII ст. Юм аднойчы паспрабаваў расьсеяць аблуду, у якую трапляюць многія людзі, задумваючыся, чаму прыгожыя ня ўсе жанчыны, а толькі некаторыя зь іх. Філёзаф зь лёгкасьцю паказаў усю бессэнсоўнасьць такой пастаноўкі пытаньня. Калі б усе жанчыны былі аднолькава прывабнымі, як першая красуня, мы б лічылі іх прыгажосьць банальнай і больш цанілі б прадстаўніц меншасьці, непадобных да астатніх. Гэтаксама, калі мы разглядаем пэўны тып прагрэсу, мы зьвяртаем увагу толькі на культуры, якія дасягнулі ягонае найвышэйшае кропкі і ігнаруем усе астатнія. Такім чынам, прагрэс — гэта заўсёды толькі вяршыня прагрэсу ў сэнсе, які кожны вызначае паводле свайго ўласнага густу.

**Пераклаў з французскай Мікола Шакель**

*Паводле Claude Levi-Strauss.*

*La Race et l'histoire. –Bruxelles, 1952.*

# ПРАКЛЯТАЕ ХАРАСТВО

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя газэты «Наша Ніва»!

Вам піша настаўніца роднай мовы і літаратуры Вялікабараніцкай няпоўнай сярэдняй школы Пружанскага раёну Уляна Дзьмітраўна Баран. Я ваш сталы падпісчык і карэспандэнт: не прапусьціла ніводнага нумару вашай газэты з дня яе аднаўленьня, а вы надрукавалі некалькі маіх нататак, а таксама пераклад «Марсэльезы» на беларускую мову, які я дасылала вам пад псэўданімам Ціхан Баран.

Пішу вам, бо мне вельмі патрэбныя парада й дапамога, але перш чым адкрыць сваю бяду, некалькі словаў пра сябе.

Па лятах я ўжо пэнсіянэрка, але ўсё яшчэ настаўнічаю. Сорак гадоў прарабіла тут, на сваёй бацькаўшчыне. Жыву ў двух кілямэтрах ад Вялікіх Баранічаў у вёсачцы Турукалы разам з мужам, Гнатам Ёвавічам, якому ў верасьні спаўняецца шэсьцьдзесят гадоў. Ён вельмі працавіты, чулы й спагадлівы чалавек, добры бацька й дзядуля. У цяжкіх умовах мы зь ім выгадавалі траіх дзяцей. Якія б віхуры нягодаў ня вылі над нашымі галовамі, мы заўжды вучылі іх жыць сумленна, быць адказнымі грамадзянамі сваёй краіны. Муж мае сорак чатыры гады працоўнага стажу, зь якіх апошнія дваццаць адшчыраваў загадчыкам гаспадаркі Вялікабараніцкай школы. Нялёгкае жыцьцё выпала на ягоную долю, а таму цяпер ён знаходзіцца на трэцяй групе інваліднасьці па здароўі. Аднак, нягледзячы на гэта, ён не сядзіць склаўшы рукі. Кожнае лета з дапамогай дзяцей і ўнукаў абрабляем для саўгаса дзялку буракоў, трымаем падсобную гаспадарку, не запускаем садок і гародчык, даглядаем дваццаць вульнікаў пчолаў. Мы з мужам выпісваем шмат газэтаў і часопісаў, перажываем за тыя падзеі, якія адбываюцца на роднай зямлі, падтрымліваем адраджэньне нашай мовы, культуры і гісторыі.

Пішу вам, а сама плачу. Плачу, бо ўсё гэта было праўдай да гэтага лета. Ой, што мне зрабілася гэтым летам... Толькі не пастаўцеся да майго ліста абыякава, парайце нешта, выратуйце мяне!

Усё пачалося з таго, што ў чэрвені я паглядзела па ОРТ фільм «Блакітны анёл» з Марлен Дытрых у галоўнай ролі. Фільм мне спадабаўся, бо мне ўвогуле яшчэ зь дзяцінства падабалася Марлен Дытрых. Паколькі мой муж запісаў фільм на відэакасэту, я на наступны дзень тройчы перагледзела яго — гэта было на сьвятога Анопрыя, нельга было працаваць. Наступнай ноччу я прысьніла Марлен Дытрых, што яна быццам бы кліча мяне за сабой, вабіць некуды, а я ня хачу йсьці, ня хачу і ўсё, і так і не пайшла. Тады яна



Здымак Дэйвіса Нугаўтаса

разгнявілася і кажа: «Ах, ты ня хочаш, ну то ты ператорвуешся ў мяне на месцы, калі ня хочаш». Сон быў дзіўны і, у прынцыпе, нядобры: як у сьне нябожчык цябе кліча, а ты за ім пойдзеш, то, значыць, што ты неўзабаве памрэш, што ён цябе за сабой на той сьвет павёў, а як ня йдзеш, то на дождж. Аднак я перш не надала свайму бачаньню вялікае ўвагі, маўляў, сьніцца то й сьніцца. Да таго ж, Анопры сёлета прыпаў на нядзелю, значыць, мне гэта сьнілася ў панядзелак, а мне ўсё жыцьцё казалі, што «ў панядзелак сон бязьдзелак», што панядзелкавыя сны не збываюцца. Дык во няпраўду мне казалі.

Адразу ж у чэрвені я стала імкліва рабіцца падобнай (у фізычным пляне) да Марлен Дытрых. З маіх валасоў сышла сівізна, і яны пабялелі, хоць у маладосьці я была чарняваю, як цыганка. Пасьвятлела, памаладзела, разгладзілася скура на ўсім целе, зьніклі маршкі, мой кірпаты нос зьмяніўся чыста, у позірку зьявілася хітрынка, зьнікла асымэтрычнасьць у рысах, сьпіна распрасталася, нават голас адмяніўся: я стала гаварыць з такой хрыпотцай, быццам бы ў мяне ангіна. Валасы самі сабой закучараўіліся. Што я толькі з сабой не рабіла: і плакала, і кляла, і бажылася, і малілася, і да бабкі хадзіла: яна мне загадала спаліць стужку з касэты, і той попел мужу падсыпаць —нічога не дапамагае.

Муж спачатку думаў, што я п'ю нейкія таблеткі, да некага хаджу, сачыў за мной, пасьля стаў думаць немаведама што, пабіў, хоць ніколі ў жыцьці рукі не ўзьнімаў, гразіўся пайсьці да ўчастковага. Сыны плююць і касавурацца, нявесткі перасталі гаварыць да мяне, бо я выглядаю маладжавей за іх. Суседзям аб'явілі, што я надта хворая, і я засьвятла не выходжу з хаты, бо як пабачаць, палічаць вядзьмаркай. Муж спаліў усе відэакасэты, у тым ліку й маіх улюбёных Пітэра Грынуэя і Леа Каракса і даў мне тэрмін да верасьня, да ягонага юбілею, каб я зноў стала нармальнаю. Што ў яго наўме, ня ведаю, ён стаў як шалёны, баюся спаць зь ім у адной хаце. Што рабіць? Я ўжо сабе ўвесь твар раздрапала; ўжо гатова адбыць сябе кіпнём.

Да царквы два месяцы не хаджу; ўся праца па гаспадарцы легла на майго чалавека; ён не ўпраўляецца; усё йдзе ўпастпасьць, усё ў занядбаньні. Вы мяне зразумейце: навошта мне ў шэсьцьдзесят гадоў позірк з хітрынкай і гладкія шчокі на хутары, дзе з мужчынаў мой муж наймалодшы? Мне ўжо пара на той сьвет забірацца. Я вайну бачыла, і партызанку бачыла, у Сібіры была, у Баўгарыі адпачывала, унукі дарастаюць. Пажыла баба, годзе. Каб яшчэ ў вялікім месяцы жыла, у Менску ў вас ці дзе, а то ж сьмех: зорка Галівуду назапашвае сена для цёлкі й засыпае бульбу ў лёх.

Дачка кажа: «На небі меліся абмаладзіць кагось, каму гэта патрэбна, хворага, мо, якога, ці каго, ды нешта зблыталі, і новая душа трапіла да цябе». Ды я не хачу таго харattachства, не хачу тае маладосьці. Ня так страшны сорам, як страшная распалавіненасьць. Што я маю на ўвазе? Замкнёная ў хаце ўдзень, я асабліва палюбіла начныя прагулянкі, хоць муж з-за гэтага проста месца сабе не знаходзіць. Выйдзеш да рэчкі: туман ярам-даліною, цёмныя абрысы. Нахілісься: пялёсткі ў расе, і бліжні конік сьціхае. Аблачынка ў небі хавае то адно, то другое сузор'е. І кожны ў гэтым сьвеце мае сваё імя: у кожнай зоркі ёсьць свая назва, у кожнай казуркі сваё менаваньне. А я, кім я ёсьць цяпер? Ці яшчэ Ўлянай, ці ўжо Марлен? Хочацца зацягнуць на ўвесь голас «Або пахавайце, або волю дайце!» Што там рэха, цікава, адкажа? Хочацца, а ня можна: людзі пачуюць.

Жах, што на душы дзеецца.

Грэх самой сабе сьмерць рабіць, дык хоць бы Бог мяне так доўга не трымаў, але мусіць, доўгае выпрабаваньне чакае мяне. Я й раней на здароўе не журылася, а цяпер і пагатоў: ем за дваіх, здарова як дзеўка.

Зноў жа, як умрэш такою маладзіцаю, дык урачы ж так проста не дадуць пахаваць, захочуць рэзаць на кавалкі, будуць мучыць нежывое цела. Баюся я гэтага. Альбо зірнуць у пашпарт, а там іншы твар, ніхто ж не паверыць, што гэта я, зацягаюць майго Ёвавіча па судох. Як бы хаця б састарыцца не да спазнаньня перад сьмерцю... Хаця б ні жывой, ні мёртвай ня чуць гэтага пытаньня без адказу: «Хто я?»

Парайце, дапамажыце, што зрабіць, каб толькі да дактароў не зьвяртацца. Не давяраю ім, баюся іх, за ўсё жыцьцё ні разу ў больніцы не ляжала.

Відавочна, што ў такім выглядзе я вымушана буду пакінуць працу, хоць працаваць яшчэ ў стане, новага настаўніка знайсьці будзе цяжка ды й грошы ў хаце ня лішнія. Праклятае харaство! Ня дай Бог, пабачаць мяне зьмененую, мае леташнія й былыя вучні. А настаўнік роднай мовы мусіць жа быць сымбалем Бацькаўшчыны!

І нават жудка падумаць, што я, магчыма, нейкі чарнобыльскі мутант. Хаця ўзровень радыяцыі ў нашым раёне ў межах нормы, памятаю, як на Першага траўня пасьля Чарнобыля мы са школьнікамі езьдзілі ў Пружаны на дэманстрацыю, і акурат церусіў дождж.

Пастаўцеся да майго ліста з разуменьнем, парайце, як мне паводзіцца. Зноў плачу: няўжо я стала ўсім вораг, нікому не патрэбная, нават улюбёнай газэце? Я ніколі ня верыла ў забабоны і цуды, але як тут ня зьехаць з глузду, калі глядзісься ў люстра, а стуль замест смуглявае цябе, ніколі ня бышай асабліва прыгожай, сталёва пазірае бездакорна-халодная Марлен?

Яшчэ раз дзякуй за тое, што надрукавалі мой пераклад славутай «Марсэльезы» — гэта была для мяне адзіная маленькая радасьць за ўсё лета. Праўда, вы дапусьцілі адну нязначную памылку ў французскім тэксьце: не «en fants (de la Patrie)», а «enfants», але гэта ні ў якім разе не паўплывала на якасьць публікацыі, хаця як сталы чытач не магу не заўважыць, што гэта ня першая памылка, якую вы робіце ў французскіх тэкстах.

Прашу прабачэньня, што непакою.

З павагай,

**Уляна Дзьмітраўна Баран**

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ



Бяз назвы, 1986, 280x400, алей, палатно. Нацыянальны музэй (Вроцлаў, Польшча)

# ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ. БЯЗ НАЗВЫ

Край, у якім нарадзіўся мастак, называюць па-рознаму: Беласточчына, Падляшша, для адных гэта Паўночны Ўсход Польшчы, для іншых — Беларусь... У гэтым краі ёсьць яшчэ меншы, каля самае Белавескае пушчы, куток — Гарадоччына. Невялікая кропка на мапе. Лясы ды лугі. У старасьвецкія часы маёмасьць князёў Ходкевічаў. Тут нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Адсюль у «Нашу Ніву» пісаў М.Арол, адзін зь першых паэтаў новага часу, чый рукапісны зборнічак дасёньня зьберагаецца ў Вільні. Гарадок — радзіма пісьменьніка Аляксея Карпюка. Сёньня тут жыве сем з паловаю тысячаў чалавек, беларусаў. Беларуская кропка на мапе. За кардонам... Свой кут і мяжа — неад'емныя складнікі ўстойлівага комплексу этнічных ідэяў на Беласточчыне.

... Па вайне гэты кавалак апынуўся адрэзаным ад астатняй Беларусі. Можна па-рознаму сёньня ацэньваць тое. Але Беласточчына ўсё ж не зазнала саветызацыі, якая сярпом прайшлася па беларускай ніве ў БССР. Засталіся на зямлі гаспадары. Засталася вера. Засталася мова. Ці ня гэта прадвызначыла лёс Тарасэвіча. Нягледзячы на тое, што ў ягоным родным куце не было моцнага беларускага руху, ён усё ж застаўся белай воронаю ў мастацкім жыцьці Польшчы. Ён не паляк, ён не каталік. У Варшаве, як ён сам кажа, Тарасэвіч пачуваецца эмігрантам. Сюды ён прыяжджае на гадзіну-другую па справах і назад, на бацькаўшчыну...

... Але, паводле гіроніі, менавіта ў Варшаве Лявон Тарасэвіч пазнаёміўся зь беларускім рухам. Тут ягоную самоту разьвеялі землякі зь іншых кутоў Беласточчыны, з Гайнаўшчыны й Бельшчыны, Юры Туронак, Ян Максімюк. З часу свайго студэнцтва Тарасэвіч апынуўся ў віры маладое беларушчыны. Першы часопіс пры царкве, праваслаўнае брацтва, часопіс «Сустрэчы», беластоцкая «Ніва». Не было бадай ніводнае беларускае ініцыятывы ў Польшчы, дзе б ня браў чыннага ўдзелу малады мастак...

... Гэтак сьвет падзяліўся назаўжды. Варшава, Варшаўская акадэмія, дзе лунаў вольны дух, дзе прафэсар па дватры месяцы ня цьвічыў студэнта, а прасіў толькі вынікаў, пакінула ў ім зерне духовае свабоды. «Праз 2-3 месяцы ён прыяжджаў да мяне, альбо я прывозіў работы, стаўлялі пляшку, і гаварылі. Бо кожны мусіць у мастацтве шукаць адказаў сам», — распавядаў пазьней Тарасэвіч. І Беларушчына, малая бацькаўшчына на ўскраіне, праваслаўе, бясконцы колазварот правінцыйных праблемаў, бясконцыя пошукі тае самае свабоды...

... Беларусь. Першы раз Тарасэвіч пабываў па другі бок кардону ў 88-м. Зьбіраў аскепкі цаглінаў у Навагрудку. Жахнуўся зь Менску. Зьненавідзеў сацрэалізм, Савіцкага і «народныя» сцэнічныя строі. Але не адхіснуўся. Беларусь для мастака гэта тое, што будуе цябе самога, калі ты будуеш сябе. З кожным днём гэта становіцца ўсё больш для яго патрэбным. Менск, Полацак, Віцебск. Вільня. Гэта апошняя прыступка Беларусі. Для Тарасэвіча, як і для ягонага земляка Каліноўскага — ад Мастаўлянаў да Вільні...

... Ужо ў часы студэнцтва, пасьля заняткаў скрэсьліваючы стосы абгортачнае паперы, Тарасэвіч ведаў свой шлях. Раскрытыя ў натуру, ягоныя працы не адлюстроўваюць яе мэханічна, але ствараюць сваю ўласную апрычоную вартасьць. Ляканізм стылю Тарасэвіча — праграмны. Перадусім раньні ягоны стыль — гэта белае й чорнае, а часам... аморфнае тло паковачнай паперы. Рытмы чорных абрысаў, скампанаваных у пэрспэктыве, ствараюць сваё, адчувальную, матэрыяльную, бачную прастору...

... Тарасэвіч увадначасьсе працуе над некалькімі палотнамі, стварaючы свае рэчы цэлымі нізкамі. Адна зьмяняецца наступнымі. Першыя нізкі былі чорна-белыя. Як самая беларуская зіма: рыхлая, захлюпаная, з адлігай і раптоўным марозам. Гэтак паўставалі ў засьнежанай смузе чорныя дрэвы, ральля праступілася з-пад сьнегу. Шарыя гадзіны за ваколіцай. Тое, што адчуваеш, калі бачыш. Для Тарасэвіча гэта прынцып: «У мяне штось такога ёсьць за домам: тая бель уваходзіць у чорнае». Чорнае зь белым праз мастака становяцца зямнымі вобразамі, даведзенымі да архетыпічнага сымбалізму, дзе кожны адкрые для сябе тое, чаго чакае. Польская публіцыстка, мастацтвазнавец Анда Ротэнбэрг гэтак апісала сваё знаёмства з жывапісам Тарасэвіча: «Першы раз пабачыла карціну Лявона на выставе ў касьцёле ў Варшаве, хіба ў 1984 годзе. Уласна дзьве карціны. Абедзьве выяўлялі чорныя, бязь лісьця галіны дрэваў на тле белае пусткі. Магла то быць зіма. Альбо нішто.

Я запомніла тую выставу, можа з-за тых дзьвюх карцінаў. А можа з прычыны іх ляпідарнае датасаванасьці да настрою трэцяй «ваеннай» зімы...» Яшчэ крыху ўяўленьня і можна сабе ўявіць, што Тарасэвіч пэйзажам пратэставаў супраць ваеннага становішча ў Польшчы, альбо адлюстраваў сваю трывогу за лёс беларускай нацыі. У 1992 годзе, калі мастак быў у рэдакцыі «НН» у Вільні, ён казаў: «Бессэнсоўна дашуквацца, што мастак хацеў сказаць і кожную рэч вытлумачыць... Каб было магчыма, я б тлумачыў, а не маляваў. А я малюю, нават подпісаў ніякіх не раблю, каб толькі гэтай мовай валодаць».

... Адкрылася выйсьце ў сьвет сьвятла... За чорна-белымі нізкамі пачынаецца новы экспэрымэнт. Элемэнтарныя кампазыцыі плямаў, пакладзеных у адмыслова важкія, канфліктныя спалучэньні, мусілі раскрываць не самое сьвятло, а таямніцу ягонага нараджэньня...

... Беларускасьць. Паводле Тарасэвіча «нацыянальнага мастацтва» ня йснуе наогул. Маўляў, гэта толькі частка дзяржаўнае прапаганды. А «нацыянальнае» выяўляецца толькі ў сэнсе адрасу, дзе мастак стаў мастаком, тае зямлі й тых пачуцьцяў, якія яго сфармавалі. Таму ў гэтым сэнсе няма розьніцы, кім ёсьць мастак паводле крыві, а ў тым, дзе (альбо праз што) ён ствараў... Тарасэвіч пісаў падчас падарожжаў у Ізраіль, альбо ў Нью-Мэхіка. Пад уплывамі прыроды гэтых далёкіх краёў пякучага сьвятла для яго прачыніліся новыя тайны трансфармацыяў колеру. Колеру, які праменіць. Гэта жоўты. Але ад гэтага знёмства з перасычаным сьвятлом мастак не перастаў усё ж быць тым, кім быў. Песьняром паветра гарадоцкіх ваколіцаў. Зацятым нонканфармістам. Дзеячом беларускае нацыянальнае меншасьці ў Польшчы, якому цікавей пасядзець пару гадзінаў на вакзале, чым у тэатры...

У 1986 годзе творы Тарасэвіча пабачылі ў Італіі, Швэцыі, Брытаніі. Слава маладога мастака набірала ходу. У гэты год ён стварае свой чарговы твор бяз назвы, які стаў падсумаваньнем таго, што ён шукаў яшчэ студэнтам. Ці ёсьць назва, ці не, алюзія на прыцярушанае сьнегам ворыва расчытваецца лёгка любым гледачом. Нават сам маштаб нагадвае пра брутальную рэчаіснасьць, якая стала правобразам самага чыстага й сьветлага з чалавечых словаў — Зямля.

Тарасэвіч, шукаючы ў прыродзе ўнівэрсальных матываў, надае ім чыста мастацкі сэнс. Разаранае поле становіцца ўвадначасьсе і архаічным сымбалем і абсалютнай гармоніяй, якую нясе у сабе энэргічны рытм разораў.

Барозны сыходзяцца ў даляглядзе, бязьмерна далёка за краем палатна. Дзе? Ад гэтага кута і мо за кардонам?...

Анда Ротэнбэрг у каталёзе нямецка-польскай мастацкай акцыі «Dialog» у 1989 г. анансавала творчасьць Тарасэвіча гэтак: «Уласна ўсе карціны Лявона ёсьць пэйзажамі. Можна сказаць больш: гэта пэйзажы раўніны, якія месцам нараджэньня й жыцьця аўтара прывязаныя да ваколіц вёскі Валілы, а шырэй — да абшару, які мае шмат геаграфічных назваў, такіх як Падляшша, Беласточчына, Беларусь... Сапраўды гэта могуць быць пэйзажы шмат якіх мясцовасьцяў у той геаграфічнай шыраце. І ніводнага канкрэтнага».

**Сяргей Харэўскі**



**ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ** (1957, Валілы, Беласточчына) жывапісец, графік. Мастацкую адукацыю атрымаў у Варшаве, у Польскай Акадэміі Мастацтваў, дзе вучыўся з 1979 да 1984 г. Займаўся ў майстэрні прафэсара Тадэвуша Дамініка. Жыве і працуе ў вёсцы Валілы, што на Беласточчыне.

**У ПАПЯРЭДНІХ НУМАРАХ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ТВОРЫ:**




"Наша Ніва" незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ........ Павал Жук
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы



АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: edit@niva.minsk.by
http://rampage.ml.org/users/~nasa_niva



© НАША НІВА. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая.



Наклад 2850. 12 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 1:33, 12/1/1998. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 10[illegible] Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12